ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# САВЕЦКАЯ КРАІНА



ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА ПРЫ БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

КРАСАВІК

№ 4 (6)

1931

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ.

Прашу на старонках часопісу „Савецкая Краіна“ зьмясьціць наступнае:

1) Даручэньне Ц.Б.К завербаваць 10 падпісчыкаў на часопіс „Савецкая Краіна“ па Азарыцкаму раёну мною выканана поўнасьцю.

2) Надаючы асабліва важнае значэньне час. „Савецкая Краіна“ ў справе організацыі і кіраўніцтва савецкім краязнаўствам, бяруся ў парадку соцспаборніцтва сабраць падпіску яшчэ на 20 экзэмпляраў па Азарыцкаму раёну да 1 мая гэтага году.

3) Выклікаю праз часопіс „Савецкая Краіна“ зрабіць тое самае таварышоў: Немцава — Асіповіцкі раён, Бруя — Тураўскі раён, Падбярэзнага — Нараўлянскі раён, Белахвостава — Мсьціслаўскі раён, Славіна — Бабруйскі раён, Лапцэвіча — Рагачэўскі раён, Нікалаева — Гомельскі раён, Нікіфаровіча — Барысаўскі раён, Уладзімірава — Барысаўскі раён, Купрэвіча — Смалявіцкі раён, Палонскага — Аршанскі раён, Ламнёва — Клімавіцкі раён, Турука — Халопеніцкі раён, проф. Салаўёва — Горацкі раён, усе Раённыя Бюро Краязнаўства і ўсіх абвясьціўшых сябе ўдарнікамі ў краязнаўчай рабоце.

Член корэспондэнт ЦБК
Т. П. КУЛАКОЎ.

*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

# САВЕЦКАЯ КРАІНА

ШТОМЕСЯЧНЫ ОРГАН

ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА

ПРЫ

БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

ГОД ВЫДАНЬНЯ ДРУГІ

красавік

№ 4 (6)

МЕНСК — 1931

**Ф. П. Садоўскі.**

# За актыўнае змаганьне з вялікадзяржаўным шовінізмам.

## Посьпехі барацьбы з ухіламі ў нацпытаньні — у рашучым ажыцьцяўленьні ленінскай нацыянальнай політыкі.

На старонках часопісу „Савецкая Краіна“ мы ставілі задачай паказаць шырокім масам рабочых, колгасьнікаў, батрацтва, беднаты і серадняцтва ўсю контр-рэволюцыйнасьць, усю шкоднасьць для соцыялістычнага будаўніцтва беларускага нацыянал-дэмократызму — гэтага агента міравога і ў першую чаргу польскага фашызму. Радам зьмешчаных артыкулаў, з зьністажаючай крытыкай варожасьці і шкоднасьці контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму ўва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва, навукі і культуры, мы паказалі шырокім працоўным масам БССР, як нацдэмы, распальваючы зьвярыны шовінізм у масах, зьвярыную нянавісьць беларускай нацыянальнасьці да ўсіх прадстаўнікоў небеларускай нацыі—у першую чаргу да вялікарускай—імкнуліся разарваць адзіны фронт пролетарыяту ўсіх нацыянальнасьцяй СССР у соцыялістычным будаўніцтве, імкнуліся адарваць беларускі пролетарыят і працоўных ад соцыялістычнага будаўніцтва, імкнуліся памяшаць пераможнаму ходу соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР, павярнуць назад да капіталізму, зьнішчыць ненавісную нацдэмам дыктатуру пролетарыяту ў БССР, утварыць сваю буржуазную капіталістычную БНР пад протэктаратам фашыстоўскай Польшчы — гэтага авангарду і зьлючага цэрбэра міравога імпэрыялізму.

У гэтых менавіта мэтах нацдэмам патрэбны былі ўсе іх „тэорыі“ аб гістарычнай, экономічнай, біолёгічнай і інш. самабытнасьці Беларусі, для гэтых мэт патрэбны былі абгрунтаваньні самабытных шляхоў разьвіцьця апошняй ад Расіі; у гэтых мэтах зразумела падрыўная, контр-рэволюцыйная работа нацдэмаў, накіраваная на нізрынуцьце дыктатуры пролетарыяту ў БССР пры дапамозе інтэрвэнцыі, якую яны рыхтавалі „ўкупе і ўлюбе“ з міравым імпэрыялізмам, з контр-рэволюцыянэрамі, шкоднікамі ўсіх колераў і адценьняў унутры СССР.

Пільны вартавы пролетарскае дыктатуры спыніў брудную справу інтэрвэнцыяністаў—беларускіх контр-рэволюцыйных нацдэмаў, пролетарыят БССР сурова пакарае іх — сваіх ворагаў—і зробіць пэўныя вынікі для далейшага пасьпяховага будаўніцтва соцыялізму ў СССР.

Было - б памылковым думаць, што на сёньня мы ўжо цалкам зьнішчылі ў БССР нацыянал-дэмократызм. Рэшткі яго яшчэ застаюцца, прытуліліся ў падпольлі, бо ня зьнішчаны яшчэ ўмовы, параджаючыя нацыянал-дэмократызм. У наліччы яшчэ клясы і клясавая

барацьба, у наліччы яшчэ кулацтва і нэпманы, якія шалёна супраціўляюцца пераможнаму социялістычнаму будаўніцтву, пасьпяховаму пабудаваньню социялістычнага грамадзтва.

Асноўнай задачай пролетарскіх і працоўных мас БССР зьяўляецца задача рашучага выкарчоўваньня рэшткаў беларускага контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму, зьнішчыць у бліжэйшы час самы грунт, на якім можа ўзрастаць гэты шкодны для социялістычнага будаўніцтва, для справы міравой пролетарскай рэволюцыі нацыянал-дэмократызм. Павышэньне энтузыязму шырокіх працоўных мас на социялістычнае будаўніцтва, правядзеньне няўхільна генэральнай лініі партыі па індустрыялізацыі краіны, социялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі і ліквідацыі кулацтва, як клясы, на базе суцэльнай колектывізацыі, — асноўная і грунтоўная зброя ў руках пролетарыяту ў барацьбе з усімі шкоднымі плынямі і ўхіламі ад генэральнай лініі партыі. Аграмаднейшай і магутнай зброяй у арсэнале барацьбы з беларускім контр-рэволюцыйным нацыянал-дэмократызмам зьяўляецца няўхільнае правядзеньне ленінскай нацыянальнай політыкі, барацьба супроць ухілаў ад ленінскай нацыянальнай політыкі і асабліва супроць вялікадзяржаўнага шовінізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе.

## Сувязь ухілаў у нацпытаньні паміж сабою.

Трэба заўважыць, што нельга разглядаць ухілы ад ленінскай нацыянальнай політыкі асобна, ізолявана адзін ад другога. Нельга ўразумець часам мясцовых шовінізмаў, нацдэмократызму, без разгляду сувязі апошніх з вялікадзяржаўным шовінізмам і наадварот. Узмацненьне настрояў вялікадзяржаўнага шовінізму выклікае ўзмацненьне мясцовых шовінізмаў і наадварот. Адно толькі яскрава, што ў канечным пункце абодва гэтыя шовінізмы змыкаюцца на агульных задачах рэстаўрацыі капіталізму — вялікадзяржаўны шовінізм у інтарэсах вярнуць сабе ўтрачаныя прывілеі для панаваўшай раней вялікарускай нацыі, а мясцовыя шовінізмы ў інтарэсах утварэньня самастойнай буржуазнай нацыянальнай дзяржавы, а агульная для абодвух мэта — рэстаўрацыя капіталізму.

Гэтым менавіта можна тлумачыць меўшыя месца пэўныя стыкі паміж махровымі нацдэмамі і вялікадзяржаўнымі шовіністамі ў БССР. Гэта тлумачыцца тым, што і вялікадзяржаўныя шовіністы і нацдэмы зьяўляюцца носьбітамі інтарэсаў аднае клясы — буржуазіі, а інтарэсы гэтае клясы розных нацый агульныя.

Важную ролю для стыку вялікадзяржаўных шовіністаў з нацдэмамі трэба аддаць тэй пераафарбоўцы першых у нацыяналістаў, якая адбылася пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі. Справа ў тым, што пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі расійская буржуазія ўскладала вялікія надзеі на так званую „цэнтрабежную сілу рэволюцыі“. Яна бачыла пагібель пролетарскай дыктатуры ў тым, што ад РСФСР аддзяляецца Украіна, Польшча, Фінляндыя, Латвія, Беларусія і іншыя нацыянальныя акраіны і падтрымлівала гэтае аддзяленьне ў нацыяналістычным, буржуазным — капіталістычным разуменьні гэтага процэсу, які выкліча (па думцы буржуазіі) аслабленьне бальшавікоў і іх капітуляцыю, утворыць мажлівасьць больш лёгкага разгрому ненавісных ёй бальшавікоў. Як бачна, стаўка была на тое, каб праз асобныя буржуазныя нацыянальныя організмы прыйсьці да „адзінай, непадзельнай Расіі“. Прыведзеныя тут прычыны пры агульнасьці канечных мэт у вялікадзяржаўнікаў і ў нацдэмаў і былі цэмантам для стыку ў радзе

пытаньняў паміж імі. Гэтым і толькі гэтым можна вытлумачыць саюз такіх махровых і чорнасоценных вялікадзяржаўных шовіністаў, як Дурнаво, Жарынаў, Любаўскі, Карскі і інш. з беларускімі нацдэмамі. Вынік з усяго вышэйпаказанага адзін, каб выбіць зброю з рук нацдэмаў і вялікадзяржаўных шовіністаў, неабходна правільнае ажыцьцяўленьне, няўхільнае правядзеньне ленінскай нацыянальнай політыкі комуністычнай партыі. Неабходна рашучая, упартая, ваяўнічая барацьба на два фронты з ухіламі ад ленінскай нацполітыкі, правадзімай комуністычнай партыяй.

## Соцыяльна-клясавы зьмест ухілаў у нацполітыцы.

У чым існасьць, соцыяльна-клясавы зьмест абодвух ухілаў ад ленінскай нацполітыкі як у бок вялікадзяржаўнага шовінізму, так і ў бок мясцовых шовінізмаў?

Вось як яскрава гаворыць аб гэтым т. Сталін у сваёй справаздачы на XVI зьезьдзе ЎсеКП(б):

„Існасьць ухілу да вялікадзяржаўнага шовінізму месьціцца ў імкненьні абыйсьці нацыянальныя разьлічча мовы, культуры, быту; у імкненьні падрыхтаваць ліквідацыю нацыянальных рэспублік і абласьцей; у імкненьні падарваць прынцып нацыянальнай роўнасьці і разьвянчаць політыку партыі па нацыяналізацыі апарату, нацыяналізацыі прэсы, школы і іншых дзяржаўных і грамадзкіх організацый“.

І далей.

„Існасьць ухілу да мясцовага нацыяналізму месьціцца ў імкненьні абасобіцца і замкнуцца ў рамках свае нацыянальнай шкарлупы; у імкненьні затушаваць клясавыя супярэчнасьці ўнутры свае нацыі; у імкненьні забараніцца ад вялікарускага шовінізму шляхам адыходу ад агульнага патоку соцыялістычнага будаўніцтва; у імкненьні ня бачыць таго, што набліжае і аб'яднае працоўныя масы нацыянальнасьцяй СССР, і бачыць толькі тое, што можа іх аддаліць адзін ад аднаго“.

Бяз лішніх комэнтараў вынікае з прыведзенага, што, ня гледзячы на ўсю сваю надворную процілегласьць абодва гэтыя ўхілы прыводзяць да аднаго агульнага — першы праз фактычнае аслабленьне і падпарадкаваньне слабейшых нацый, другі праз разабшчэньне, разьдзяленьне адзінства нацый — да ліквідацыі дыктатуры пролетарыяту СССР, да рэстаўрацыі капіталізму.

## Вялікадзяржаўны шовінізм — галоўная небясьпека на даным этапе.

XVI зьезд УсеКП(б) з усёй рашучасьцю завастрыў увагу на неабходнасьці рашучага змаганьня на два фронты з ухіламі ад ленінскай нацыянальнай політыкі, кваліфікуючы ўхіл да вялікадзяржаўнага шовінізму, як галоўную небясьпеку на даным этапе.

„Галоўную нябясьпеку на даным этапе ўяўляе вялікадзяржаўны ўхіл, які пытаецца рэвізаваць асновы ленінскай нацыянальнай політыкі і пад сьцягам інтэрнацыяналізму прыкрывае імкненьне аджываючых клясаў панаваўшай раней вялікарускай нанацыі зьвярнуць сабе ўтрачаныя прывілеі.

Упоравень з гэтым актывізуецца ўхіл да мясцовага нацыялізму, які паслабляе адзінства народаў СССР і грае наруку інтэрвэнцыі“.

Аднолькавы соцыяльна-клясавы зьмест абодвух ухілаў заметны кожнаму. Як-бы ня імкнуўся вялікадзяржаўны ўхіл апрануць на сабе тогу інтэрнацыяналізму, „інтэрнацыяналізм“ гэты будзе накіраваны выключна на „зварот панаваўшай раней вялікарускай нацыяй утрачаных прывілей“, як і мясцовы шовінізм па словах т. Сталіна на XVI зьезьдзе (політсправаздача ЦК):

„атабражае нездавальненьне аджываючых клясаў раней прыгнечаных нацый рэжымам дыктатуры пролетарыяту, іх імкненьне абасобіцца ў сваю нацыянальную дзяржаву і ўстанавіць там сваё клясавае панаваньне.

Небясьпека гэтага ўхілу месьціцца ў тым, што ён культывуе буржуазны нацыяналізм, аслабляе адзінства працоўных народаў СССР і грае на руку інтэрвэнцыяністаў“.

Небясьпечнасьць ухілу да вялікадзяржаўнага шовінізму шмат мацней таму, што калі мясцовыя шовінізмы маюць яскрава выяўленую буржуазную падаплёку, лёгка раскрываемую для ўсякага працоўнага, то вялікадзяржаўны шовінізм маскуецца ў „рэволюцыйную“, „інтэрнацыянальную“ лушпавіну, якую ня так проста адразу разглядзець. Але калі паглядзець у глыбіню пытаньня, калі глыбока прааналізаваць гэты ўхіл, то ўскрыецца ўся яго рэакцыйнасьць, контр-рэволюцыйнасьць і шкоднасьць.

Вось як т. Сталін у політсправаздачы ЦК на XVI зьезьдзе ЎсеКП(б) доказвае небясьпеку ўхілу да вялікадзяржаўнага шовінізму, як галоўную на даным этапе.

„Ухілістыя гэтага тыпу выходзяць з таго, што, так як пры перамозе соцыялізму нацыі павінны зьліцца ў адно, а іх нацыянальныя мовы павінны прэўраціцца ў адзіную агульную мову, то прышла пара для таго, каб ліквідаваць нацыянальныя разьлічча і адмовіцца ад політыкі падтрыманьня разьвіцьця нацыянальнай культуры раней прыгнечаных народаў. Яны спасылаюцца пры гэтым на Леніна, няправільна цытуючы яго, а часам проста скажаючы і ўзводзячы паклёп на Леніна“.

І далей тав. Сталін даводзіць:

„Ленін ніколі не гаварыў, што нацыянальныя разьлічча павінны зьнікнуць, а нацыянальныя мовы павінны зьліцца ў адну агульную мову ў межах аднэй дзяржавы, да перамогі соцыялізму ў сусьветным маштабе. Ленін гаварыў нешта проста працівалеглае, што „нацыянальныя і дзяржаўныя разьлічча паміж людзьмі і краінамі... будуць трымацца ашчэ вельмі доўга нават пасьля ажыцьцяўленьня дыктатуры пролетарыяту ў сусьветным маштабе“ (т. XVII, ст. 178)... Ленін ніколі не гаварыў, што зьністажэньне нацыянальнага ўціску і зьліяньне інтарэсаў нацыянальнасьцяй у адно цэлае роўнасільна зьністажэньню нацыянальных ральліччаў. Мы зьністожылі нацыянальны ўціск, нацыянальныя прывілеі і ўстанавілі нацыянальную роўнасьць. Мы зьністожылі... дзяржаўныя межы... прымежныя слупы і мытныя перашкоды паміж нацыянальнасьцямі СССР... Але гэта ня значыць, што мы зьністожылі тым самым нацыянальныя разьлічча мовы, культуры, быту і г. д. Але калі нацыянальныя разьлічча, мова, культура, быт і г. д. застаюцца, то патрабаваньні зьністажэньня нацыянальных рэспублік і абласьцей у даны гістарычны пэрыод зьяўляюцца запатрабаваньнямі рэакцыйнымі, накіраванымі супроць інтарэсаў дыктатуры пролетарыяту... у пагоне за паказным інтэрнацыяналізмам нашы

ухілісты папалі ў лапы рэакцыйных вялікарускіх шовіністаў і забыліся аб лёзунгу культурнай рэволюцыі ў пэрыод дыктатуры пролетарыяту, які мае аднолькавую сілу для ўсіх народаў СССР, і для вялікарусаў, і для невялікарусаў... Ленін ніколі не гаварыў, што лёзунг нацыянальнай культуры пры дыктатуры пролетарыяту зьяўляецца рэакцыйным лёзунгам. Наадварот, Ленін заўжды стаяў за тое, каб памагчы народам СССР разьвіць сваю нац. культуру".

Прыведзеная цытата з дакладу т. Сталіна яскрава паказвае існасьць ленінскага разуменьня нацполітыкі і ўсю антыкомуністычнасьць, шкоднасьць ухілістаў да вялікадзяржаўнага шовінізму. Асноўная задача партыі пролетарыяту ў пэрыод дыктатуры пролетарыяту і заключаецца ў тым, каб, ваяўніча змагаючыся з ухіламі ад ленінскай нацыянальнай політыкі, даць мажлівасьць разьвіцьця ўсім нацыянальнасьцям да той ступені, каб разам з пролетарыятам панаваўшай раней нацыі ўвайсьці ў соцыялізм, зьліцца ў адзінай (па зьместу і па форме) культуры пасьля перамогі соцыялізму ў сусьветным маштабе. Для гэтага і толькі для гэтага комуністычная ленінская партыя рашуча змагаецца з усялякімі антыпартыйнымі ўхіламі ў нацыянальным пытаньні. Комуністычная партыя разглядае нацпытаньне не як самамэту, а як магутны сродак праз сваю нацыянальную культуру (нацыянальную па форме, пролетарскую па зьместу) пераможна прыйсьці да комунізму. З гэтага пункту гледжаньня лёзунг нацыянальнай культуры пры дыктатуры пролетарыяту зьяўляецца рэволюцыйным лёзунгам у процівагу рэакцыйнасьці яго пры буржуазным ладзе.

Вось што па гэтаму пытаньню мы чытаем у політсправаздачы т. Сталіна на XVI зьезьдзе ЎсеКП(б):

„Ленін стаяў цалкам і поўнасьцю за лёзунг разьвіцьця нацыянальнай культуры ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту... Адмаўленьне лёзунгу нацыянальнай культуры ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту азначае адмаўленьне неабходнасьці культурнага ўздыму невялікарускіх народаў СССР, адмаўленьне неабходнасьці агульнаадукацыйнай асьветы для гэтых народаў, аддачу гэтых народаў на духоўную кабалу рэакцыйным нацыяналістам.

Ленін, сапраўды, кваліфікаваў лёзунг нацыянальнай культуры пры панаваньні буржуазіі, як лёзунг рэакцыйны, бо буржуазная па свайму зьместу і нацыянальная па сваёй форме культура, мае сваёй мэтай атруціць масы атрутай нацыяналізму і ўзмацніць панаваньне буржуазіі. Соцыялістычная па свайму зьместу і нацыянальная па форме (нацкультура пры дыктатуры пролетарыяту — заўвага аўтара) культура мае сваёй мэтай выхаваць масы ў духу інтэрнацыяналізму і ўзмацніць дыктатуру пролетарыяту".

Як вынікае з сказанага тут, Ленін заўжды моцна біў па буржуазнаму зьместу нацыянальнай культуры, а не па яе нацыянальнай форме. Пагэтаму ад тых, хто бярэ стаўку на ліквідацыю нацыянальных культур зараз, так і нясе густым пахам махровых вялікадзяржаўных шовіністаў, бо... „пэрыод дыктатуры пролетарыяту і будаўніцтва соцыялізму ў СССР ёсьць пэрыод росквіту нацыянальных культур, соцыялістычных па зьместу і нацыянальных па форме" (Сталін — політсправаздача ЦК XVI зьезду).

Патрэбна рашуча даць бой галоўнай небясьпецы ў нацыянальным пытаньні — вялікадзяржаўнаму шовінізму, адначасова не паслабляючы

барацьбы з усімі іншымі мясцовымі шовінізмамі. Партыя і надалей павінна змагацца ў нацпытаньні на два фронты, як на два фронты вяла яна барацьбу і раней. На гэту двухбаковую барацьбу супроць нацыяналізму Ленін паказваў з усёй яскравасьцю, не застаўляючы аніякіх сумненьняў:

„Пролетарыят павінен патрабаваць свабоды політычнага аддзяленьня колёній і нацый, прыгнятаемых „яго“ нацыяй. У праціўным выпадку інтэрнацыяналізм пролетарыяту застанецца пустым і славесным: ні давер'е, ні клясавая солідарнасьць паміж рабочымі прыгнечанай і прыгнятаючай нацыі немажлівы“.

Тут Ленін высоўваў перад пролетарыятам панаваўшых нацый задачу патрабаваньня поўнага вызваленьня прыгнечаных нацый ад уціску буржуазіі „сваіх“ нацый. Але побач з гэтым і перад соцыялістамі прыгнечаных нацый Ленін высоўвае таксама пэўныя задачы ў нацыянальным пытаньні. Вось гэтыя задачы:

„Соцыялісты прыгнятаемых нацый асабліва павінны адстойваць і праводзіць у жыцьцё поўнае і бязумоўнае, у тым ліку і організацыйнае, адзінства рабочых прыгнетаемай нацыі з рабочымі прыгнятаючай нацыі. Бяз гэтага немажліва адстаяць самастойную політыку пролетарыяту і яго клясавую солідарнасьць з пролетарыятам іншых краін пры ўсіх і ўсялякіх прадзелках, здрадзе і шальмаўстве буржуазіі, бо буржуазія прыгнечаных нацый ператварае лёзунгі нацыянальнага вызваленьня ў абман рабочых“.

Яскравейшым прыкладам для ілюстрацыі прыведзенага тут зьяўляецца здрадніцтва нацыянал-вызваленчаму руху Гандзі ў Індыі, які прадаў інтарэсы індыйскага пролетарыяту (як гэта прадсказаў Ленін у прыведзенай цытаце) імпэрыялістычнай ангельскай і „роднай“ індыйскай буржуазіі.

На неабходнасьць рашучага змаганьня менавіта з абодвума ўхіламі ад ленінскай нацыянальнай політыкі ўказвалі X і XII зьезды ЎсеКП(б) у сваіх рэзолюцыях па нацпытаньню, прычым ухіл да вялікадзяржаўнага шовінізму ўжо і тады кваліфікаваўся X зьездам УсеКП(б), як галоўная небясьпека:

„Зьезд рашуча асуджае абодва гэтыя ўхілы, як шкодныя і небясьпечныя для мэт комунізму, лічыць патрэбным указаць асобую небясьпеку і асобую шкоднасьць першага ўхілу — ухілу ў бок вялікадзяржаўнасьці, колёнізатарства“.

Вывад павінен быць зроблены з усіх прыведзеных доказаў адзін, што галоўную небясьпеку на даным этапе стварае вялікадзяржаўны шовінізм, што барацьба з ім павінна быць у цэнтры ўвагі, што апрача ідэолёгічных і організацыйных мер барацьбы з гэтай галоўнай на даным этапе небясьпекай, агромную ролю павінны адыграць і экономічная дапамога адсталым, прыгнятаемым раней, акраінным нацыям, каб падцягнуць, падняць гэтыя адсталыя, прыгнятаемыя вякамі нацыі і экономічна і культурна да роўню панаваўшай раней вялікарускай нацыі. Гэтым пытаньням савецкая ўлада аддае шмат увагі, менавіта гэтым тлумачыцца тое, што больш сотні розных нацыянальнасьцяй у СССР, раней ураждаваўшых, рэзаўшыхся паміж сабою, зрабілі з СССР краіну нацыянальнага супрацоўнічаньня па шляху пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва, замест былой турмы народаў.

## Выканаць дырэктывы партыі аб беларусізацыі—баявая задача дня.

БССР у складзе Савецкага Саюзу, дзякуючы правільнаму правядзеньню ленінскай нацыянальнай політыкі дасягнула значных посьпехаў. За 10 год свайго існаваньня ў складзе СССР яна вырасла экономічна і культурна і далей шпарка ідзе па шляхуператварэньня з адсталай краіны ў магутную індустрыяльна-колгасную частку СССР. Увесь час свайго социялістычнага будаўніцтва БССР уздымаецца на ровень сваіх сабратоў РСФСР і УССР, каб разам з усімі нацыянальнасьцямі прыйсьці да социялізму. Беларусізацыя і карэнізацыя апарату БССР у радзе задач социялістычнага будаўніцтва займалі патрэбнае месца, даючы ў рукі працоўных мас БССР сапраўды магутную зброю для экономічнага і культурнага ўздыму, а з другога боку выбіваючы з рук ворагаў пролетарскай дыктатуры ў БССР, ярых буржуазных беларускіх шовіністаў—тыпу нацдэмаў, нацопортуністаў і інш.—зброю барацьбы супроць савецкай улады.

Гэтым тлумачыцца тая ўвага, якую зьвяртала КП(б)Б на правядзеньне беларусізацыі і карэнізацыі. Гэтым тлумачацца і тыя агромныя посьпехі у гэтай галіне, якіх дабілася БССР.

Але-ж поруч з гэтым мы наглядаем і адваротнае зьявішча. Асобныя няўстойлівыя элемэнты з КП(б)Б, у некаторых мясцох і асобныя організацыі КП(б)Б, пад націскам дробна-буржуазнага і буржуазнага асяродзьдзя, забываюцца на неабходнасьць сталага, штодзённага ажыцьцяўленьня дырэктыў КП(б)Б у нацпытаньні, упускаюць гэтыя дырэктывы, аслабляюць увагу да нацпытаньня, об'ектыўна гэтым даючы мажлівасьць узрадзіцца і праявіцца вялікадзяржаўнаму шовінізму. Рад выпадкаў недаацэнкі, ігнараваньня, невыкананьня дырэктыў КП(б)Б аб беларусізацыі, аб якіх шмат паведамлялася ў нашым друку, навочна сьведчаць аб наліччы ў БССР галоўнай небясьпекі—вялікадзяржаўнага шовінізму. Ці-ж не праявамі вялікадзяржаўнага шовінізму можна вытлумачыць актыўнае і пасыўнае супраціўленьне беларусізацыі ў апаратах: Белкоопсаюзу, Белколгасцэнтру, Наркамзему, Наркамфіну, асабліва на чыгунцы і ў іншых цэнтральных установах Менску („Зьвязда“ № 88 ад 31/III-31 г.). Ці ня вылазкай махровых вялікадзяржаўных шовіністаў трэба лічыць вылазку настаўніцы Семяжаўскай школы, Чырвона-Слабодзкага раёну Гуло і загадчыка гэтае школы, закончанага опортуніста—Новіка. Узмацненьнем пазыцый вялікадзяржаўнага шовінізму трэба лічыць і тую недаацэнку кампаніі правядзеньня месячніку беларусізацыі на мясцох—Полацак, Клімавічы, Юравічы і інш. („Зьвязда“ № 88 ад 31/III-31 г.). Гэта сьведчыць аб тым, што ва ўмовах абвостранае клясавае барацьбы, калі вядзецца рашучае наступленьне социялістычных элемэнтаў на ўсіх франтох, клясавы вораг актыўна выступае супроць ленінскай нацыянальнай політыкі, і, у пэўных выпадках, выкарыстоўваючы ўсё, выяўляецца ў выглядзе вялікадзяржаўнага шовінізму. У Талачынскім раёне вялікадзяржаўны шовінізм зьявіўся натуральным вынікам недаацэнкі беларусізацыі з боку парторганізацыі, бо толькі гэтым можна вытлумачыць рад заяў адказных раённых работнікаў, што „калі я ня буду ведаць беларускую мову, то мяне ў турму не пасадзяць, а калі будзе правалена гаспадарчая кампанія, ці ня будуць даны своечасова весткі, то могуць пасадзіць у турму“—Чарнушын, Захарэнка і інш. („Зьвязда“ № 88 ад 31/III-31 г. „Аб задачах беларусізацыі“—А. Гаруновіч). Рад абураючых выпадкаў вялікадзяржаўнага шовінізму мелі месца ў Аршанскім, Крупскім, Лоеў-

скім і шмат іншых раёнах. Усё гэта сьведчыць аб паслабленьні ленінскіх позіцый у нацпытаньні, усё гэта—вынік забвеньня і невыкананьня дырэктыў ЦК КП(б)Б, гэта сьведчыць аб неразуменьні ленінскай нацыянальнай політыкі асобнымі, нават адказнымі членамі партыі і асобнымі вясковымі ячэйкамі. Усё гэта сьведчыць асабліва аб недастатковай увазе справе беларусізацыі і растлумачэньня асноў ленінскай нацполітыкі сярод тэхнічнай інтэлігенцыі—інжынэраў, агрономаў, тэхнікаў, дактароў і іншых з боку адпавядаючых профсаюзных організацый. Для гэтых організацый і асоб на сёнешні дзень усё яшчэ застаецца незразумелым, што беларусізацыя зьяўляецца сродкам уцягненьня сапраўдна шырокіх беларускіх працоўных мас у сапраўднае социялістычнае будаўніцтва. Толькі неразуменьне гэтага штурхнула асобных членаў партыі ў абдымкі вялікадзяржаўных шовіністаў і шовіністаў іншых колераў і адценьняў.

Трэба рашуча ўзяцца за выкананьне ўсіх дырэктыў ЦК КП(б)Б аб беларусізацыі, трэба органічна беларусізаваць апарат, організаваць сапраўднае абслугоўваньне шырокіх мас наведвальнікаў на іх роднай мове. Трэба адмовіцца ў далейшым ад формальнай папернай беларусізацыі апарату, дзе вяршыцелем і адзіным „правадніком беларусізацыі“ зьяўляецца машыністка, якая ратуе кіраўнікоў гэтых устаноў ад ганебнага „правалу“, прыкрываючы чыноўніча-бяздушныя адносіны да гэтага важнейшага пытаньня.

КП(б)Б і краіна зараз праводзяць рашучую барацьбу з выкрытым беларускім контр-рэволюцыйным нацыянал-дэмократызмам, ставячы сваёй задачай выкарчаваць рэшткі і зьнішчыць самы грунт, на якім узраджаецца гэты від шовінізму. Цікава адзначыць, што вялікадзяржаўны шовінізм скарыстаў гэтую барацьбу з беларускім нацыянал-дэмократызмам у сваіх контр-рэволюцыйных мэтах. Распускаючы провокацыйныя чуткі аб тым, што беларускае прыгнятаецца, за беларускую справу садзяць у турму, пропагандуючы, што беларускія контр-рэволюцыйныя нацдэмы-інтэрвэнцыяністы былі барацьбітамі за беларусізацыю і за гэта пасаджаны ў турму,—вялікадзяржаўныя шовіністы імкнуцца гэтым самым узбудзіць працоўныя масы Беларусі супроць савецкай улады і яе органаў—органаў пролетарскай дыктатуры. Трэба сказаць, што ў колах часткі беларускай інтэлігенцыі гэтакая пропаганда мае пэўны посьпех і пэўныя вынікі. Такая інтэлігенцыя шарахаецца ўбок ад беларусізацыі; ня маючы дастатковага і належнага растлумачваньня асноў ленінскай нацыянальнай політыкі, ігноруе культурнае будаўніцтва, кідаецца ў абдымкі вялікадзяржаўных шовіністаў і лье ваду на млын кулацкай капіталістычнай рэстаўрацыі. Недаацэнка нацпытаньня ў асобных парторганізацыях яшчэ больш спрыяе гэтаму працэсу.

Характэрна адзначыць, што значныя колы інтэлігенцыі БССР зусім адхінуліся ад краязнаўчай работы, не разумеючы таго, што краязнаўчая работа—форма ўцягненьня шырокіх мас у социялістычнае будаўніцтва краіны праз вывучэньне свайго раёну. Тая акалічнасьць, што беларускі контр-рэволюцыйны нацыянал-дэмократызм выкарыстоўваў старое краязнаўства ў сваіх контр-рэволюцыйных інтэрвэнцыяніцкіх мэтах і што гэта было выкрыта, у пропагандзе вялікадзяржаўных шовіністаў вытлумачваецца так, што нацдэмы арыштаваны за тое, што працавалі ў краязнаўстве, а таму вынік для такіх пластоў інтэлігенцыі, бяжы далей ад краязнаўчай працы, ня выпісвай і ня чытай краязнаўчага часопісу „Савецкая Краіна“.

Адрыжкай вялікадзяржаўнага шовінізму трэба лічыць і тое, зараз распаўсюджанае зьявішча, што калі па тым ці іншым пытаньні сказаў нацдэм хоць і правідлова, дык трэба сказаць абавязкова наадварот. „Напрыклад, калі нацдэм гаворыць, што беларуская соцыялістычная грамада зьяўлялася папярэдніцай КП(б)Б, дык трэба сказаць, што наадварот, беларуская соцыялістычная грамада была і ёсьць контр-рэволюцыйная і рэакцыйная організацыя. Калі нацыянал-дэмократызм зрабіў Кастуся Каліноўскага нацыянальным гэроем і папярэднікам бальшавікоў у Беларусі, дык трэба сказаць як-раз наадварот, што К. Каліноўскі—ёсьць чорны рэакцыянэр, яшчэ горшы чым Мураўёў-вешацель". („Зьвязда" № 91 ад 3/IV-31 г.—Рыўлін—„Да пытаньня аб павышэньні тэорытычнай вучобы партактыву"). У гэтым-жа артыкуле т. Рыўлін далей прыводзіць цэлы рад выпадкаў такога тэорытычнага ўпрашчэнства. Напрыклад, дакладчык у т-ве гісторыкаў-марксыстаў на тэму аб „Нашай Ніве" так зарапартаваўся, што „забыўся аб дыялектычным падыходзе да пытаньня, перагнуў палку, даказваючы, што „Наша Ніва" суцэльная контр-рэволюцыйная організацыя".

У барацьбе з контр-рэволюцыйнай нацыяналістычнай тэорыяй „самабытнасьці" ў нас часта забываюцца аб асаблівасьцях разьвіцьця БССР, якія сапраўды ёй уласьцівы.

Усё гэта гаворыць за тое, што тыя, хто не ўладае дыялектычным мэтодам марксызму-ленінізму ў гарачнасьці барацьбы скатваецца на буржуазныя позіцыі вялікадзяржаўнага шовінізму, скатваецца да адмаўленьня нацыянальнай формы. Гэтая небясьпека на сучасным этапе соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР ёсьць і зараз наступіў момант рашуча ўдарыць па гэтай небясьпецы, а разам з ёю і па вялікадзяржаўнаму шовінізму, як галоўнай небясьпецы на даным этапе.

Недарма, ня гледзячы на рад даных раней КП(б)Б дырэктыў па нацпытаньню, ЦК КП(б)Б вынес яшчэ спэцыяльную пастанову „Аб мерапрыемствах па ўзмацненьню беларусізацыі". У гэтай пастанове падрабязна даюцца дырэктывы, ставяцца задачы перад усімі парторганізацыямі і перад савецкім дзяржаўным апаратам аб рашучым правядзеньні беларусізацыі. Задача ўсіх партыйных організацый, усіх ячэек, усіх членаў КП(б)Б, профсаюзаў, савецкага апарату заключаецца ў тым, каб дасканала азнаёміўшыся з гэтай пастановай, дасканала вывучыўшы яе, рашуча ўзяцца за прэтварэньне яе ў жыцьцё.

Ігнараваньню, недаацэнцы нацпытаньня і беларусізацыі, як сродку прыабшчэньня шырокіх працоўных мас Беларусі да соцыялістычнага будаўніцтва, павінен быць пакладзены канец. Рашучым правядзеньнем беларусізацыі, рашучым ажыцьцяўленьнем дырэктыў ЦК КП(б)Б аб абслугоўваньні іншых нацыянальнасьцяй БССР на іх роднай мове, рашучым правядзеньнем работы па эканамічнаму і культурнаму ўздыму ўсіх нацыянальнасьцяй БССР, рашучым ажыцьцяўленьнем ленінскай нацыянальнай політыкі,—нанясем руйнуючы ўдар вялікадзяржаўнаму шовінізму.

---

**С. Баркоўскі.**

# Першае мая на Беларусі.

*(Гістарычны нарыс).*

Першае мая—сьвята міжнароднае солідарнасьці і протэсту пролетарыяту ўсяго сьвету супроць эксплёатацыі, дасягаючай свайго найвышэйшага росквіту пры капіталізьме. У гэты дзень мільёны працоўных усіх краёў, пад кіраўніцтвам сваіх комуністычных партый, зьбіраюцца пад чырвоным сьцягам, падлічваюць свае дасягненьні, *падлічваюць свае сілы.* Дзень першага мая зьяўляецца сьвятам надыходзячай перамогі над капіталізмам, у змаганьні за лепшую будучыню, за соцыялізм. На працягу больш трыццаці гадоў у дзень першага мая ў б. Расійскай імпэрыі пролетарыят выходзіў на вуліцу і вёў бязупыннае змаганьне з самаўладзтвам і ў гэтым змаганьні навучаўся перамагаць. Шматгадовае змаганьне прывяло ў выніку да таго, што рабочыя ў саюзе з бяднейшым сялянствам і батрацтвам былой царскай Расіі пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі ў кастрычніку 1917 г. ўзялі ўладу ў свае рукі.

### Устанаўленьне сьвята.

Сорак год таму назад, 14 ліпня 1889 г., быў адчынены ў Парыжы I конгрэс II Інтэрнацыяналу. На ім зарадзілася ідэя рабочага сьвята, і была прынята першая рэзолюцыя аб сьвяткаваньні Першага мая.

„Вызначаецца вялікая міжнародная маніфэстацыя,—пісалася ў ёй,—у час раз назаўсёды ўстаноўлены такім чынам, каб разам ва ўсіх гарадох у адзін установлены дзень рабочыя прад'явілі грамадзкай уладзе запатрабаваньні зьмяншэньня законам рабочага дня да васьмі гадзін, а таксама выкананьня ўсіх другіх пастаноў міжнароднага конгрэсу ў Парыжы.

У зьвязку з тым, што гэткая-ж маніфэстацыя ўжо вызначана на 1-ае мая Амэрыканскай фэдэрацыяй працы на конгрэсе гэтай фэдэрацыі ў Сан-Люі ў сьнежні 1888 г., то гэты-ж самы дзень прыняты і для міжнароднае маніфэстацыі.

Рабочыя розных нацыянальнасьцяй організуюць гэту маніфэстацыю так, як гэта ім будуць дазваляць умовы іх краю".

На заклік конгрэсу адгукнуўся пролетарыят большасьці дзяржаў. Рабочыя Францыі, Бэльгіі, Гішпаніі, Аўстрыі і Паўночнай Амэрыкі адсьвяткавалі 1-ае мая 1890 г. спыненьнем працы.

На другім конгрэсе, які адбыўся ў Брусэлі ў 1891 г., зноў была прынята рэзолюцыя аб першамайскім сьвяце, якая дапаўняла першую.

„Міжнароднае сьвята 1-га мая,—чытаем у ёй,—адначасова прысьвечана прынцыпу 8 гадзін, рэглямэнтацыі працы і сусьветнаму ўмацаваньню пролетарыяту ў яго імкненьні зацьвердзіць згоду паміж народамі.

Конгрэс, каб захаваць за 1-м мая яго сапраўдны соцыяльны характар запатрабаваньня васьмігадзіннага рабочага дня і замацаваньня клясавага змаганьня, устанаўляе адзіную дэмонстрацыю для рабочых усіх краёў. Гэта дэмонстрацыя прызначаецца на першае мая, рэкомэндуецца спыненьне працы там, дзе гэта магчыма".

У 1893 г., у Цурыху трэці конгрэс таксама пастанавіў аб неабходнасьці баставаць у дзень Першага мая.

Сярод некаторых соцыял-дэмократычных організацый былі спробы перанесьці майскае сьвята на вечар пасьля працы, або на бліжэйшую нядзелю.

Гэта асабліва яскрава выявілася сярод нямецкіх соцыял-дэмократаў. Так, 1-е мая 1890 г. нямецкія рабочыя сьвяткавалі ў наступную нядзелю і гэтым фактам было адразу зьменшана рэволюцыйнае значэньне Першага мая. А ўжо адсюль пачалося опортуністычнае прыслужніцтва, лізаблюдзтва, угодніцтва перад буржуазіяй і згода з ёю.

Конгрэс, які ў 1904 г. сабраўся ў Амстэрдаме, ухваліў:

„Пацьвярджаючы пастановы міжнародных конгрэсаў у Парыжы 1889 г., у Брусэлі 1891 г., Цюрыху ў 1893 г. і ў Парыжы 1900 г., міжнародны конгрэс у Амстэрдаме самым рашучымм чынам прапануе партыйным соцыял-дэмокаратычным організацыям і профэсіянальным саюзам усіх краёў кожны год 1-га мая маніфэставаць на карысьць увядзеньня законадаўчым шляхам васьмігадзіннага рабочага дня, зьдзяйсьненьня клясавых запатрабаваньняў пролетарыяту і агульнага міру.

Каб найлепш наладзіць першамайскія дэмонстрацыі, трэба спыніць працу.

Для таго конгрэс абавязвае пролетарскія організацыі ўсіх краёў спыніць працу ў дзень Першага мая ўсюды, дзе гэта можа быць выканана бяз шкоды для інтарэсаў рабочых".

Ня гледзячы на такія пастановы сваіх конгрэсаў, II Інтэрнацыянал на практыцы пайшоў у бок опортунізму і згодніцтва, ён усё болей і болей зварачаў на шлях рэформ, мірнага разьвіцьця, парлямэнтарызму, адмаўленьня клясавага значэньня мас, змаганьня шляхам паўстаньня.

Ужо за дзесяць год да пачатку імпэрыялістычнае вайны Першае мая страціла сваю рэволюцыйную афарбоўку, сваё былое значэньне і зрабілася нейкім абрадам, традыцыяй.

У буржуазіі страх прайшоў. А ў час вайны першамайскі сьцяг быў скручаны і паложаны ў архіў, а над галовамі пролетарыяту, які буржуазія вяла на пагібель за інтарэсы свае кішэні, быў разгорнуты соцыял-дэмократычнымі правадырамі II Інтэрнацыяналу сьцяг нацыянальны.

## Сьвяткаваньня Першага мая на Беларусі да рэволюцыі 1905 г.

Гісторыя Першага мая на Беларусі цесна зьвязана з гісторыяй рабочага руху ў Расіі і на Беларусі. Ва ўмовах політычнага і нацыянальнага ўціску, экономічнага прыгнечаньня з боку самаўладзтва рабочым Беларусі прыходзілася організоўвацца і ратавацца ад эксплёатацыі. Рабочыя організацыі па гарадох Беларусі існуюць з 70-х

гадоў, калі ўжо шмат гурткоў існавала ў Вільні, Дзьвінску, Менску, Магілеве, Горадні і інш. мясцох; усе яны нават уходзілі організацыйна ў адну організацыю; у склад іх уваходзілі рабочыя і вучні. Менскія народавольцы ў 1880—82 г.г. мелі сваю моцную організацыю і налічвалі ў сваіх гуртках да 200 рабочых.

У 1892 г. адбываецца першая патаемная маёўка віленскіх рабочых, на якой былі сказаны чатыры прамовы, у якіх адзначалася важнасьць і значэньне першамайскага сьвята. На ёй абмяркоўваліся тыя запатрабаваньні, якія ў гэты дзень павінны быць выстаўлены рабочымі. Тут намячаліся некаторыя практычныя крокі, якія дыктаваліся ходам рэволюцыйнага руху. Гэта была пара гурткоўшчыны, калі рабочы рух на Беларусі яшчэ ня стаў масавым рухам.

З прамоў віленскіх рабочых відаць, што пропаганда ідэй соцыялізму пачынала выходзіць за межы гурткоў. „Мы ня можам сядзець, злажыўшы рукі,—казаў адзін прамоўца,—і чакаць дапамогі зьверху; толькі ад нас саміх залежыць наша вызваленьне і ратунак“.

„Мы павінны змагацца з нашымі бліжэйшымі ворагамі, з нашымі гаспадарамі... мы павінны старацца заснаваць касы і клапаціцца аб іх пашырэньні. Мы павінны наладжваць забастоўкі. Для забастовак нам неабходны касы, якія ў гэты час зьяўляюцца адзінай дапамогай“.

Гэтая прамова сьведчыць, што задачы рабочага руху былі яшчэ на роўні толькі эконоічнага змаганьня і адмовы ад змаганьня політычнага, якое адкладвалася на больш позьні час.

Пасьля гэтага году шырокія разьмеры атрымала сьвяткаваньне 1-га мая ў Польшчы. Адбыліся дэмонстрацыі і забастоўкі ў Лодзі, Жырардаве, Варшаве. Гэта былі гады вядомыя пад назваю „ўсерасійскага разбурэньня“, якое нанесла магутны ўдар па падгніваючай монархіі Раманавых. Пачынаючы з 1895 г. сьвяткаваньне Першага мая набывае шырокія разьмеры. Майскія сходы былі наладжаны ў розных гарадох Беларусі. 1896 год быў адзначаны першамайскім сьвяткаваньнем: у Менску прымала ўдзел 300 чалавек, у Вільні 540. На чырвоных сьцягах былі лёзунгі: „Мы змагаемся за свабоду сходаў і друку“. У параўнаньні з чыста экономіічнымі лёзунгамі мінулага году—гэта быў некаторы крок наперад, але як і раней пра змаганьне з сама ўладзтвам, пра задачы неабходнасьці нізрынуцьця царызму яшчэ сказан ня было.

За час з 1895 па 1897 г. раскіданыя рабочыя соцыял-дэмократычныя гурткі ў буйных цэнтрах Расіі яднаюцца ў „Союзы борьбы за освобождение рабочего класса“. У Пецярбурзе на чале „Саюзу“ стаіць У. І. Ленін. У 1896 г. ў Пецярбурзе выдаецца проклямацыя, прысьвечаная Першаму мая, напісаная Леніным, надрукаваная на міміографе ў ліку 3-х тысяч экзэмпляраў.

„Мы працуем шмат“,—пісалася ў проклямацыі,—„мы ўтвараем нязьлічанае багацьце: золата, тканіны, парчу і аксаміт... Але нашае заработнае платы ледзь хапае на тое, каб існаваць“. Проклямацыя заканчвалася: „Недалёка той час, калі і мы, згуртаваўшыся ў стройныя рады, зможам адкрыта далучыцца да агульнага змаганьня рабочых усіх краін. І падымецца наша мускулістая рука, зьляцяць ганебныя ланцугі няволі; падымецца на Русі рабочы народ і задрыжаць сэрцы капіталістаў ды ўсіх іншых ворагаў рабочае клясы“.

Надышоўшы 1898 г. быў адзначаны скліканьнем паршага зьезду Расійскай Соцыял-Дэмократычнай Рабочай партыі. На працягу трох дзён працы былі абгавораны ўсе пытаньні організацыі адзінае соцыял-дэмократычнае партыі і з часу зьезду партыя пачала існаваць, як цэлае, і 1-га мая 1899 г. ад імя партыі была выдана першая

агульная для ўсяе Расіі проклямацыя. Па бакох яе было напісана— „Політычная свабода“, „8-гадзінны рабочы дзень“.

Яна формулявала агульныя для ўсяе Расіі запатрабаваньні. Заканчвалася яна запатрабаваньнем „Свабоды забастовак, слова, друку, сходаў і саюзаў; свабоды сумленьня вызнаньня; роўнапраўя ўсіх нацыянальнасьцяй“. У першы раз нявыразны лёзунг політычнае свабоды тут быў заменены конкрэтным запатрабаваньнем:

„Скліку парлямэнту, куды народ будзе пасылаць сваіх выбарных людзей шляхам агульнага, тайнага, простага і роўнага для ўсіх выбару“.

Апрача пашырэньня літаратуры, былі організаваны маёўкі. Вось апісаньне аднае. „У Гомлі ўпяршыню сьвяткавалі дзень Першага мая. У дзень за горадам сабралася чалавек 250 сьвяточна адзетых рабочых і работніц. Быў разгорнуты сьцяг з надпісамі: „Васьмігадзінны рабочы дзень“, „Політычная свабода, роўнасьць і брацтва“. Пяялі Марсэльезу і іншыя рэволюцыйныя песьні, пасьля пачалі выклікаць тосты: за нізрынуцьце абсолютызму і г. д. Было сказана некалькі прамоў, і асьмеленыя, асьвяжоныя рабочыя разышліся па хатах, хаваючы ў душы тыя добрыя імпэты і імкненьні, якія ў іх гэта сьвята разбудзіла“.

1899 г. быў першым годам наладжваньня масавых першамайскіх дэмонстрацый. У Вільні, у гарадзкім садзе, была налажана дэмонстрацыя з лікам удзельнікаў у тысячу чалавек. Быў падняты чырвоны сьцяг, прасьпявалі Марсэльезу і выкінулі лёзунг: „Далоў самаўладзтва“, „Няхай жыве політычная свабода“.

Першамайскі рух прымаў досыць шырокі размах. Задача змаганьня з ім стала адной з галоўных перад царызмам. У гэтым годзе адбыліся арышты, у Гомлі — 15 арыштавалі і 30 абыскалі. Па ўсёй Расіі да Першага мая ў гэтым годзе было зроблена да 1000 арыштаў.

Пасьля 900-х гадоў, з організацыяй партыі, канчаецца пэрыод скрытых коньспірацыйных масовак. Адчыняецца эпоха адкрытых стычак дэмонстрантаў з поліцыяй. Замест таго, каб хавацца за горадам, у лесе, рабочая кляса выходзіць на вуліцу з чырвонымі сьцягамі і плякатамі, на якіх напісана непасрэдная мэта змаганьня з прыгнятацелямі. Актыўнасьць рабочае клясы расьце. Апошняя пераходзіць да вышэйшых форм змаганьня. У рабочым руху пачатку 1900 г. заўважаецца пералом; з аднаго боку траціць свой уплыў так званы „экономізм“, з другога — засноўваецца група газэты „Іскра“, якая пры бліжэйшым удзеле і кіраўніцтве У. І. Леніна вядзе ўпартае змаганьне за зьнішчэньне „экономізму“. Гэта задача была пастаўлена Леніным у „Іскры“ даволі ясна. Ён пісаў: „Укараніць соцыялістычныя ідэі і політычную сьвядомасьць у гушчы пролетарыяту і організаваць рэволюцыйную партыю, неразрыўна зьвязаную са стыхійным рабочым рухам“.

900-ыя гады былі гадамі шырокага сьвяткаваньня 1-га мая. Перадмайская агітацыя находзіць больш шырокі водгук у масах пролетарыяту, чым у ранейшыя гады. Па ўсёй Беларусі за гэтыя гады было організавана шмат буйных дэмонстрацый.

Першага мая ў Гомлі было ўпяршыню адзначана забастоўкай. У дзень сьвята баставала каля 600 чалавек. Напярэдадні адбыўся рабочы сход, у якім прыняло ўдзел да 300 рабочых. Сход заслухаў прамовы аб значэньні Першага мая, пасьля чаго было вырашана сьвяткаваць гэты дзень 18-га красавіка.

У Вільні была тысячная дэмонстрацыя, у якой прыняло ўдзел шмат віленскіх рабочых.

У Віцебску была агульная забастоўка. Тут саюзам шчаціншчыкаў была сабрана маёўка з розных мястэчак у ліку 600 чалавек сваіх сяброў.

У Менску была дэмонстрацыя з лёзунгамі: „Далоў самаўладзтва!", „Няхай жыве політычная свабода!"

У Горадні быў сход 130 рабочых.

У некаторых мясцох майскія дэмонстрацыі адрозьніваліся характэрнымі асаблівасьцямі. Буйныя здарэньні адбыліся ў 1902 г. у дзень Першага мая ў Вільні.

„У дзень Першага мая, — пісала „Іскра", — зраньня ўсе дворнікі дзяжурылі каля варот з дубінамі ў руках, у ажыўленых цэнтрах на кожным скрыжаваньні вуліц, акрама гарадавых, стаялі акалодачныя надзірацелі; увесь горад прыняў асаблівы выгляд, усякі хадзіў як-бы азіраючыся па бакох.

А $5^1/_2$ гадзін увечары Фон-Валь (губарнатар Вільні), з паўсотняй казакаў наперадзе, выехаў агледзець „позіцыі". У 7 гадзін стала зьбірацца шмат народу; на Вялікай — тротуары былі запруджаны, на Нямецкай вуліцы ўсе вокны дамоў былі адчынены, бальконы чарнелі ад стаяўшай на іх публікі, каля Малога тэатру выстраіліся, казакі, а за імі пяхота.

Тры сьмельчакі выскачылі з Яўрэйскай вуліцы. Адзін з іх з чырвоным ліхтаром крыкнуў: „Далоў самаўладзтва! Няхай жыве свабода!" У тую-ж хвіліну ён быў зьбіты з ног, літаральна разарваны. З натоўпу пачалі выходзіць асобы з чырвонымі ліхтарамі, яны былі схоплены і зьбіты, а аднаго з іх забілі.

У той-жа час у Гарадзкім тэатры пасыпаліся ў публіку проклямацыі і рознакаляровыя паперкі з надпісамі: „Віншуем народ з сьвяткаваньнем Першага мая". Фон-Валь быў таксама ў тэатры і да яго ў лёжу таксама папала некалькі проклямацый. Раёк быў ацэплены і 35 чалавек арыштавана".

На другі дзень у прысутнасьці Фон-Валя і іншых царскіх сатрапаў над арыштаванымі была ўтворана экзэкуцыя — расправа. Гэткая расправа з дэмонстрантамі страшэнна абурыла насельніцтва. Рабочыя гутарылі паміж сабою, што нельга бескаранна пакінуць зьдекі над таварышамі, што трэба памсьціцца.

Як некаторы вынік распраў поліцыі, сячэньня розгамі і іншае, узмацніліся тэрорыстычныя настроі. 5-га мая таго-ж году, калі Фон-Валь выходзіў з цырку, рабочы-шавец Гірш Лекерт зрабіў у яго два стрэлы. Фон-Валь быў ранены ў руку і нагу.

Лекерт быў зараз-жа арыштаваны і пераданы вайскова-палявому суду. Ноччу з 27 па 28 мая (ст. ст.) ён быў пакараны сьмерцю. Сьмерць Лекерт сустрэў гэройскі. Равіна прысланага да яго перад сьмерцю, ён ня прыняў.

Уражаньне ад замаху Г. Лекерта было вялізарнае. Рабочыя з энтузыязмам спаткалі яго ўчынак.

Ня гледзячы на перашкоды, якія рабіў царскі ўрад, майскі рух ахоплівае да гэтых гадоў усю Расію, ён прымае характар баявога агляду сіл, якія рыхтуюцца да змаганьня супроць самаўладзтва. Падзеі ўсё больш згушчаліся, глеба пад нагамі самаўладзтва дрыжэла. Царскі ўрад рабіў шалёныя атакі на рэволюцыйны рух.

## Майскае сьвята ў гады першае рэволюцыі.

Наступіў 1905 год. Падзеі 9-га студзеня паказалі з усёй яснасьцю, што Расія ўступіла ў паласу рэволюцыйных боек. Пецярбурскі пролетарыят пад стрэламі царскіх войскаў пахаваў свае апошнія надзеі на царызм. Праз некалькі дзён заварушылася ўся рабочая Расія, пролетарыят Беларусі таксама нябывала шырока адгукнуўся на гэтыя падзеі.

Сьвяткаваньне Пролетарскага 1-га мая набывае характар значна адменны ад першамайскіх сьвяткаваньняў ранейшых год.

Мы знаходзім весткі, што ў 1905 годзе сьвяткаваньне першага мая было праведзена ў 83 гарадох і мястэчках Беларусі. Дзень Першага мая ў гэтым годзе быў днём популярызацыі лёзунгу ўзброенай барацьбы і растлумачэньня блізкасьці апошняе. Само-ж узброеннае выступленьне пролетарыяту Беларусі адбылося значна пазьней, а іменна разам з расійскім пролетарыятам у кастрычнікавыя дні. Некаторыя месцы Беларусі ў гэтым годзе ў першы раз далучыліся да майскага руху.

Умовы для правядзеньня сьвята былі вельмі кепскія. На Беларусі паліцыя распаўсюджвала чуткі аб тым, што яўрэі ў дзень Першага мая, каб адпомсьціць хрысьціянам за кішанёўскі і гомельскі пагромы, маюць намер узарваць цэркві, касьцёлы. Гэтай провокацыяй паліцыя прабавала спровакаваць рытуальныя процэсы, выклікаць пагромы яўрэйскага насельніцтва. Такія зьявішчы заўважаліся ў г.г. Горадні, Менску, Барысаве, Лідзе, Мазыры, Наваградку, Магілеве, Беластоку, Дзьвінску, Рагачове, Быхаве, Гомелі, Невелі, Полацку. У мястэчку Талачыне (Аршаншчына) паліцыя раздавала сялянам зброю, у цэрквах раздавалі адозвы, выданыя магілеўскай духоўнай консысторыяй. У Менску, пад кіраўніцтвам мясцовага жандарскага палкоўніка Хрыпава і чыноў паліцыі, складалася чорная сотня.

Ня гледзячы на ўсе перашкоды, першамайская агітацыя вялася вельмі інтэнсыўна і з нябывалым да тых часоў размахам. Яна пачалася задоўга да наступленьня Першага мая, у пачатку красавіка, а ў некаторых мясцох нават і ў сакавіку. Былі выпушчаны мясцовыя проклямацыі. У Гомелі, Парычах, Магілеве, Талачыне, Барысаве, Невелі, Полацку, Бабруйску, Дзьвінску на мовах розных нацыянальнасьцяй насяляючых Беларусь.

Пра дэмонстрацыі, якія адбыліся на Беларусі, мы маем некаторыя даныя. Яны паказалі моцна разьвітую салідарнасьць і рэволюцыйную сілу мас. „1-га мая прадпрыемствы не працавалі, за выключэньнем некалькіх заводаў. Маса рабочых зраньня напоўніла вуліцы. Цэлую ноч па горадзе распашыраліся проклямацыі... Так прайшоў дзень 1-га мая ў Бабруйску“.

У Гомелі сьвяткаваньне 1-га мая, ня гледзячы на ўсе перашкоды, як „ліквідацыя“ пропагандыцкае групы Палескага камітэту, усё-ж такі прайшло з нябывалым уздымам. Быў наладжаны 14 красавіка аб'яднаны сход. Сабралася дзьвюхтысячная маса. Былі выступленьні двух таварышоў. Пасьля дэмонстрацыя прайшла па горадзе.

У Полацку з вясны быў цэлы шэраг забастовак. Баставалі гарбары, каменшчыкі, рабочыя млыну і іншыя. Забастоўка цягнулася па два тыдні, баставала больш 600 рабочых. Перад 1-м маем былі пашыраны адозвы да рабочых і работніц гор. Полацку. Для правядзеньня сьвята РС-ДРП організаваў групу, якая была разаслана ў гэты дзень па прадпрыемствах, каб зьняць з працы ўсіх рабочых.

У Магілеве 1-е мая было адзначана вялікай вулічнай дэманстрацыяй і рабочымі масоўкамі.

Трохі іншы характар насілі майскія дні ў Новазыбкаве і Клінцох. Рабочыя масоўкі адбыліся ў лесе.

„16 красавіка“, — апавядае на старонках „Іскры“ новазыбкаўская арганізацыя, — „адбыўся сход у лесе. Гаварыў прамоўца пра надыходзячае сьвята. Гарачая, захапляючая прамова яго была закончана моцным „ура“, шумнымі овацыямі, стрэламі і сьпевамі“.

У гэты час у Клінцох група Палескага камітэту энэргічна падрыхтоўвала забастоўку. „На праведзеных перад гэтмы рабочых масоўках у Вехатнянскім лесе было, аднак, ухвалена, што забастоўка павінна быць абвешчана толькі ў тым выпадку, калі можна будзе разлічваць, што яна пройдзе без рэпрэсій. У зьвязку з тым паліцыя і гаспадары, даведаўшыся пра забастоўку, што падрыхтоўвалася, узьнялі буру пагроз на рабочых і забастоўка не адбылася. Але ўвесь дзень на фабрыках і майстэрнях праца ішла вельмі вяла, вечарам адбылося некалькі масовак“.

Пра тое, як прайшло сьвята Першага мая ў Менску, мы знаходзім некаторыя весткі ў паліцэйскіх дакумэнтах. „Сярод рабочых Маскоўска-Брэскага дэпо і рабочых і служачых у горадзе Менску вялася агітацыя „Іскраўцаў„ і с.-р., якія заклікалі іх да забастоўкі, якая і адбылася 1-га мая“.

Пасьля ўздыму і рэволюцыйных схватак 1905 г. пачалася ў гісторыі расійскага і беларускага рабочага руху паласа цёмнае рэакцыі. З 1907 г. Першамайскае сьвята заціхае, і дзе-ні-дзе адзначаецца малапрыкметнымі забастоўкамі. Інтэлігенцыя, прымаўшая ўдзел у рэволюцыі, адыходзіць ад яе, у шэрагах соц.-дэмакратаў зьяўляецца шкодная плынь „ліквідатарства“. Толькі бальшавіцкія кадры вядуць вайну супроць меншавіцкага здрадніцтва. Пачаўся „адліў“ рэволюцыйных сіл. Пад уплывам рэпрэсій частка з іх пакідае гарады Беларусі, некаторыя эмігруюць у Амэрыку і г. д.

У гэтыя гады (пасьля рэволюцыі 1905 г.) за Першамайскае сьвята па ўсёй Расіі вялося змаганьне. Меншавікі зусім адмаўляліся ад яго, наадварот, бальшавікі стараюцца захаваць яго, ня гледзячы на тое, што яно і было загнана ў падпольле, як дзень арганізацыі рабочых мас.

І толькі з 1912 году пачаўся новы рэволюцыйны ўздым сярод рабочых гушчаў. У гэтым годзе пачала выходзіць „Правда“. Клясавыя супярэчнасьці, якія прывялі да першае расійскае рэволюцыі, к гэтаму часу паглыбіліся.

У далёкай сібірскай тайзе на Лене 4(17) красавіка 1912 г. за выстаўленыя экономічныя запатрабаваньні сотні рабочых былі расстраляны. Стрэламі, што раздаліся на золатапрамысловых прыісках, было суджана прабудзіць драмаўшыя сілы рэволюцыі. Гэтыя падзеі ўзбурылі ўсю рабочую Расію. Яны ажывілі агульна-партыйную працу і на Беларусі. Настрой прыдаўленасьці праходзіў. Пачаў адраджацца масавы рабочы рух. Аднаўляліся разгромленыя раней рабочыя арганізацыі.

Першамайскі рух гэтых гадоў быў выключна пад кіраўніцтвам бальшавікоў. Меншавікі не маглі кіраваць політычнаю стачкаю 1-га мая з тае прычыны, што былі наогул проці 1-га мая. Увесь пэрыод рабочага руху да пачатку вайны праходзіў пад лёзунгам стачачнага змаганьня, што зьяўляецца доказам таго, што пролетарыят гатоў змагацца за ўладу.

## Першае мая ў 1917 годзе і ў гады грамадзянскай вайны.

1-га мая 1917 г. сьвяткавалася ў Расіі ў зусім новых умовах, якія адрозьніваліся ад усіх ранейшых гадоў. У гэтым годзе рабочая кляса ў першы раз сьвяткавала вольна сваё пролетарскае сьвята.

На Беларусі гэты дзень, з тае прычыны, што тут праходзіў фронт, адбываецца ва ўмовах разгортваньня рэволюцыі. Краінаю кіраваў часовы ўрад, у які ўваходзіла і шмат „социялістаў“. Гэты дзень у „свабоднай“ Расіі быў прызначаны днём *народнага* сьвята. Асабліва буйныя маніфэстацыі ў дзень 1-га мая 1917 г. адбыліся ў Петраградзе, Маскве. У гэты дзень на вуліцу вышлі ўсе клясы насельніцтва. Пролетарскае сьвята зьявілася сьвятам „агульным“. Зразумела яно не магло быць вытрымана-клясавым, рабочым сьвятам. На дэмонстрацыях адчуваўся хор галасоў „ликующей, праздно болтающей“ лібэральнай буржуазіі. Сьвята пролетарыяту набыло „нацыянальны“ характар.

І толькі бальшавікі засталіся вернымі социялістычнаму сьцягу. У перадавым артыкуле „Правды“ — „Возрождение Первомайского праздника“ — чытаем:

„Мы скінулі цара, мы дабіліся політычнае свабоды. Але пананаваньне капіталу, прыгнечаньне чалавека чалавекам, наёмнае нявольніцтва засталіся. У дзень 1-га мая мы даем абяцаньне змагацца не пакладаючы рук, да таго моманту, калі будзе паложаны канец усяму капіталістычнаму ладу — гэтаму ладу прыгнечаньня і эксплёатацыі. Рабочая кляса Расіі самаахвярна змагалася за політычную свабоду. Але яшчэ больш адданасьці і героізму выявіць яна ў надыходзячым змаганьні за социялізм“.

Першы раз у сьвяткаваньні пролетарскага сьвята прымала ўдзел і шырокая маса салдат. Пастановаю часовага ўраду гэты дзень лічыўся вольным ад заняткаў. Тагочасны друк на Беларусі дае малюнак сьвяткаваньня 1-га мая ў арміі, праўда, не на самой лініі фронту, а ў некаторых гарадох тылу.

Дзень 1-га мая ў Магілеве, дзе была царская стаўка, сьвяткаваўся ўрачыста. У шматлюднай маніфэстацыі прымалі ўдзел ня толькі салдацкія масы і афіцэры, але і работнікі штабу і стаўкі, праўда, яны ішлі сваёю асобнаю колёнаю са сваімі плякатамі. У часе маніфэстацыі лятуны авіяцыйнага аддзелу зрабілі некалькі эфэктыўных палётаў, скідалі чырвоныя істужкі.

У Менску колёны маніфэстантаў праходзілі па галоўных вуліцах гораду на працягу амаль 2 гадзін. Сярод маніфэстантаў, у абдымкі з салдатамі ішлі палонныя аўстрыйцы-рабочыя. На пляцы ўвесь дзень адбываўся шматлюдны мітынг.

У Несьвіжы на сьвяткаваньні было 118 сьцягаў, штандараў і плякатаў. У Дзьвінску адбылася грандыёзная процэсія вайсковых і рабочых. На мітынгу выступалі з прамовамі прадстаўнікі армейскага камітэту, савету рабочых і салдацкіх дэпутатаў і партыйныя прамоўцы. На фронце адбываліся масавыя дэмонстрацыі міжнароднае солідарнасьці рэволюцыйнага пролетарыяту, а ў гэты момант міністар замежных спраў Мілюкоў пераслаў саюзным дзяржавам ноту, у якой ад імя часовага ўраду абацяў вернасьць дагаворам, заключаным паміж царскім урадам і саюзьнікамі, і выказваў надзею на поўную перамогу над Нямеччынай.

Надышоўшыя пасьля 1-га мая 1917 г. здарэньні: ліпеньскія дні, адпор карнілаўшчыне, і, нарэшце вялікія Кастрычнікаўскія дні, калі

расійскі пролетарыят вёў змаганьне пад непасрэдным кіраўніцтвам комуністычнай партыі і яе правадыра У. І. Леніна, паказалі ўсяму пролетарыяту, пад якім сьцягам ён можа перамагчы векавое капіталістычнае ярмо.

У 1918 г. пры нямецкай окупацыі ў дзень 1-га мая адбыліся толькі ў Менску нязначныя палітычныя дэмонстрацыі. 1919 г. рабочыя Беларусі адсьвяткавалі 1 мая разам са сваімі расійскімі таварышамі.

Далейшыя падзеі ставяць перашкоды гэтаму разьвіцьцю. Белы арол белапанскай Польшчы працягвае свае кіпці, каб захапіць рабоча-сялянскую Беларусь. Яму ўдаецца захапіць частку. Польская армія даходзіць да ракі Бярэзіны. З прыходам окупантаў вярнуліся фабрыканты і абшарнікі, яны пачалі адшукваць сваю маемасьць і зямлю, адабраную ад іх бальшавікамі. У адказ ім на Беларусі пачынаецца падпольны рух, які ўсюды набывае палітычны характар, кіруемы комуністычнай партыяй. Даволі хутка ад агітацыі ён пераходзіць да падгатоўкі паўстаньня. Напярэдадні 1-га мая 1920 г. у шмат якіх мясцох Беларусі адбываюцца арышты падпольных комуністычных організацыі, што падрыхтоўвалі паўстаньне і разгром іх.

У канцы лета 1920 г. пачаўся наступ Чырвонай арміі, ужо за канчатковыя заваёвы Вялікага Кастрычніка на Беларусі. 11-га ліпня быў заняты Менск. З гэтага часу пролетарыят і працоўнае сялянства Савецкай Беларусі і ўсяго Савецкага Саюза перайшлі да мірнага будаўніцтва. Кожны год працоўныя Савецкай Беларусі вольна сьвяткуюць сьвята міжнароднай салідарнасьці — сьвята Першага мая, падлічваюць свае дасягненьні і недахопы, наладжваючы цясьнейшую сувязь з пролетарыятам капіталістычных краін, з сваімі братамі Заходняй Беларусі, дзе яшчэ і па сёньня пануе буржуазія, сьвішча панскі бізун.

Вольны і вольна сьвяткуючы Першае мая, пролетарыят Савецкага Саюзу асаблівую ўвагу зьвяртае на ваенную небясьпеку, якая ў апошнія гады набывае сур'ёзнае значэньне ў сувязі з посьпехамі соцыялістычнага будаўніцтва. Таму першамайскія дэмонстрацыі апошніх гадоў праходзяць пад лёзунгамі выкрыцьця політыкі імпэрыялістычных дзяржаў, пад лёзунгам мобілізацыі ўсіх сіл міжнароднай рабочай клясы супроць новай імпэрыялістычнай вайны.

Першамайскія ўрачыстасьці гэтага году будуць праводзіцца па фабрыках і заводах. Тут неабходна мобілізаваць рабочыя масы на тое, каб узяць высоты трэцяга рашаючага году пяцігодкі і абвясьціць штурм прарывам у выкананьні прамфінпляну.

1-га мая ў гэтым годзе супадае з другой гадавінай соцыялістычнага спаборніцтва — гэтага галоўнага соцыялістычнага мэтоду працы па-новаму. Таму ў дні падрыхтоўкі да сьвята і ў часе яго трэба паказаць магутны рух мас за комуністычныя формы працы, супроцьставіць вольны, соцыялістычны, творчы труд рабскаму, капіталістычнаму труду. Трэба давесьці, што труд у нас зьяўляецца справай гонару і геройства. У сувязі з гэтым цэнтральнай фігурай першамайскага сьвята павінен зьявіцца ўдарнік. Па заводах і фабрыках неабходна правесьці зьлёты ўдарнікаў, новы прызыў ва ўдарныя брыгады. Лепшыя барацьбіты за прамфінплян павінны быць прэм'яваны. Поўнае адбіцьцё ў гэтай рабоце павінен знайсьці лёзунг аб аўладаньні тэхнікай.

Мацьвяёнак.

# Рэволюцыя 1905 года на Магілеўшчыне.

*(Канец).*

## Сялянскі рух[1]).

Уздым рабочага руху ў 1905 годзе супаў з сялянскім рухам і зьліўся з ім у адно рэчышча. У радзе выпадкаў сяляне аказваліся living рознымі спосабамі зьвязанымі з рабочымі масамі. У некаторых мясцовасьцях сяляне паўставалі пасьля рабочых стачак у суседніх гарадох, але запатрабаваньні свае афармлялі пасвойму. У мясцох, якія знаходзіліся недалёка ад прамысловых пунктаў, пролетарскі ўплыў адбіваўся ня толькі на спосабах сялянскай барацьбы з панамі, але і на програмных запатрабаваньнях сялянства.

У 1861 г. на Беларусі сялянства атрымала зямлі надзвычайна мала. Маючы на ўвазе блізкасьць загранiцы паны меркавалі заняцца інтэнсыфікацыяй сваёй фольварачнай гаспадаркі, а таму зямлю пакідалі сабе. Вышэйшы надзел быў роўны ўсярэднім на Магілеўшчыне—5 дзес., Меншчыне і Віцебшчыне—6 дзес., ніжэйшы—4 дзес. на Магілеўшчыне і 5—у іншых губэрнях. Значная розьніца ў памеры надзелаў была ў паасобных паветах. Так, у Быхаўскім і Рагачоўскім паветах вышэйшы надзел быў роўны 5,5 дзесяціны, Амсьціслаўскім—4 дзес., у іншых паветах былое Магілеўскай губ.—па 4,5 дзесяціны. Вялікае разыходжаньне ў памерах зямельнага надзелу было і ў паасобных вёсках і нават паміж сялян аднае вёскі. Дзе пан ня быў зацікаўлены ў разьвіцьці сваёй гаспадаркі, або дзе была дрэнная зямля, там даваліся большыя надзелы, у іншым выпадку—сярэднія і ніжэйшыя. Такое права пана было прадугледжана „палажэньнем 19-га лютага 1861 г.“, якое цалкам абараняла інтарэсы дваран, а не працоўнага сялянства.

Сяляне аж да 1905 г. плацілі выкупныя выплаты за зямлю ў значна большым разьмеры, чым звычайная цана на зямлю. На Беларусі сялянства пераплачвала за зямлю ад 20 проц. (Віленшчына) да 36,3 проц. (Магілеўшчына) лішніх.

Сялянства шукала выйсьця з зямельнага голаду пакупкаю панскіх зямель пры дапамозе сялянскага банку і перасяленьнем у Сібір, Туркестан і Каўказ. Купляла панскую зямлю, аднак, нязначная частка сялян, найбольш заможная, бо ў сялянскім банку быў устаноўлены надта высокі процант на пазыку—8 з паловаю проц., дый паны да 1905 году прадавалі мала зямлі. Большая-ж частка сялянства выяжджала

---

[1]) Увесь гэты разьдзел напісаны на падставе докумэнтаў, якія захоўваюцца ў Маскоўскім архіве рэволюцыі.

з Беларусі, пераважна ў Сібір. Усяго з 1896 да 1909 г. перасялілася ў Сыбір 540 тысяч чалавек, з якіх 220.300 чал. з аднае Магілеўшчыны, да 1908 г. стаяўшай па перасяленьні на першым месцы ва ўсёй Расіі. Але і перасяленьне ня зьнішчыла зямельнага голаду, асаблівы-ж недахоп сялянства адчувала ў лесе і сенажаці. Лясы і сенажаць былі вельмі дарагія, дзякуючы добрай магчымасьці продажы дрэва і сена заграніцу і параўнаўча даволі высокаму разьвіцьцю жывёлагадоўлі. Купіць або заарандаваць у пана такую зямлю сяляне з-за дарагоўлі не маглі. Атрымлівалася недарэчнае становішча: добрая палова вёсак знаходзіцца ў лесе, альбо побач з лесам, а дроў ня было. Здараліся такія выпадкі, калі некалькі суседніх двароў колектыўна ацяплялі якую-небудзь хату, каб у ёй адагрэць хоць-бы сваіх малых дзяцей. Усё гэта ўзятае разам штурхала сялян на рэволюцыйныя выступленьні.

Расійска-японская вайна сваімі няўдачамі і ахвярамі таксама рэволюцыянізавала сялянства. Вось выпіска з докумэнту, які нельга абвінаваціць у рэволюцыйнасьці і які таксама прызнае вайну прычынай сялянскага руху. Царкоўны летапіс Нова-Быхаўскай царквы так апісвае 1905 г.: „1905 год быў асабліва цяжкім годам як для ўсяе наогул Расіі, так і ў прыватнасьці для парафіян Нова-Быхаўскае царквы. Уперад усяго сумныя весткі з тэатру ваенных падзей рабілі надта прыгнятаючы ўплыў на жыхарства: згуба блізкіх, дарагіх людзей шмат якія сем'і прывяла ў вялікую роспач. Але яшчэ больш абуралі душу і прыносілі глыбокай журбы нелады і непарадкі ўнутры бацькаўшчыны. Патаемная пропаганда і ўплыў злачынных асоб мелі месца і сярод насельніцтва парафіі... Выявілася гэта ў тым, што пачалі сячы панскія лясы. Былі высланы па хадайніцтву ўладароў казакі, якія хутка спынілі злачынства, знайшлі шмат пакрадзенага лесу і прымусілі сялян зьвезьці яго ў адно месца“. Вось гісторыя сялянскага руху, расказаная папом.

Масавыя высечкі лесу пачынаюцца ў студзені—лютым 1905 г. „Сяляне зьяўляліся ў панскія лясы натоўпамі, секлі і вывозілі дрэвы на вачох паноў і іх цівунаў ня толькі для задавальненьня непасрэднае патрэбы ў апале, але і для продажы другім асобам, а на ўгаворы адказвалі заявай аб сваіх быццам правох на панскі лес, прычым часамі супраціўляліся лясной варце. Такія дзеяньні зьяўляюцца ўжо нязвычайнымі высечкамі“,—зазначае губарнатар[1]). І сапраўды, сялянства паступова пачынае адчуваць сябе гаспадаром у панскім лесе, а потым і наогул гаспадаром усяго панскага дабра. Мясцовая ўлада спачатку перапалоханая, пачынае пасьля весьці рашучую барацьбу з гэтым. Пачатак яе характарызуецца наступным абежнікам губарнатара:

„Для зьнішчэньня такіх злачынстваў я, па згодзе з прокурорскім складам, прапаную начальнікам паліцыі прыняць да кіраўніцтва наступнае: 1) Зараз-жа пасьля атрыманьня вестак аб праведзенай масавай лясной высечцы станавыя прыставы абавязаны самі асабіста праводзіць дасьледваньне і ні ў якім разе не даручаць яго ніжнім чыном паліцыі, адбіраць і сэквэстраваць высечаны лес, дамагацца дапамогі валасных старшыняў і сельскіх старастаў“ і г. д. 2) Калі пры выкананьні мерапрыемстваў, пералічаных у параграфе першым, чыном паліцыі будзе зроблена супраціўленьне, якое ня дасьць ім рэальнай магчымасьці выканаць свой абавязак, павятовыя спраўнікі абавязаны асабіста выяжджаць на месца, праводзіць падрабязнае абсьледваньне з мэтай выяўленьня завадыяшаў і тых, хто падбіў на гэта, папераджаць сялян,

[1]) Сборн. циркуляров Могилевск. Губернатора за 1905 г.

што далейшыя гвалтоўныя з іх боку дзеяньні будуць спыняцца вайсковай сілай. Аб усіх гэтых распараджэньнях даносіць мне".

З надыходам лета сяляне пачынаюць захапляць панскія сенажаці. Губарнатар 15-га чэрвеня зноў піша спраўнікам загад.

„У апошні час мне ўсё часьцей і часьцей розныя асобы падаюць заявы аб патраве сенажацяў, высечцы лесу і іншых непарадках, якія робяць сяляне... Несваечасовае паведамленьне аб гэтым можа пашкодзіць губэрскаму начальству сваечасова прыняць належныя меры... а таму, прапаную п. п. павятовым спраўнікам аб кожным паасобным здарэньні, у якім выявілася сялянскае самавольства і інш. непарадкі аграрнага характару, даносіць мне зараз-жа, не чакаючы заявы аб гэтым ад пацярпеўшых".

Найбольш актыўным сялянскі рух быў там, дзе сяляне асабліва захлыналіся ад малазямельля і прымушаны былі ці арандаваць панскую зямлю ці ісьці да пана ў парабкі. Яскравым прыкладам гэтага могуць быць вёскі Сьмятанка і Ляўкі каля Копыся (былой Аршанскай акругі). Як відаць з матар'ялу Магілеўскага губэрскага жандарскага ўпраўленьня (справа № 24 за 1905 г.), яшчэ ў 1903 годзе ў вёсцы „Сьмятанка пачаўся сялянскі бунт. Абуранымі сялянамі быў забіты мясцовы ўраднік, які верным сабакам абараняў фольварак Сьмятанкі, належаўшы пану Чачкову, ад разгрому сялянамі. Тады-ж былі па просьбе пана высланы туды казакі, якія заарыштавалі правадыроў руху, а іншых удзельнікаў яго пакаралі розгамі ды шампаламі. Сялянскі рух спыніўся, але не надоўга. Не маглі быць спакойнымі сяляне, якія бадай што зусім ня мелі сваёй зямлі. І ў 1904 годзе рух аднаўляецца зноў. Штуршком для яго аднаўленьня зьяўлялася мобілізацыя запасных на руска-японскую вайну. Трэба адзначыць, што мобілізацыя запасных па ўсёй Магілеўшчыне выклікала „буйныя непарадкі" сялян, як зазначае губарнатарскі даклад Трэпаву. Мобілізаваных забралі на вайну, а сялянскі рух ня спыніўся ўжо да сярэдзіны 1906 г. Наадварот за год—з вясны 1904 да вясны 1905 г. сяляне асобных валасьцей, як напр., Копыскай і Круглянскай, організаваліся ў вялікую сілу. Бадай што ва ўсіх вёсках адбываліся надта людныя сходы з крыкамі „прэч цара", стралянінай з рэвольвэраў і г. д.

Сіла руху гэтых валасьцей была ў іх аб'яднаньні з рабочымі. Той-жа пан Чачкоў у фольварках Сьмятанка і Ляўкі, іншыя паны— у мястэчку Копысі мелі кахлевыя заводы са значным лікам рабочых. Рабочыя ў большасьці былі сялянамі з вышэйпаказаных дзьвёх валасьцей, так што між імі і сялянамі была ня толькі палітычная сувязь, а і проста суседзкая і сваяцкая. Пропаганда сярод сялян і вялася, галоўным чынам, рабочымі і вялася, як зазначае губарнатар, зусім адкрыта. „Усе ведаюць правадыроў, але баяцца сьмерці—таму і ня выказваюць іх. Западазроны ў даносе копыскі мешчанін Буры забіты днём у Шклове. Не спачуваючыя копыскія мяшчане зьбіты ў іхных-жа хатах да паўсьмерці ў прысутнасьці мясцовай паліцыі", пісаў губарнатар.

У фольварку Ляўкі парабкі пана забаставалі. Знайшліся і штрэйкбрэхеры. Але-ж пагрозамі і пераконаньнямі яны забастоўшчыкамі з панскага поля былі прагнаны. Тады панам была вытрабавана з Магілева войска. З войскам прыехаў на расьсьледваньне справы неадменны член губэрскага прысутнічаньня. Перапалохаўшыся масавасьці руху ён так зьбянтэжыўся, што ня прыдумаў нічога лепшага, як прывесьці сялян да пана ўгаварваць яго аддаць ім назаўсёды пад пашу патраўленую частку поля. Апрача гэтага, войска была пастаўлена ім у фольварку, а не ў сялян і пану прышлося карміць яго. Пан

Чачкоў так раззлаваўся на няўдалага прадстаўніка ўлады, што зараз-жа падаў дакладную запіску Трэпаву на бязьдзейнасьць улады, як прычыну рэволюцыйных непарадкаў. Там ён зазначае, што прадстаўнік губэрскага прысутнічаньня ўбіў у галаву сялянам думку, што начальства апраўдвае іх дзеяньні.

Такім-жа парадкам выяўлялі сваё нездаволеньне існуючымі парадкамі сяляне і іншых вёсак каля Копыся. Розьніца толькі ў тым, што там войска ня было і змагацца з „бунтаўшчыкамі“ паном прыходзіліся сваімі ўласнымі сіламі і сіламі мясцовай паліцыі. Што гэта „змаганьне“ не дапамагала, відаць з таго-ж данясеньня губарнатара, дзе ён піша, што „служачых у экономіі і паліцэйскіх вураднікаў пры спробах прагнаць коняй, сустракаюць ударамі і пагрозамі зарэзаць“ (?). Рэальнасьць гэтай пагрозы даволі яскрава сьведчыцца і тым, што 13-га чэрвеня па ўпраўляючаму фольваркам Сьмятанка Шчэрбаву было зроблена чатыры стрэлы.

Імкненьні сялянства ў асноўным накіроўваліся на захоп зямлі ад паноў у тых вурочышчах, якія яно лічыла сваімі яшчэ з часу 1861 году, г. зн. на зварот сабе „адрэзкаў“. Архіўныя матар‘ялы Магілева поўны докумэнтаў аб бязупынных судох сялян з панамі за гэтыя землі. Так, напрыклад, сяляне мястэчка Нова-Быхава судзіліся з сваім панам Булгакам з самага 1861 году, але-ж ні да чога дайсьці не маглі— суд заўсёды быў на баку пана, ці ў лепшым выпадку адкладаў справу з-за непрадстаўленьня якіх-небудзь докумэнтаў, ці за незахаваньне формальнасьцяй. Сяляне прасудзілі ўсё сваё дабро, але-ж да самага 1905 г. не пакідалі надзей адсудзіць ад пана зямлю.

1905 год навучыў сялян не спадзявацца на суд. Захоп адрэзкаў і спрэчнай зямлі зрабіўся масавай зьявай. Сяляне с. Кішчыц, Чэрнеўскай воласьці, Чавускага павету, хацелі таксама захапіць „сваёй уладай“ спрэчную зямлю ад пана фольв. Сасноўкі Гэбэля. Каб адбіць у іх ахвоту да гэтага, пан выклікаў да сябе павятовага каморніка Геева і неадменнага члена губэрскага праўленьня Коханава, для правядзеньня мяжы між „сваёй“ і сялянскай зямлёй. Для гэтага выехала з імі поўная рота салдат, каля 25 чыноў паліцыі, былі мобілізаваны соцкія з усіх бліжэйшых вёсак на 10 вёрст наўкол. Нам. Н-ка жандарскага ўпраўленьня так апісвае іхную „работу“ па азначэньні мяжы.

...„На месца прышоў поўны сход сялян с. Кішчыц на чале са сваім сельскім старастам Уласам Канстанцінавым, і разам з імі прышлі ўсе жанчыны з груднымі дзяцьмі... склаўшы вялізарны натоўп. Калі ланцугом было адмерана да межавой адзнакі... сялянскі натоўп стаў на ланцуг, не дапускаючы далейшага руху, і ніякія ўгаворы на натоўп не зрабілі належнага ўплыву. Па загаду спраўніка... вураднікі Пушкароў, Лук‘янаў, Жэлязноўскі, Лучкін, Марозаў і Спаднікайлаў прабавалі канямі адціснуць і разагнаць натоўп, але натоўп, асабліва жанчыны, махаючы хусткамі, фартухамі і наогул вопраткай пярэстага колеру, палохалі коняй, якія на натоўп не пайшлі. З камандыраванай губарнатарам для дапамогі грамдзянскай уладзе 15 роты, 314 Каднікаўскага палка, камандзірам яе быў вылучаны атрад у некалькі чалавек, каб разагнаць натоўп прыкладамі і пасьля сыгналу ражком аб тым, што будзе страляніна, натоўп хутка рынуўся ў напрамку да сваёй вёскі, але прайшоўшы нязначную адлегласьць сабраўся зноў... Тут сяляне запасьліся каменьнямі і кіямі, і, калі пасьля доўгіх уговораў разыйсьціся, з боку неадменнага члена Губ. прыс. Коха-

нава, земскіх начальнікаў 4-га вуч. Горацкага пав. Гарасімава і 3-га вучастку Чавускага павету Стасевіча і чыноў паліцыі, натоўп не разыходзіўся і не прапускаў ланцуга, на натоўп накіраваны былі... прысутныя паліцэйскія вураднікі і сабраныя паліцэйскія соцкія і дзесяцкія бліжэйшых вёсак Горацкага і Чавусага павету, дык з натоўпу ў чыноў паліцыі паляцелі каменьні і палкі, а шмат сялян проста наваліліся на паліцэйскіх чыноў, наносячы пры гэтым пабоі. Амаль усе паліцэйскія вураднікі і станавыя прыставы, асабліва Емельянаў і Казаўлёў атрымалі больш-менш значныя пабоі, а Копыскаму фабрычнаму ўрадніку Пушкарову разьбілі галаву. З прычыны поўнай немагчымасьці спыніць бунт паліцэйскімі сіламі, навядзеньне парадку было перадана камандзіру вышэйназванай роты штабс-капітану Прыляжаеву, які яшчэ раз прабаваў разагнаць натоўп прыкладамі, а калі сяляне пачалі кідаць у войска каменьні і кіі, дык ён прыступіў да дзеяньня зброяй. У выніку некалькіх залпаў было на месцы забіта 8 і паранена 18 чалавек, з якіх шмат хто быў паранены цяжка. Пасьля гэтага натоўп разьбегся і каморнік атрымаў магчымасьць прайсьці мяжу да патрэбнага яму пункту“.

Далей пералічаецца адзінаццаць чалавек „галоўных кіраўнікоў натоўпу“.

Так адважна і рашуча змагалася сялянства за зямлю і волю. Займаючы самавольна спрэчную зямлю, частка сялянства яшчэ думала, што каб толькі ведаў цар, дык ён адразу аддаў-бы яе ім. Але-ж судовая цеганіна, расстрэлы і бязьлітасныя поркі „імем яго вялічаства“ пачыналі раскрываць вочы сялянству на сутнасьць царскай улады. Можна сказаць, што ў 1905 г. царом і яго паліцыяй была расстраляна вера ў цара ня толькі ў рабочых, але таксама і ў сялян. Вось чаму гэты пэрыод сялянскага руху ў 1905 годзе набывае рэзка вызначаны анты-ўрадавы і анты-монархічны характар.

Апрача карных мерапрыемстваў супроць сялянства пачынаюць прыймацца і меры супакаеньня. Незадаволенага сялянства было так многа, што ўсіх ня толькі перастраляць, але і проста перасекчы розгамі ня было ніякай магчымасьці. На земскіх начальнікаў былі ўскладзены абавязкі мірным „гуманным“ падыходам выявіць нездавальненьні сялянства і некаторымі падачкамі заткнуць рот беднаце. Гэта было накіравана на зьнішчэньне рэволюцыйнага руху сялянства і трэба сказаць часткова земскім удавалася зьнізіць рэволюцыйную хвалю ў асобных мясцох. Карная-ж справа была ўскладзена на павятовых спраўнікаў. Земскія начальнікі выяўляюць „крыклівую частку“ і імкнуцца насеннай ці харчовай пазыкай заткнуць рот галоднай беднаце. Абежнік губарнатара ад 23/III-1905 году раіў земскім начальнікам, як меры ўспакаеньня сялян—застрашальную політыку: „азнаёміць насельніцтва са зьместам ст. 269, 270, 271 і 272 улаж. аб карах за ўдзел у злачынных натоўпах, раскраўшых або зьнішчыўшых чужую маемасьць... або хацеўшых гэта зрабіць з варожых станава-экономічных адносін“.

Дзейнасьці земскіх начальнікаў надавалася ня меншае значэньне чым карнай дзейнасьці спраўнікаў. Гэта відаць хаця-б ужо з таго, што земскім начальнікам было забаронена выяжджаць з вучастку бяз ведама губарнатара з-за крайняй патрэбы ў даны час іх прабываньня на вучастку... „могуць быць выпадкі, калі гэтымі адлучкамі будзе зроблена шкода грамадзянскім альбо прыватным інтарэсам“—пісаў губарнатар.

Зьдзекі ўраду і неўраджай 1905 г. натхняюць сялян на барацьбу з дзяржавай. Большасьць-жа паноў паўцякала з сваіх гнёзд у гарады, меншасьць засталася на месцы, але завяла сваю ўласную паліцыю. Як адказ на надзвычайнае пашырэньне сялянскага руху, які імкнуўся пайсьці па шляху самавольнага павялічэньня зямельнай плошчы далучэньнем да сваіх земляў панскіх зямель „явачным парадкам", узімку 1905 г. (абежнік ад 20/XII-1905 г. за № 3876) земляўласьнікам даецца права на свае сродкі ўтвараць асобныя паліцэйскія пасады і цэлыя каманды. Гэтыя апошнія, зразумела, знаходзіліся пад загадам саміх паноў і бяз іхняй згоды „не маглі быць накіраваны ў іншыя мясцовасьці павету". „Начальнік панскай варты мае правы паліцэйскага прыстава, а іншыя чыны—правы адпаведных чыноў павятовай варты", пісалася ў абежніку:—„паліцэйскім чыном і апрычнікам можа быць дана права насіць нагрудную бляху з вызначэньнем фальварку, у якім ён служыць".

Нездавальненьне сялянства дзяржавай у першую чаргу адбілася на падатковай палітыцы. Увосень сялянам трэ' было выплачваць падаткі. У сярэднім на Магілеўшчыне на адзін надзел прыпадала звыш 7 рублёў падаткаў, апрача выкупных выплат — сума досыць значная. Уперад адмаўляюцца ад платы падаткаў беднякі. Паступова анты-падатковы настрой пашыраецца і сярод сераднякоў. Пачынаецца гэта стыхійна, бяз усякага зговару. Селянін, убачыўшы, што да яго ідзе зборшчык за падаткам, станавіўся з сякерай каля дзьвярэй... і, зразумела, зборшчык уцякаў з такога двара. Такіх здарэньняў шмат было, напрыклад, у былой Н. Быхаўскай і Бычанскай валасьцёх. Вядомы, напрыклад, выпадак, калі ў с. Іскані, Нова-Быхаўскай вобласьці адзін селянін „рабіў замах на жыцьцё" старасты, прышоўшага да яго за падаткам. У былым Чавускім і Чэрыкаўскім павеце сяляне адмаўляліся ад выплаты падаткаў цэлымі валасьцямі. Губэрскаму начальству трэ' было прыняць як-мага хутчэй „належныя меры". Гэтыя апошнія вельмі добра высьветлены абежнікам губарнатара ад 5/XII-1905 г. за № 11664.

„Да майго ведама дайшло, што сяляне некаторых валасьцей, якія могуць выплаціць скарбовыя, земскія ды грамадзкія павіннасьці, адмаўляюцца іх плаціць; нават выносяць аб тым пастановы, і... мясцовай уладай ня прымаецца да выкананьня паказаных у законе мер. Прапаную п. п. земскім начальнікам безадкладна падаваць на скасаваньне ў Павятовы Зьезд вышэйпамянёныя пастановы і паклапаціцца аб няўхільным выкананьні законапалажэньняў у адносінах да неплацельшчыкаў падатковых збораў па асобных тэрмінах іх выплаты. У выпадку, калі неплацельшчыкі будуць супраціўляцца пры опісу альбо продажы іхнай маёмасьці на папаўненьне недабору, прашу зараз-жа даваць знаць аб гэтым спраўніку для належнага з яго боку ўзьдзеяньня на выкананьне закону аб выплаце скарбовых і земскіх павіннасьцяй". У некаторых мясцох сяляне адмаўляліся ад узносу пазык ці процантаў па іх у пазыковыя таварыствы.

Увосень 1905 г. ўсё часьцей і часьцей у Магілеўскае губ. жандарскае аддзяленьне пачынаюць паступаць даносы на сялян, якія, заклікаючы масы на барацьбу з панамі, у той-жа час зьвязваюць сваю пропаганду з анты-монархічнымі лёзунгамі. Так, напрыклад, у с. Палюбічы, Гомельскага павету сяляне П. і Атр. Салохіны, Юркоў, Б. Руманаў, К. Мяжэньнік і Хв. Гарбузоў, гаварылі публічна-абразьлівыя для царскай асобы словы і крычалі: „Прэч самаўладзтва. Ад-

бярэм зямлю ад паноў“ і г. д. (Данос Гомельскага жанд. ротмістра). У мястэчку Касьцюковічы, Клімавіцкага павету з такой-жа прыблізна пропагандай выступіў селянін Іван Шунько і г. д.

Калі-б на карце чырвонымі пунктамі адзначыць вёскі і воласьці у якіх найбольш пашыраны былі сялянскія хваляваньні, дык атрымаліся-б суцэльныя чырвоныя лініі вакол гарадоў і ўсьцяж чыгункі. Сама карта маўкліва дала-б нам адказ на пытаньне, дзе і чаму пашыраецца сялянскі рух.—Блізка гарадоў, дзе ён знаходзіўся больш-менш пад кіраўніцтвам пролетарыяту і яго рэволюцыйнай партыі.

З асобных такіх „ліній“ можна вызначыць рад вёсак, якія знаходзяцца ўсьцяж чыгункі паміж Магілевам і Рагачовам. Вёскі б. Глускай, С. Быхаўскай, Н. Быхаўскай і Кісьцянёўскай валасьцей. У гэтым раёне вельмі добра пастаўлена была работа сярод сялян Быхаўскай патыйнай арганізацыі, Магілеўскага Акруговага Камітэту РСДРП і Палескага Камітэту. У Быхаве і Магілеве былі асобныя, праўда, колькасна невялічкія групы партыйцаў, якія ў той час спэцыяльна вывучалі тэорытычна зямельнае пытаньне і лічыліся спэцыялістамі па рабоце на вёсцы. Асобныя „гнёзды“ рэволюцыйна настроеных вёсак знаходзіліся наўкол прамысловых пунктаў Копыся, Лядаў, Гомеля, Веткі, Дуброўны і інш. У гэтых мясцох рабочыя былі параўнаўча добра зьвязаны з сялянствам. Так, копыскія рабочыя-партыйцы пашыралі проклямацыі сярод сялян бліжэйшых вёсак, наладжвалі там масоўкі, на якія зьбіралася да двухсот чалавек, арганізавалі супраціўленьне продажы маёмасьці за нядоімкі, дзякуючы чаму продаж не адбылася і г. д. Урэшце, рэволюцыйнасьцю вызначаліся такія вёскі, як Горы, Царковішча, Тупічына і інш. на Клімавіччыне, дзе было вельмі многа рабочых, якія вярнуліся дамоў з прамысловых цэнтраў (у большасьці шахцёраў). Трэба адзначыць таксама, што ўсе гэтыя „рэволюцыйныя гнёзды“ амаль ва ўсіх выпадках без выключэньня знаходзіліся ў мясцовасьцях з вялікай перавагай панскага земляўладаньня, як, напрыклад, на тэрыторыі Быхаў—Рагачоў, або Чэрыкаў—Крычаў—Клімавічы, дзе на адлегласьці дзьвюх-трох вёрст адна за аднэй ішлі панскія сядзібы або наадварот, былі маёнткі з дзесяткамі тысяч зямлі, як, напр., Хоцімскі маёнтак князя Абаленскага. У такіх мясцовасьцях даволі часта кіраўніцтва сялянскім рэволюцыйным рухам на мясцох знаходзілися ў руках досыць шматлікай групы парабкаў панскіх маёнткаў, асабліва там, дзе былі вельмі буйныя паны і іхнымі парабкамі былі фактычна цэлыя ваколічныя вёскі.

Сялянскі рэволюцыйны рух разгарнуўся ў 1905 г. так шырака, што ён у сваю чаргу, рабіў належны ўплыў на партыйныя организацыі. Так, напрыклад, нам ужо вядома прымірэнцкая лінія Магілеўскага раённага камітэту РСДРП і нязначная ўвага яго кіраўніцтву сялянствам. Але і ў Магілеве была асобная група партыйцаў-бальшавікоў, якая вяла работу сярод сялян. Надзвычай вялікія посьпехі соцыялдэмократычнай пропаганды ў сялянскіх масах штурханулі магілеўскую організацыю больш шчыра ўзяцца за гэту справу. У 1906 г. пры Магілеўскім Акруговым Камітэце была ўжо створана асобая колегія па рабоце на вёсцы. Колегія карысталася ў сялян вялікім аўторытэтам, як і партыя ўцалку. Па шмат якіх вёсках былі праведзены беспартыйныя сялянскія конфэрэнцыі, былі організаваны сялянскія камітэты. Пасьля роспуску першай Думы распаўсюджана была ў масах „Выбарская адозва і лісток да „крестьян“, які быў выпушчаны Магілеўскім Акруговым Камітэтам. Сувязь з вёскай магілеўскай організацыі захавалася да 1907 г. Так, у 1907 г., як відаць з перанятага ахранкай лісту

мясцовага соцыял-дэмократа Галіонкі ў Пецярбург, было 22 вясковыя пункты, з якімі партыя трымала сувязь і якія абслугоўваліся партыйнай літаратурай.

У некаторых мясцох сярод сялянства ў вёсках былі нават соцыял-дэмократычныя групы. Так, напр., у вёсцы Савіна, Дубровенскай воласьці, бязумоўна пад упывам Дубровенскай рабочай соцыял-дэмократычнай організацыі афармілася свая партыйная група. На сходзе сялян, скліканым земскім начальнікам для абвяшчэньня маніфэсту аб выбары ў думу, сяляне ня далі гаварыць земскаму начальніку, папу, пану, графу Талстому. Затое, калі выступалі мясцовы соцыял-дэмократ Котаў і інш., якія заклікалі масы да барацьбы з урадам і высьвятлялі патрэбу стварэньня рэв. ўраду, сход бурна вітаў прамоўцу, крычалі „брава“ і гушкалі Котава на руках. Праз тыдзень пасьля гэтага Котаў наладзіў рэволюцыйны мітынг у мястэчку Расасьне ўдзень на рынку. Пасьля некалькіх рэволюцыйных прамоў вялізны натоўп са сьцягамі наладзіў дэмонстрацыю па мястэчку.

Сяляне вёсак Савіна, Вусьця і інш. працавалі парабкамі або рабочымі на заводах у суседніх паноў—кн. Любамірскага, Цыкерта і інш. і самі зьяўляліся больш рабочымі, чым сялянамі. З гэтае прычыны і мэтоды барацьбы яны ўжываюць пролетарскія—стачкі, спыненьне заводаў, зьняцьце ўсіх рабочых з работы. Так, сяляне вёскі Вусьця зьнялі з работы рабочых у маёнтку Мікольшчыне князя Любамірскага і імкнуліся аформіць соцыялізацыю яго дому і зямлі. Былі наладжаны стачкі адначасова ў суседніх маёнтках Усьвятах, Халаўе, Сьляпцох і Зарубках.

У м. Лядах пасьля мітынгу 21-га лістапада наладжана масавая анты-монархічная дэмонстрацыя з лёзунгамі адмаўленьня ад выплаты падаткаў. Група сялян упрасілася зайсьці па справах да прystава на кватэру і пачала біць вокны і мэблю з крыкамі: „Біць дэмократаў“ [1]). У Копысі быў зроблены ўзброены напад на ураднiка, у вёсцы Хоміне—на папа. Сялянства ўсё больш і больш актывізуецца і ўжо ніяк не задавальняецца ранейшымі мэтодамі барацьбы, меўшымі больш экономічны характар, і імкнецца да політычнай барацьбы. Усякі рэволюцыйны агітатар сустракаецца імі прыхільна і ветліва.

Кампанія выбару ў Дзяржаўную Думу ня сьцішыла агульнага нездавальненьня працоўных мас Магілеўшчыны. Пачалася яна з 14-га верасьня 1905 году, але яшчэ 5-га сьнежня прыходзіцца сустракацца з масавымі сялянскімі прыгаворамі аб адмаўленьні ў выплаце розных падаткаў і павіннасьцяй. Выбары ў Думу, зразумела, маглі спадабацца вясковаму кулацтву, пачаўшаму адчуваць сябе „грамадзянамі“, удзелу якіх у дзяржаўным кіраўніцтве захацеў сам цар. Такім чынам, кампанія гэта ніякіх вынікаў у справе зьнішчэньня рэволюцыйнасьці мас ня дала, дый даць не магла. 14-га верасьня праводзіцца паведамленьне насельніцтва аб „царскай волі на скліканьне прадстаўнікоў народу дзеля ўдзелу ў кіраўніцтве дзяржавай“. Па асобных паветах была ўстаноўлена лічба абіральнікаў, якіх трэ' было абраць ад валасьцей (пералічу толькі паветы, якія ўвайшлі ў склад б. Магілеўскай акругі): Быхаўскага павету—20 асоб (па два ад воласьці), Магілеўскага—24, Чавускага—18 і Рагачоўскага—28, ад паноў паветаў Быхаўскага—4, Магілеўскага—2, Чавускага—3, Рагачоўскага—5. Усіх дэлегатаў на губэрскі выбарчы сход ад губэрні павінна было зьявіцца 40—ад сялян, 53 ад паноў і 16—ад гарадзкога насельніцтва. Зразумела

[1]) Тут сяляне дэмократамі называлі паліцэйскіх. „Ня мы, а вы—дэмократы“,—гаварылі яны, разьбіваючы ўсё, што пападалася пад руку ў хаце прystава.

сялянская бедната лёгка магла заўважыць, чые інтарэсы будуць абараняцца на гэтым выбарчым сходзе з такой пропорцыяй станавых прадстаўнікоў. Паведамленьне канчаецца наступнай агітацыяй за цара і Думу супроць рэволюцыянэраў.

„Надышоў час, калі дзейнасьць няпрошаных абаронцаў і дарадчыкаў павінна ўступіць месца здароваму розуму і вернападданіцкаму пачуцьцю саміх сялян, якія бяз усякага ўплыву з іншага боку змогуць сказаць тое, што ім трэба, тады, як зьбяруцца ў дзяржаўную Думу і голас яе дойдзе да самога цара".

18-га верасьня земскім начальнікам даецца загад аб праверцы маемаснага стану асобных сялянскіх сем'яў, дзеля выяўленьня сялян цэнзавікоў. 25-га кастрычніка—загад спраўнікам аб захаваньні парадку на валасных сходах. 5-га лістапада—для выбару сялянскіх упаўнаважаных па выбары абіральнікаў у Думу, прычым прапануецца „вызначыць для прысутнасьці на гэтых сходах па аднаму паліцэйскаму ураднiку... якія будуць па запатрабаваньню старшыні выганяць са сходу пабочных асоб". Аб усялякіх непарадках пры выбарах „паведамляць конфідэнцыяльна павятовага члена акруговага суду і разам з гэтым—губарнатара"...

Такія прымаліся меры забясьпечаньня парадку супроць таго, каб на выбары ня трапіў хто-небудзь з „апарочаных".

9-га сьнежня рассылаецца абежнік (№ 12051) аб складаньні сьпісу сельскіх гаспадароў, маючых права голасу на сходзе. Паводле гэтага абежніку пераважная роля давалася вясковым старастам, якімі ў большасьці былі кулакі.

Чэрыкаўшчына і Клімавіцкі павет далучыліся да рэволюцыйнага руху толькі ў канцы 1905 году, затое адразу выявілі глыбокую рэволюцыйнасьць. Магілеўскае жандарскае ўпраўленьне ў „політаглядзе за 1906 г." прызнае, што „народнае хваляваньне на рэволюцыйным грунце дасягнула свайго апогею ў сьнежні 1905 г... дзякуючы сялянам названых паветаў, якія вярнуліся з поўдню Расіі з шахт, з прычыны спыненьня там работы ад забастовак і высяленьня неспакойных элемэнтаў на бацькаўшчыну". Бязумоўна, сялянскія хваляваньні зрабіліся больш сьвядомымі і організаванымі з прычыны ўплыву на іх такіх рабочых шахцёраў. Але ня трэба забывацца і на тое, што гэтыя два паветы характарызаваліся наяўнасьцю вельмі буйнога земляўладаньня, а сяляне там былі ў большасьці панскімі парабкамі (сэзоннымі), ці арандатарамі панскай зямлі. Гэта таксама мела вялікае значэньне для організацыі сялянскага руху.

Даволі яскрава гэта сьцьвярджаецца тым, што рабаваліся фольваркі пераважна буйных зямельных магнатаў. Вядомы такія, прыкладам факты, як поўны разгром хутара Сялічы (Чэрыкаўшчына), разбурэньне і спаленьне дому ў 40 пакояў „на вачох пані і яе хворага калекі сына" і ўвоз з панскіх сьвірнаў усяго хлеба. Такім-жа парадкам былі разгромлены сялянамі фольварак Капічы Цэханавецкага і Хоцімск князя Абаленскага, буйнейшыя маёнткі гэтых паветаў.

Тады губарнатарам фон-Гагманам (толькі што прызначаным замест параненага Язэрскай Клінгенбэрга, пераведзенага на службу ў сэнат) былі выпісаны з Барысава два экскадроны драгуноў, а ў Чэрыкаве і Клімавічах сформаваны вялікія паліцэйскія атрады. Разам з драгунамі, усяго праз тыдзень (11-га студзеня) пасьля свайго прыезду ў Магілеў выехаў „для кары вінаватых у відах усп а каеньня краю" і сам новы губарнатар. Злавіць стаяўшых на чале руху—Васілеўскага,

Вераб'я і іншых не ўдалося. Затое над сялянствам пазьдзекваліся яны ў ахвоту.

„Паездка губарнатара па губэрні,—піша жандарскае ўпраўленьне,—зрабіла ў гэтых паветах надзвычайнае ўражаньне выяўленьнем суровай, але справядлівай улады... бо сяляне былі ўпэўнены, што ў той час ніякай улады не існавала". Паездка гэта цягнулася 11 дзён і была фактычна трыумфальным аб'ездам ката, кідаўшага за сабой крывавы сьлед. Лютасьць прыдушэньня сялянскіх непарадкаў была зьверскай, асабліва там, дзе сяляне супраціўляліся драгунам, як, напр. у с. Горы, Чэрыкаўскага павету, вёсках Царковішча і Тупычына Клімавіцкага павету і інш. Правадыроў руху „перад дзерзкім натоўпам" катавалі шампаламі да паўсьмерці, прымаўшых меншы ўдзел секлі розгамі, зьбівалі кулакамі і прыкладамі. Даставалася і новым старастам, якіх сяляне выбіралі дэмократычна, паскідаўшы старых. Зразумела, папярэднія старасты і соцкія былі адноўлены ў сваіх службовых правох.

Сіле зброі прышлося ўступіць. Вёска за вёскай здаваліся сяляне на „міласэрнасьць" пераможцаў, выдаючы сваіх кіраўнікоў (што было галоўнай умовай такое здачы), ці абяцаючы кругавой парукай знайсьці іх, калі тыя пасьпелі ўцячы. І пры звароце губарнатара з свайго „поля бітвы" ў Магілеў ужо „ўсюды па сёлах спаткалі яго з хлебам і сольлю, а сяляне станавіліся на калені, упэўняючы, што яны ўперад ніколі ліхіх людзей слухаць ня будуць",— як радасна апісвае гэта той-жа вышэйпамянёны даклад. Сялянскі рух часткай толькі прыціх, часткай зусім згас.

Сялянскі рух на Магілеўшчыне ня скончыўся на 1905 годзе, а толькі схаваўся ў далейшым ў падпольле. Вядома, напрыклад, што ў 1906 г. было падпалена многа фольваркаў і сяліб кулацтва. Ня гледзячы ні на якія рэформы, як, напр., сталыпінская, сялянскія непарадкі бадай што бязупынна (напрыклад, 1906, 1907, 1909, 1910, 1912 і 1914 г. г.) мелі месца на Магілеўшчыне.

Перанаселенасьць вёскі, страшэнны зямельны голад штурхалі сялянства бяз канца на ўсё новыя і новыя *непарадкі*. І толькі Кастрычнікаўская рэволюцыя, адабраўшы ў карыстаньне працоўных мас сялянства зямлю ад паноў, гэтым самым вырашыла зямельнае пытаньне, якое не магла вырашыць эксплёататарская ўлада царская або монархічная. Толькі Кастрычнікаўская рэволюцыя спыніла адвечную барацьбу працоўнага сялянства за зямлю, узьвяла яго на новы шлях жыцьця, на адзіны выхад з ранейшага жабрацтва—колектывізацыю.

---

І. Гершэнбаўм.

# Мястэчка Шчадрын у рэконструкцыйным пэрыодзе.

## Социяльна-экономічная структура Шчадрынскага насельніцтва.

У Шчадрыне — 419 сем'яў, з іх 379 яўрэйскіх і 40 беларускіх. Агульны лік насельніцтва — 2.021. На 1-е кастрычніка 1930 г. насельніцтва Шчадрына па роду заняткаў і соцыяльнаму складу характарызавалася наступнай таблiцай:

Табліца № 1.

**Соцыяльны склад і заняткі насельніцтва (па сем'ях).**

| | Земляробы | | | Саматужнікі | | | Рабочыя і батракі | Служачыя | Бяз пэўных заняткаў | Утрыманцы | Непрацоўны элемент | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Агульны лік | Колгаснікі | Аднаасобнікі | Агульны лік | Сябры арцеляй | Аднаасобнікі | | | | | | |
| Абсолютны лік . . . | 215 | 198 | 17 | 95 | 62 | 33 | 17 | 18 | 31 | 39 | 4 | 419 |
| Процантныя суадносіны . | 51,3 | 47,2 | 4,1 | 22,7 | 15 | 7,9 | 4,2 | 4,2 | 7,4 | 9,4 | 0,9 | 100 |

З гэтай табліцы відаць, што ў сучасны момант 62,2 проц. насельніцтва Шчадрына ня толькі займаюцца продукцыйнай працай, але нават уцягнуты ў аграмаджаны сэктар сельскай гаспадаркі і саматужнай вытворчасьці. Калі мы далучым сюды яшчэ рабочых і служачых, якія таксама працуюць выключна ў аграмаджаным сэктары народнай гаспадаркі і ў дзяржаўных установах, то атрымаем, што 70,3 проц. усяго насельніцтва Шчадрына ўцягнуты ў соцыялістычны сэктар народнай гаспадаркі і прымаюць непасрэдны ўдзел у соцыялістычным будаўніцтве.

Наогул-жа 82,5 проц. насельніцтва Шчадрына заняты продукцыйнай працай. Гэта вынік упартай работы пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі над уцягненьнем яўрэйскіх працоўных у соцыялістычнае будаўніцтва.

Калі мы добра прыглядзімся да гэтых 82,5 проц. шчадрынскага насельніцтва, уцягнутага ў продукцыйную працу праз колгас, саматужную коопэрацыю, дзяржаўныя ўстановы і інш. і паглядзім, чым яны былі раней, дык пабачым тыя вялікія зьмены, якія адбыліся ў соцы-

яльным і профэсіянальным складзе насельніцтва за апошнія гады, асабліва ў рэконструкцыйны пэрыод.

Табліца № 2.

**Соцыяльны склад і заняткі насельніцтва ў параўнаньні з 1924 г.** [1])

| | | Гады | | |
|---|---|---|---|---|
| | | 1924 | 1 кастрычніка 1930 | Прырост |
| Сельская гаспадарка | абсолютны лік | 104 | 215 | + 111 |
| | % суадносіны | 24,9 | 51,3 | + 206,7 |
| Саматужнікі | абсолютны лік | 118 | 95 | — 23 |
| | % суадносіны | 28,2 | 22,7 | — 19,5 |
| абочыя і батракі | абсолютны лік | 16 | 17 | + 1 |
| | % суадносіны | 3,8 | 4,1 | + 6,3 |
| Служачыя | абсолютны лік | 8 | 18 | + 10 |
| | % суадносіны | 1,9 | 4,2 | + 225 |
| Бедната | абсолютны лік | 22 | — | — 22 |
| | % суадносіны | 5,3 | — | —100 |
| Непрацоўнае насельніцтва | абсолютн. лік | 95 | 4 | — 91 |
| | %суадносін. | 22,7 | 0,9 | — 95,4 |
| Бяз пэўных заняткаў | абсолютны лік | 28 | 31 | + 3 |
| | % суадносіны | 6,7 | 7,4 | + 10,7 |
| Утрыманцы | абсолют. лік | 27 | 39 | + 12 |
| | % суадносіны | 6,5 | 9,4 | + 44,4 |
| УСЯГО | абсолютны лік | 418 | 419 | |
| | % суадносіны | 100 | 100 | |

Гэта табліца паказвае, што калі ў 1924 г. мы мелі 104 сем'і, якія займаліся сельскай гаспадаркай і якія складалі толькі 24,9 проц. усяго насельніцтва, дык у 1930 г. мы ўжо маем 215 сямей у сельскай гаспадарцы што складае ўжо 51,3 проц. усяго насельніцтва. Гэта значыць, што на працягу 6 год лік насельніцтва, працуючага ў сельскай гаспадарцы павялічыўся на 206 процантаў і складае больш за палову ўсяго шчадрынскага насельніцтва.

Як паказвае табліца № 2, лік непрацоўных элемэнтаў зьменшыўся на 95,4 проц., гэта значыць з 95 сем'яў непрацоўных (гандляры, мясьнікі, služкі культу) засталося ўсяго чатыры — рабін, разьнік і два мясьнікі. Спэцыфычная вага іх паміж усяго насельніцтва складае0,9 проц. тым часам як у 1924 г. яны складалі 22,7 проц. Значная частка іх пайшла на сельскую гаспадарку (гл. разьдзел „Колгас Соцыялістычны шлях“, табл. 5).

У сельскую гаспадарку, а тасама ў іншыя галіны продукцыйнай працы ўлілася значная частка групы беднаты. Гэтая група ў 1924 г. налічала 22 сям'і і складала 5,3 проц. усяго насельніцтва.

[1]) Даныя 1924 г.—няпоўныя.

Сельска-гаспадарчае насельніцтва павялічылася за кошт саматужнікаў. К 1924 г. саматужнікі налічалі 118 сем'яў або 28,2% усяго насельніцтва. К 1-му кастрычніка 1930 г. яны налічаюць 95 сем'яў або 22,7% насельніцтва. Такім чынам, гэта група зьменшылася на 19,5%. Значная частка яе таксама пайшла ў сельскую гаспадарку.

Зьдзіўляе ў Шчадрыне як быццам-бы поўная ўжо адсутнасьць прыватнага гандлю, бо ня відаць ніводнай прыватнай крамы, ніводнага дробнага гандляра на рынку.

Ад прыватных крам засталіся толькі шыльды ды засовы і замкі на дзьвярах. Але такі вывад быў-бы памылковым. Прыватны гандляр, праўда, зачыніў сваю краму, але здаваць свае позыцыі добраахвотна ня хоча. Ён прыстасаваўся да новых умоў, выкарыстоўваючы нашы гаспадарчыя труднасьці. Ён вядзе гандаль без патэнту, бяз крамы, бяз шыльдаў і бяз рэклям. Гандаль ідзе праз пасылкі. Калі пасядзець невялікі час на пошце, дык мы ўбачым, як штодня прыбываюць пасылкі з Масквы, Ленінграду, Днепрапятроўску і інш. індустрыяльных цэнтраў і як пасылаюцца пасылкі ў індустрыяльныя цэнтры. Нас зацікавіла, якія рэчы прыбываюць у Шчадрын і якія пасылаюцца адтуль. Прыбывае селядзец, салоная рыба, мануфактура, камашы, мыла і інш. Пасылаецца — масла, сала, яблыкі і г. д. У той час пераважна пасылаліся ў Донбас, Харкоў, Днепрапятроўск масамі яблыкі. Як мы даведаліся, цана яблак на вольным рынку ў індустрыяльных цэнтрах даходзіла да 30-40 рублёў пуд, а ў Шчадрыне—10 рублёў пуд. Атрыманыя продукты цішком абменьваюцца на рынку.

Такія гандлярскія, спэкулянцкія элемэнты звычайна хаваюцца, каб ня браць патэнты, пад групай ня маючых „пэўных" заняткаў ці пад групай „утрыманцаў". Таму робіцца зразумелым, чаму гэтыя групы павялічыліся за апошні час. Калі ў 1924 г. бяз „пэўных заняткаў" было 28 сем'яў, або 6,7% насельніцтва, дык к 1 кастрычніка 1930 г. мы ў гэтай групе маем 31 сям'ю, або 7,4% насельніцтва. У групу ўвайшло 8 былых гандляроў, якія складаюць 25,9% усёй групы (гл. табліцу 3).

Табліца № 3.

**Сем'і „бяз пэўных заняткаў" і чым яны займаліся раней.**

| | Гандляры | Сяляне: Серадняки | Сяляне: Кулакі | Бедната | Служ. культу | Мясьнікі | Бяз пэўных заняткаў | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Абсолютны лік . . . | 8 | 2 | 2 | 7 | 1 | 2 | 9 | 31 |
| %% суадносіны . . . | 25,9 | 6,4 | 6,4 | 22,6 | 3,2 | 6,4 | 29,1 | 100 |

Такое-ж становішча мы маем з групай сем'яў, якія знаходзяцца на „ўтрыманьні" сваякоў. І тут маем 10 „былых" гандляроў, 25,7% усёй групы (гл. табліцу 4). Местачковыя органы ня цікавяцца тым, каб выкрыць гэты гандаль. У некаторых выпадках яны нават дапамагаюць яму тым, што не абкладаюць ніякімі падаткамі нават тыя элемэнты, якія маюць заежджыя дамы і адкрыта вядуць гандаль у даволі шырокім маштабе.

Але будзе таксама няправільна, калі мы ўсю групу сем'яў, ня маючых „пэўных заняткаў", залічым да гандляроў. Гэта сапраўды

група, якая ня мае пэўнага занятку, профэсіі, працы. Але гэта далёка ня тая група „бяз пэўных заняткаў", з якой мела справу статыстыка пры вызначэньні заняткаў розных слаёў яўрэйскага насельніцтва да рэволюцыі. Старая статыстыка пад назвай „бяз пэўных заняткаў" разумела той слой яўрэйскага насельніцтва былой „чарты аседласьці", які на запытаньне „чым займаецеся" ня мог даць адказу, бо ён займаўся „ўсім і ўсялякім" і жыў паветрам. Вось гэты слой цяпер у Шчадрыне зьнік. Пад назвай „бяз пэўных заняткаў" мы разумеем такія элемэнты, якія займаюцца ўжо грамадзка-карыснай працай, але сэзоннай. Частка з іх возіць пясок для шосавага будаўніцтва, працуе на шашы, займаецца высечкай лесу ці вывазам яго. Дзеля таго мы сярод гэтае групы бачым частку былой беднаты — 7 сем'яў, або 22,6% усяе групы. Гэтыя сем'і гаспадарча яшчэ не ўпарадкаваны. Канчаюцца сэзонныя работы, тады яны прымушаны перайсьці на іншыя заняткі. Але аб беспрацоўі тут і гутаркі быць ня можа, паколькі беспрацоўе ў Шчадрыне наогул ліквідавана.

Асноўная маса сем'яў, якія знаходзяцца на ўтрыманьні сваякоў, зьяўляюцца ў большасьці ўтрыманцамі з вялікім стажам. Гэта тыя элемэнты, што страцілі сваю працаздольнасьць, інваліды і старыя. У большасьці гэта адзіночкі або муж з жонкай. Звычайна яны знаходзяцца на ўтрыманьні дзяцей ці блізкіх сваякоў. Частка жыве выключна на грошы, атрымліваныя ад сваякоў з Амэрыкі. Штомесяц у Шчадрыне атрымліваецца з Амэрыкі да 400—450 доляраў. Праўда, ня ўсю гэту суму атрымлівае гэта група, бо значная колькасьць іншых груп насельніцтва таксама мае сваякоў у Амэрыцы і атрымлівае ад іх пэўную дапамогу.

Табліца № 4.

**Група, якая знаходзіцца на ўтрыманьні сваякоў і чым яна займалася раней.**

| | Гандляры | Сяляне | Жабракі | Утрыманцы | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| Абсолютны лік . . . . | 10 | 2 | 4 | 23 | 39 |
| %% суадносіны . . . | 25,6 | 5,1 | 10,2 | 59,1 | 100 |

Зьмяншэньне групы саматужнікаў на 19,5% тлумачыцца, галоўным чынам, недахватам сыравіны, а таксама збыткам працоўных рук у асобных галінах саматужнага промыслу — напр., кравецкім, шавецкім. Гэта некваліфікаваную частку саматужнікаў штурхала да перакваліфікацыі. Частка іх перайшла ў сельскую гаспадарку, галоўным чынам, шаўцы.

Шчадрын, як і іншыя мястэчкі на Беларусі, давала таксама перасяленцаў. Але параўнальна з другімі мястэчкамі эміграцыя з Шчадрыну была значна слабейшай. Трэба яшчэ дадаць, што адначасна з эміграцыяй з Шчадрына ішла і іміграцыя. У тых вестках аб эміграцыі, што ёсьць, не паказаны гады, і дзеля таго цяжка вызначыць, у які пэрыод эміграцыя была мацнейшай. Таксама не паказаны мэты і заняткі перасяленцаў і куды яны перасяліліся, бо перасяленьне ішло стыхійна, за выключэньнем аднэй сям'і, якая перасялілася ў Крым праз „АЗЭТ".

Наогул за час з 1920 году выехала з Шчадрына 44 сям'і. Па занятках першае месца займаюць сем'і бяз пэўных заняткаў, другое — саматужнікі і г. д. З 44 сем'яў 29, або 65,9% пераехала ў розныя

месцы ў межах БССР, рэшта ў розныя гарады Савецкага Саюзу. Пра 3 сем'і аб тым, куды яны перасяліліся, зусім няма вестак. З 11 сем'яў, якія перасяліліся ў розныя гарады Савецкага Саюзу, першае месца займаюць тыя, што перасяліліся ў індустрыяльныя цэнтры — 5 сем'яў з 11.

З 44 сем'яў 35, або 79,5% перасялілася ў гарады, 3 сям'і, або 6,8% — у мястэчкі, 3, або 6,8% — у вёскі, рэшта — нямаведама куды. Адсюль можна прыйсьці да вываду, што большая частка эмігравала з мэтай асталявацца ў прамысловасьці. Гэта бясспрэчна дапамагло паставіць на цьвёрды экономічны грунт як самых перасяленцаў, так і тых, хто застаўся ў мястэчку.

Социяльна-экономічныя зьмены, якія адбыліся сярод насельніцтва Шчадрына, вельмі ярка выяўляюцца з лічбаў аб удзеле насельніцтва мястэчка ў перавыбарах местачковага савету. Калі ў часе выбару ў местачковы савет у 1929 г. было ў Шчадрыне 264 пазбаўленых выбарчага права, дык у часе выбараў у 1930 г. былі адноўлены ў правох 120 чалавек, г. зн. 45,5% усіх пазбаўленых выбарчага права. Калі нават частку пазбаўленых у 1929 г. тлумачыць як вынік „перагібаў“, дык усё-ж ясна, што гэтыя 120 чалавек уцягнуты ў розныя галіны продукцыйнай працы і пераважна ў социялістычны сэктар местачковай гаспадаркі. Гэта якраз тая частка, якая цалкам парвала з непродукцыйнымі заняткамі і жыве з уласнай працы.

## Колгас „Социялістычны шлях“.

Першае, што зьвяртае на сябе ўвагу ў Шчадрыне, гэта колгас „Социялістычны шлях“, заснаваны ўвосень 1929 г. Шчадрынскія земляробы ў гэты год у асноўнай масе сваёй пераканаліся ў неабходнасьці социялістычных форм гаспадаркі і організавалі колгас „Социялістычны шлях“

Колгас „Социялістычны шлях“ к 1 кастрычніка 1930 г. налічаў 198 сем'яў, г. зн. 47,2% агульнага ліку сем'яў мястэчка. Разам з членамі сям'і ён налічае 841 душу, што складае 41,6% усяго шчадрынскага насельніцтва. З гэтых 841 душ 456 працаздольных, аддаючых сваю рабочую сілу на патрэбу колгасу. Гэты колгас у Шчадрыне зьяўляецца галоўнейшым экономічным фактарам мястэчка, паколькі ён зьяўляецца сродкам існаваньня для 41,6% шчадрынскага насельніцтва, не гаворачы нават пра яго дзяржаўнае значэньне, бо колгас ужо ў гэтым годзе даў 80.000 пудоў таварнай гародніны для гораду. Каб ацаніць значэньне колгасу для Шчадрына і тыя зьмены, якія ён зрабіў у экономічным і социяльным жыцьці мястэчка, неабходна азнаёміцца з асабовым складам колгасу і ведаць социяльнае становішча і ранейшыя заняткі яго членаў.

Табліца № 5.

**Члены колгасу „Социялістычны шлях“ паводле іх ранейшых заняткаў.**

| | Сяляне | Саматужнікі | Бедната | Рабочыя і батракі | Служачыя | Бяз пэўных заняткаў | Непрацоўны элемэнт | Служ. культу | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Абсолютны лік . . | 84 | 26 | 15 | 6 | 6 | 20 | 38 | 3 | 198 |
| %% суадносіны . . | 42,4 | 13,1 | 7,6 | 3 | 3 | 10,1 | 19,3 | 1,5 | 100 |

Аналіз соцыяльнага складу членаў колгасу паказвае, што з агульнага ліку колгасьнікаў толькі 42,4% займаліся земляробствам яшчэ да ўваходу ў колгас (іх павялічылася амаль што ўдвая ў параўнаньні з колькасьцю да рэволюцыі). Гэта, праўда, самая вялікая група, але не пераважная. 13,1% колгасьнікаў да ўваходу ў колгас былі саматужнікамі. Гэта пераважна саматужнікі не кваліфікаваныя. Значная частка іх шаўцы, выпіхнутыя з промыслу, з прычыны збытку рабочых рук у гэтай галіне. Ня меншую ролю тут адыгрываў таксама недахват сыраваны, які найбольш адчуваецца ў галіне скураной прамысловасьці. Дзеля гэтага яны не маглі быць прыняты ў саматужныя арцелі (у гэтым годзе быў нават адліў членаў з арцелі шаўцоў). Перад гэтай часткай саматужнікаў паўстала пытаньне аб зьмене заняткаў. Гэтыя ў аснове працоўныя элемэнты знайшлі сабе месца ў колгасе. 10,1% колгасьнікаў да ўваходу ў колгас зусім ня мелі пэўнай профэсіі. Гэта элемэнты, якія кідаліся ад аднаго занятку да другога. Пра кваліфікацыю тут не магло быць і гутаркі, бо сягоньня ён быў шкляром, заўтра „балаголам“, а калі зусім ня было выхаду, то браўся і за дробны гандаль.

Даволі значную групу сярод колгасьнікаў складаюць былыя непрацоўныя элемэнты. Гэта — былыя гандляры, мясьнікі, прадпрыемцы, арандатары і г. д. Большая частка гэтых гандляроў займалася дробным гандлем. Дзякуючы таму, што спажывецкая коопэрацыя ўсё больш і больш пашыралася ў Шчадрыне і суседніх вёсках, становішча гэтых гандляроў рабілася ўсё больш горшым. Перад імі паўстала пытаньне: або зусім зьнікнуць, або ўзяцца за продукцыйную працу. Нельга сказаць, што ўся група непрацоўных элемэнтаў перайшла на продукцыйную працу толькі ў часе організацыі колгасу. Гэта быў процэс даволі доўгі, які цягнуўся некалькі год. Яшчэ ў 1924 г. ў часе земляўпарадкаваньня ў Шчадрыне частка гэтай групы атрымала зямлю, паколькі яна (гэтая частка) ужо тады страціла экономічны грунт пад сваімі нагамі. Гэтая частка перайшла да продукцыйнай працы ў сельскай гаспадарцы. Яна складае 42,1% (17 сем'яў) усёй групы непрацоўных элемэнтаў у колгасе. Такім чынам, частка гэтай групы к моманту організацыі колгасу ўвайшла ў яго ў якасьці земляробаў. Але сярод гэтае групы ёсьць паасобныя прадпрыемцы і былыя буйныя гандляры, якіх ня трэ' было прымаць у колгас, напрыклад, млынары. Факт прыёму іх у колгас нельга расцэньваць інакш, як праяву правага опортунізму ў колгасным будаўніцтве.

Калі мы ўсіх колгасьнікаў падзелім на дзьве групы ў залежнасьці ад таго, займаліся яны раней продукцыйнай працай ці непродукцыйнай, дык атрымаем такі малюнак:

1. Продукцыйнай працай—земляробы, саматуж., раб. і служ.—61,5%.

2. Непродукцыйнай працай — гандляры, служкі культу, людзі бяз „пэўных заняткаў“, бедната — 38,5%. Гэта элемэнты, зусім страціўшыя экономічны грунт, і выхадам для іх было або зьнікненьне, або пераход да жыцьця на здаровых, моцных экономічных асновах, пераход да продукцыйнай працы. Часткова гэта было ўжо зроблена да організацыі колгасу, канчаткова-ж гэта пытаньне было вырашана з організацыяй колгасу.

Калі мы дэталізуем склад колгасьнікаў па іх соцыяльнаму становішчу да ўваходу ў колгас, дык атрымаем наступны малюнак:

1. Рабочыя—3% (гэта — рабочыя, працаваўшыя ў саматужнікаў, ня маючыя ні практыкі, ні дысцыпліны, ні організаванасьці фабрычных рабочых).

2. Земляробы і саматужнікі, працоўныя элемэнты — 55,5% (асноўная маса колгасу).

3. Служачыя — 3%. Гэта местачковая працоўная інтэлігенцыя. Яны юрыдычна лічацца членамі колгасу і дапамагаюць весьці грамадзкую работу ў колгасе.

4. Бедната і бяз пэўных заняткаў. 17,7% — элемэнты, блізкія з свайго социяльнага становішча да працоўных.

5. Непрацоўныя і служкі культу — 20,8%, паходзяць з соцыяльна-варожага асяродзьдзя.

Рознастайнасьць соцыяльнага складу колгасу адбілася на ўсім колгасным жыцьці. У ім адбілася тая абвостраная клясавая барацьба, якая ідзе навокал колгаснага руху наогул і ў колгасе, у прыватнасьці.

Гандлярская частка, якая ня хоча мірыцца з новымі ўмовамі і марыць аб тым, каб зноў вярнуцца да гандлярства, глядзіць на колгас, як на часовы прытулак, што павінен даць магчымасьць патрымацца да таго часу, калі зноў можна будзе адчыніць краму. Вось гэты элемэнт зьвязваецца з кулаком, які знаходзіцца па-за межамі колгасу і зьяўляецца кулацкай агентурай унутры колгасу. Гэтыя элемэнты імкнуцца выкарыстаць усё, каб узарваць колгас з сярэдзіны. Яны выкарыстоўваюць кожную труднасьць, якая сустракаецца ў рабоце. Так, у часе ўборкі ўраджаю патрэбна была асаблівая напружанасьць з боку ўсіх колгасьнікаў. Усе гэтыя клясава-варожыя элемэнты прабавалі ўзарваць колгас з сярэдзіны, уносіўшы дэзорганізацыю ў яго работу. Яны імкнуліся давесьці колгас да такога становішча, каб частка ўраджаю засталася гніць на полі. Гэтым яны думалі давесьці непатрэбнасьць і шкоднасьць колгаснага будаўніцтва і што, такім чынам, колгасны рух будзе скомпромэтаваны ў вачох бядняцка-серадняцкіх мас. У дні „рошашона, ёмкіпур“ (яўрэйскія рэлігійныя сьвяты), якія якраз супалі з часам уборкі гародніны, клясава-варожыя элемэнты імкнуліся дэзорганізаваць работу, агітуючы сярод адсталых колгасьнікаў не хадзіць у сьвята на работу. У пэўнай меры ім гэта ўдалося. У дні „рошашона“ значная большасьць адсталых старых колгасьнікаў ня вышла на работу. 10 рабочых дзён страціў колгас, дзякуючы дэзорганізуючай рабоце гэтых элемэнтаў. Гэтыя элемэнты выкарыстоўвалі нашы гаспадарчыя труднасьці з мэтай рабіць уплыў на адсталых колгасьнікаў. „Калі вы ня будзеце працаваць у рошашона і ёмкіпур, усё роўна атрымаеце тое самае, што і тыя, хто будзе працаваць. Чалавек—ня конь. Трэба і адпачыць. Нічога вы ад гэтага ня страціце“—гаварылі кулакі і клерыкалы.

Ня лішне будзе адзначыць барацьбу, якую кулакі вялі супроць колектывізацыі яшчэ ў студзені 1928 г. Вось што піша пра гэта ў сваёй справаздачы т. Шык, агроном „ОРТ‘у“, працаваўшы ў Шчадрыне: „Я высьвятляў магчымасьці організацыі колгасу... я склікаў два сходы, на якіх прысутнічалі старшыня нацсавету, сакратар комуністычнай ячэйкі і 15 сем‘яў. На сходзе высьветлілася, што 5 сем‘яў згодны організаваць колгас. Гэта больш бядняцкія сем‘і. 10 сем‘яў, усе серадцякі і заможныя заявілі, што яны згодны організаваць колгас, але яны дадуць свой сьпіс заснавальнікаў. А гэтых 5 беднякоў яны ў колгас ня возьмуць, бо яны непрацаздольныя“. Зразумела, арцель тады ня была організавана таму, што кулаку тады ўдалося настроіць серадняка супроць бедняка, які быў абазваны гультаём. Гэты-ж самы спосаб яны імкнуцца скарыстаць і цяпер, калі партыі ўжо ўдалося канчаткова ізоляваць серадняка ад кулака і калі серадняк масамі ідзе ў колгас разам з бедняком.

У часе ўборкі бульбы частка ўраджаю была разьмяркована паміж колгасьнікамі для ўласнага спажываньня. Але і гэта было скарыстана кулацкімі элемэнтамі, як яблыка спрэчак, бо, бачыце, яны (кулакі) умеюць настроіць несьвядомыя элемэнты нават і па поваду таго, што аднаму дасталася бульба буйная, а другому—дробная.

У выніку шкоднай работы клясава-варожых элемэнтаў, а таксама дзякуючы таму, што кіраўніцтва не дало належнага адпору гэтым элемэнтам, колгас меў рад страт, а менавіта: была страчана частка аўса, які ня быў сваечасова зьвезены, цяляты стапталі сэрадэлю, ня быў сабраны бульбоўнік для сілосаваньня, частка сена згніла на полі і г. д. Ня гледзячы на тое, што колгас мае досыць рабочых рук для ўборкі бульбы, прышлося наймаць рабочую сілу, дзякуючы таму, што 10 рабочых дзён было сарвана ў часе рэлігійных сьвят.

Але гэтым элемэнтам не ўдалося дэзорганізаваць колгас, які паставіў на цьвёрды грунт амаль што палову местачковага насельніцтва. У адказ на выступленьне клясава-варожых элемэнтаў, колгасная маса якраз ка дню „ёмкіпур" шырака разгарнула соцспаборніцтва і ўдарныя брыгады (да гэтага часу мэтоды соцспаборніцтва і ўдарных брыгад ня ўжываліся ў колгасе). Былі выключаны тры дэзорганізатары з колгасу. Гэта дало магчымасьць поўнасьцю выбраць бульбу і гародніну.

Ня гледзячы на ўсе труднасьці і на абвостраную барацьбу, колгас мае вялікія посьпехі ўжо за першы год свайго існаваньня.

Колгас атрымаў два трактары, якія выкарыстоўваюцца як мэханічная сіла на рознай рабоце, напр., пры рэзцы сілосу і інш. Пастаўлена цыркулярка для рэзкі пры дапамозе трактару дошчак для патрэб колгасу. Пабудавана сілосная вежа на 25.000 пудоў сілосу, 2 квасільні для саленьня 20 тысяч пудоў гуркоў і капусты. Пабудаваны два хлявы для 200 кароў.

Апрача гародніны, колгас мае на ўвазе займацца таксама жывёлагадоўляй. Ужо ў сучасны момант ён мае 333 галавы буйнай рагатай скаціны: 234 каровы, 97 падцёлкаў і 2 быкі-вытворнікі. Ёсьць спэцыяльна абсталяваны малочны завод для пераапрацоўкі малака ў масла і сыр. Завод ня можа працаваць нормальна, бо статак яшчэ малы і не дае патрэбнай колькасьці малака.

Мэханізаваны млын, раней належаўшы прыватніку, а цяпер адышоўшы да колгасу; апрача колгасу ён абслугоўвае яшчэ суседняе сялянства.

Гаспадарчае становішча колгасу характарызуецца наступнай табліцай.

Табліца № 6.

**Становішча колгасу „Соцыялістычны Шлях" к 1-му кастрычніка 1930 г.** [1])

| | |
|---|---|
| Лік аграмаджаных гаспадарак | 198 |
| Колькасьць душ | 841 |
| з іх: мужчын | 424 |
| жанчын | 417 |
| Колькасьць працаздольных | 456 |
| з іх: мужчын | 222 |
| жанчын | 234 |
| Зямельная плошча | 1.500 гектараў |
| пад ворыва | 1.200 „ |
| „ сенажаць | 300 „ |

[1]) Паказаны толькі найбольш важны інвэнтар.

Жывы інвэнтар:

| | |
|---|---|
| Коні | 106 |
| Каровы | 234 |
| Цяляты | 102 |
| Быкі-племяньнікі | 2 |
| Падсьвінакі | 118 |
| Сьвінаматкі | 10 |
| Кныры-племяньнікі | 2 |
| Вульлі | 30 |

Будынкі:

| | |
|---|---|
| Сілосная вежа | 1 |
| Жыльлёвыя будынкі | 6 |
| Хлявы для жывёлы | 13 |
| Інш. | 3 |

Сельска-гаспадарчыя машыны і прылады.

| | |
|---|---|
| Трактары | 2 |
| Плугі 1-корпусныя | 56 |
| Плугі 2-корпусныя | 4 |
| Бароны драўляныя з жалезнымі зубамі | 43 |
| Бароны-спрунжыноўкі | 7 |
| Сявяркі | 4 |
| Жнявяркі | 7 |
| Конныя граблі | 2 |
| Малатарні | 4 |
| Веялкі | 3 |
| Сенарэзкі | 1 |
| Сілосарэзкі | 1 |
| Бульбакапалкі | 2 |
| Касілка | 1 |

Колгас „Соцыялістычны шлях“ мае каля 20 сем'яў беларускіх сялян. Гэткім чынам, ён адразу стаў на шлях інтэрнацыяналізацыі. Тут трэба падкрэсьліць тыя посьпехі, якія маюцца ў Шчадрыне ў галіне наладжаньня інтэрнацыянальных братэрскіх узаемаадносін паміж яўрэйскім і неяўрэйскім працоўным насельніцтвам.

У 1924 г., у часе земляўпарадкаваньня ў мястэчку кулакі і клерыкалы павялі агітацыю сярод адсталай часткі беднякоў і серадняков, каб адабраць ад беларусаў „яўрэйскія“ землі, якія яны „захапілі“ ў часе грамадзянскай вайны. Для ўрэгуляваньня гэтай справы выяжджала адна камісія за аднэй. Нарэшце, частка беларускіх сялян была пераведзена на другую вольную зямлю, у 2 клм ад Шчадрына, на гэтак званую „фэрму“. Цяпер гэтыя самыя яўрэйскія і неяўрэйскія сяляне аб'ядналіся ў колектыў „Соцыялістычны шлях“, супольна працуюць і адданы душой і целам колгасу. Яўрэйскія земляробы пабачылі, што іх вораг—гэта не беларускі селянін, але іх уласны кулак. Яны ўбачылі, што іх ворагі—гэта клерыкалы, якія дапамагаюць кулаком і імкнуцца сарваць колгаснае будаўніцтва.

Але трэба сказаць, што кулакі і клерыкалы ня сьпяць. Яны імкнуцца распаліць нацыянальную варожасьць і гэтым сарваць колгаснае будаўніцтва. Вось што апавядае газэта, выданая ў Шчадрыне

ў часе перавыбараў. У беларускім колгасе „Прабуджэньне“ быў пажар. Патрабавалася хуткая дапамога. Колгас „Прабуджэньне“ зьвярнуўся за дапамогай у Шчадрын. Пажарная каманда папрасіла загадчыка Фінкельштэйна даць пару коняй з колгаснай стайні. Ён даў пару кляч, а добрых коняй схаваў. Пры гэтым ён дадаў: „Шкада губіць коні для „чужога“ колгасу“.

Колгас знаходзіцца яшчэ ў пэрыодзе організацыі. Ён бязумоўна мае шмат пэрспэктыў на далейшае разьвіцьцё. Мястэчка Шчадрын уключана ў плян гаспадарчага ўпарадкаваньня мястэчак. Колгас яшчэ можа ўцягнуць значную колькасьць новых членаў, безьзямельную працоўную беднату. Трэба памятаць, што колгас спэцыялізуецца на гародніцтве і жывёлагадоўлі. Да гэтага часу застаюцца нявыкарыстанымі 700 гектараў зямлі: 300 гектараў быўшых пад лесам (ляды) і 400 гектараў пяшчанага грунту. Калі гэтыя 300 гектараў выкарчаваць, а 400 гектараў засеяць лубінам і ўключыць іх у севазварот, дык магчыма будзе ўцягнуць у колгас працоўную местачковую беднату, яшчэ дагэтуль экономічна неўпарадкаваную. Пры гэтым трэба будзе работу на полі мэханізаваць, бо ў іншым выпадку ў часе ўборкі будзе адчувацца недахват рабочых рук.

Ёсьць таксама проект, як выкарыстаць вольную рабочую сілу зімой. Шчадрын знаходзіцца недалёка ад ракі Бярэзіны. Парыцкі раён лічыцца лясным раёнам. Тут ёсьць попыт на лазу для зьвязваньня плытоў. Ужо з даўніх часоў шчадрынскае насельніцтва займалася лазакрутніцтвам. Раней гэта было адным з галоўных заняткаў у Шчадрыне. У гэтым годзе з‘организавалася арцель лазакрутаў з 50 чалавек. Гэта бязумоўна палепшыць матар‘яльнае становішча колгасьнікаў; адначасова будзе рацыянальна выкарыстоўвацца рабочая сіла колгасьнікаў.

Галоўныя вынікі, да якіх мы прыходзім пры аналізе колгасу, наступныя:

1. Колгас радыкальна зьмяніў соцыяльна-экономічную фізыёномію шчадрынскага насельніцтва. Дзякуючы яму ўцягнуты ў соцыялістычны сэктар народнай гаспадаркі 47,2 проц. шчадрынскага насельніцтва. Колгас стварыў цьвёрды экономічны грунт для вялікай часткі местачковай бедноты і гарапашнікаў.

2. У колгаса ёсьць пэрспэктывы на далейшы рост і ён мае магчымасьць уцягнуць тых гарапашнікаў і местачковую беднату, якая яшчэ дагэтуль экономічна не ўпарадкавана.

3. Разам з ростам і экономічным узмацненьнем колгасу, нэпманскія, кулацкія, клерыкальныя элемэнты і іх падпявалы, якія часткова знаходзяцца ў колгасе, імкнуцца ўзарваць яго з сярэдзіны і тым скомпромэтаваць колгаснае будаўніцтва і нацыянальную політыку савецкай улады. Гэта сьведчыць аб канечнай патрэбе ачысьціць колгас, выкінуць з яго клясава-варожыя і чужыя элемэнты, якія ў яго пралезьлі.

4. Ня гледзячы на шкодніцкую работу клясава-варожых элемэнтаў, колгас мае за год вельмі вялікія гаспадарчыя посьпехі, хаця ён усё яшчэ знаходзіцца ў пэрыодзе організацыі.

5. Вялікія посьпехі мае колгас у галіне інтэрнацыяналізацыі. Яму ўдалося зьліць яўрэйскіх і беларускіх колгасьнікаў у практычным колгасным будаўніцтве і ў значнай меры перамагчы нацыянальную абмежаванасьць і шовінізм, якія штучна падтрымліваліся і падтрымліваюцца кулацкім, нэпманскім, клерыкальным абкружэньнем.

6. Дзякуючы колгасу, сталі на моцны экономічны грунт і ўсе іншыя мястэчковыя гарапашнікі, якія не знаходзяцца ў колгасе, напрыклад, саматужнікі і інш.

7. Не вядзецца ніякай сыстэматычнай работы з беднатой ні ў самым колгасе, ні па-за межамі яго. Дзякуючы гэтаму, клясава-варожыя элемэнты маюць яшчэ ўплыў на адсталую частку беднаты.

Трэба ўзмацніць работу сярод беднаты, організаваць беднату для барацьбы з клясава-варожымі элемэнтамі, якія імкнуцца сарваць работу колгасу. Работа павінна весьціся сыстэматычна навокал конкрэтных пытаньняў колгаснага жыцьця.

---

P. P.

# Контр-рэволюцыйная работа нацдэмаў і кандрацьеўцаў у катэдры коопэрацыі і колектывізацыі БАН.

Беларускі контр-рэволюцыйны нацдэмократызм пры патураньні і дапамозе нацыянал-опортуністаў Акадэмію Навук, створаную волею рабочае клясы і яе авангарду—комуністычнай партыі БССР, абярнуў у штаб сваёй контр-рэволюцыйнай дзейнасьці. Для дасягненьня сваіх мэт нацдэмы не абмяжоўваліся захватам якой-небудзь аднэй часткі Акадэміі—аднэй яе ўстановы. Ім патрэбна было ўсю Акадэмію падпарадкаваць свайму ўплыву—зрабіцца ў ёй гаспадарамі становішча. Апошняе ў асноўным імі і было дасягнута.

Такая катэдра, як катэдра коопэрацыі і колектывізацыі, роля якой у пэрыод соцыялістычнай рэконструкцыі набывае асаблівае значэньне, не магла быць абойдзена іх (нацдэмаў) увагай. Упачатку ўся іх увага была накіравана ў бок рашучага супраціўленьня адчыненьню катэдры. У гэтым напрамку яны дабіліся свайго. Катэдра пачала існаваць толькі з канца 1929 г. З першых-жа дзён існаваньня нацдэмы пастараліся кіраўнікамі катэдры зрабіць сваіх аднадумцаў, якія адкрыта павесьці сваю лінію ўсё-ж такі баяліся. Трэ' было стварыць нейкую шырму-прыкрыцьцё. Выбар прыпаў на проф. Лазавога. Лазавы працуе ў Комакадэміі і ў Інстытуце Марксызму і Ленінізму ў Харкаве. Кіраваць адтуль належным чынам катэдраю коопэрацыі і колектывізацыі БАН ён, зразумела, ня зможа, а дзеля таго, прыкрываючыся яго „вялікім" аўторытэтам, можна будзе ў поўнай меры праводзіць сваю лінію. Разьлік іх, як убачым ніжэй, быў правільны. Проф. Лазавы сапраўды аказаўся шырмаю. Апошняе добра відаць з плыняў работы катэдры, а таксама і з той продукцыі, якая засталася з часоў іх панаваньня.

Пяцігадовы пэрспэкцыйны плян катэдры напісаны заядлым кандрацьеўцам Ярашчуком і падпісаны проф. Лазавым.

Ва ўступнай частцы гэтага пляну мы маем адпаведныя спасылкі на пастановы і дырэктывы комуністычнае партыі і савецкае ўлады. Соцыялістычная рэконструкцыя сельскай гаспадаркі скланяецца і спрагаецца на ўсе лады. Адным словам, паспрабуй прыдзярыся. Але-ж гэта—шырма і калі паглядзець, што за ёй робіцца, дык стане неяк сумна, адразу паўстае пытаньне: „аб чым думаў проф. Лазавы ў той час, калі падпісваў гэты плян?"

Перш за ўсё кідаецца ў вочы, чаму гэта організацыю сэкцыі колектывізацыі трэ' было аднесьці на 1931 год і чаму гэта ў папярэднія гады і надалей трэба займацца „коопэрацыйным гандлем і гісторыяй коопэрацыі ў этнографічнай Беларусі". У сьвятле процэсу прампартыі

гэта зусім робіцца ясным. Паколькі нельга было затармазіць організацыю катэдры, дык трэ' было накіраваць яе работу так, каб яна ня выконвала чарговых задач соцыялістычнага будаўніцтва.

У пляне мы маем такі пункт: „Апрача гэтага, катэдра ставіць сабе мэтаю паступова ўцягваць *пераважна за кошт опэрацыйных сродкаў* (падкр. намі—*Р. Р.)* у навукова-дасьледчую працу катэдры найбольш марксыцка-падрыхтаваных працаўнікоў"... Сказана добра. Лепш бадай і ня трэба. Але калі да гэтага падыйсьці з другога пункту гледжаньня, дык выходзіць, што гэта таксама ёсьць свайго роду шырма. Шляхам скарыстоўваньня опэрацыйных сродкаў нацдэмы БАН групавалі вакол сябе, зусім зразумела, не марксыцка - падрыхтаваных працаўнікоў, але ўсіх сваіх прыхільнікаў—усю контр-рэволюцыю.

Каб лепш замаскаваць свой твар, яны ўнесьлі ў плян надта вялікую колькасьць самых рознахарактарных тэм, дзе пытаньні гандлю перапляталіся з колектывізацыяй і гісторыяй коопэрацыі этнографічнай Беларусі. Людзі шырокага „размаху" будавалі „шырокія" пляны. Калі-ж паглядзець, хто павінен быць выканаўцам гэтых плянаў, дык выходзіць, што ўсё гэта павінен быў распрацаваць амаль адзін Ярашчук—праўдзівей 1/2 Ярашчука, бо ён меў палову стаўкі. Канечна трэба адзначыць, што нацдэмам патрэбна была не сама работа катэдры, але толькі відзімасьць гэтай работы. Самыя-ж працы выходзілі з-пад пяра нацдэмаў наскрозь шкоднымі, контр-рэволюцыйнымі. Тэмы прац катэдры разьмяркоўваліся па гадох так. Распрацоўка тэмы „Організацыя быту і клясавая барацьба ў колгасах" аднесена на 1933 год і, нарэшце, такая тэма як „Гісторыя коопэрацыі ў этнографічнай Беларусі" на 1931 год. Лепш нічога ня прыдумаеш, асабліва калі прыпомніць, што гэты плян складаўся ў канцы 1929 г. Вось надзвычайна характэрны прыём амаль усіх шкоднікаў—актуальныя пытаньні сёньнешняга дня адсоўваць на як-мага далейшы час, сёньня-ж займацца распрацоўкаю контр-рэволюцыйных тэм.

У пляне паказаны выдаткі на адну камандыроўку за межы СССР. У зьвязку, з гэтым мімаволі ўзьнікае пытаньне: „Чаго гэта і куды трэ' было ехаць прадстаўніку катэдры колектывізацыі і коопэрацыі"? Ці не ў фашыстоўскай Польшчы кіраўнікі думалі вывучаць колектывізацыю і коопэрацыю? Пытаньне разьвязваецца проста—камандыроўкі патрэбны былі для сувязі з замежнай контр-рэволюцыяй. Адным асобам нельга было езьдзіць у адно і тое-ж месца. А дзеля таго у адзін год Некрашэвіч едзе ў Заходнюю Беларусь „вывучаць" мову, у другі—Смоліч туды „вывучаць" экономіку і ў 31-м годзе павінен быў паехаць Ярашчук ці Трахімаў вывучаць колектывізацыю. Проста і ясна.

Нарэшце некалькі слоў аб штаце катэдры і аб каштарысе. Да 1931 году паводле пляну прадбачана было толькі 1/2 штатнай адзінкі навуковага працаўніка. Апошняе было не выпадкова. Усё гэта было зроблена знарок (матар'ялы-ж працэсу прампартыі паказваюць, што і сапраўды гэта было так). Трэ' было затармазіць разьвіцьцё катэдры да 1930 году, калі чакалася інтэрвэнцыя і калі можна было-б канчаткова разьлічыцца з непажаданай катэдрай. Зусім такая-ж лінія праводзілася і ў каштарысе, які на 1929-30 год складаў бяз штату суму каля 4.000 руб.

Вялікай колькасьцю твораў б. кіраўнікі катэдры нас не ашчасьлівілі. У нашым распараджэньні ёсьць толькі блянкі досьледу, які праводзіў Ярашчук у мэтах вывучэньня малочнай коопэрацыі і артыкул „Аб спэцыялізацыі сыстэмы с.-г. коопэрацыі і організацыйнай яе структуры". Што да блянкаў, дык яны з галавой выдаюць організатара гэтага

досьледу. Абсьледваліся амаль выключна кулацкія хутарскія гаспадаркі. Для нас зусім ясна, якая была-б каштоўнасьць напісанай працы на падставе гэтых блянкаў. Досьлед меў мэтаю абгрунтаваць прышчэпаўшчыну.

На артыкуле „Аб спэцыялізацыі сыстэмы с.-г. коопэрацыі і організацыйнай яе структуры“ прыходзіцца спыніцца больш падрабязна дзеля таго, што гэты артыкул носіць характар дырэктыўнага матар'ялу і па сваёй форме зьяўляецца адкрыта контр-рэволюцыйным. У першых-жа радкох гэтага артыкулу мы чытаем: „Каля 99 проц. зямель сельскагаспадарчага значэньня знаходзіцца ў карыстаньні сельскіх гаспадарак і бліжэйшыя пэрспэктывы іх разьвіцьця, бязумоўна, будуць залежаць ад восстанаўленьня і пад'ёму апошніх“. Ня будзем гаварыць пра тое, што процант 99 зьяўляецца выдуманым і паданы тут проста, як кажуць, на ўра. Аўтарам трэ' было адразу ашаламіць чытача процантам, якога сапраўды ніколі і нідзе ня было, трэ' было з першых-жа радкоў зрабіць так, каб у працягу ўсяго артыкулу ў чытача нават і ня ўзьнікла думка аб соцыялістычных формах.

Бліжэйшыя пэрспэктывы разьвіцьця с.-гаспадаркі для іх зусім ясныя. Узмацняй, аднаўляй індывідуальныя гаспадаркі—вось асноўны іх лёзунг.

Ніжэй аўтарамі прыводзяцца і шляхі гэтага аднаўленьня праз: „а) атрыманьне ад пэўнай вытворчай адзінкі найбольшага ліку продукцыі, шляхам палепшаньня тэхнікі сельскай гаспадаркі—інтэнсыфікацыя“. Далей ідзе пункт аб сабекошту продукцыі і нарэшце пункт аб павышэньні рыначнага кошту.

Тут-жа гаворыцца і аб тым, што перашкаджае ажыцьцяўленьню гэтай політыкі. Сутнасьць гэтых перашкод у наступным: „слабая арганізаванасьць рынкаў збыту, неземляўпарадкаванасьць, аграрная перанаселенасьць“ і інш. Пакуль што аўтары не гавораць адкрыта аб індывідуальным сэктары і прыкрываюцца агульным тэрмінам „сельскія гаспадаркі“. Але-ж аналіз толькі што паданых вышэй слоў з усёй відавочнасьцю выкрывае капіталістычных рэстаўратараў. Яны змагаюцца не за соцыялістычную рэконструкцыю сельскай гаспадаркі, а за організацыю рынку, за землеўпарадкаваньне, за інтэнсыфікацыю кулацкіх гаспадарак.

У організацыі рыначных узаемаадносін, г. значыць тых узаемадносін, якія зьяўляюцца базаю капіталістычнага ладу, бачаць яны магчымасьць уздыму сельскай гаспадаркі. Яны знарок не ўспамінаюць пра соцыялістычную рэконструкцыю. Яны разам з сусьветнай буржуазіяй ня могуць зразумець той простай ісьціны, што толькі на базе індустрыялізацыі краіны—шляхам колектывізацыі і на базе гэтай колектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як клясы на яе аснове і магчыма ў поўнай меры разьвіцьцё сельскай гаспадаркі.

Такі-ж самы сэнс мае і патрабаваньне землеўпарадкаваньня, якое зводзілася выключна да ўтварэньня хутароў і дробных пасёлкаў. Гэта ёсьць ні што іншае, як падмацаваньне і ўгрунтаваньне прышчэпаўшчыны, сутнасьць і карэньні якой нам усім ужо добра вядомы. З гэтага пункту погляду зусім невыпадкова імі разьвівалася буржуазная тэорыя аб аграрнай перанаселенасьці БССР. У капіталістычных умовах кулацтва бязьлітасна экспляатуе батракоў і беднякоў. У яго руках, як гэта вельмі добра паказаў у сваёй працы „Развитие капитализма в России“ Уладзімер Ільліч Ленін, згрупоўваецца вялікая колькасьць зямельнай плошчы. Бедната пролетарызуецца — кулацтва расьце—мацнее. Аўтары артыкулу ўпэўнены, што ў БССР павінен

быць рэстаўраваны капіталізм, а дзеля таго трэба загадзя падрыхтаваць глебу для кулацтва, трэба давесьці, што ў БССР ёсьць аграрная перанаселенасьць, трэба гэтыя лішкі людзей перакінуць у другія краіны, а за кошт, такім чынам, вызваленых зямель павялічыць хутары кулакоў.

Далей у артыкуле ідзе 8 старонак разважаньняў наконт характару сельскай гаспадаркі БССР. Каб зразумець, чаго варты гэтыя разважаньні і што прадстаўляюць з сябе аўтары, варта толькі прыпомніць, што разважаньні іх цалкам грунтуюцца на прышэпаўскім пляне разьвіцьця сельскай гаспадаркі, а праўдзівей сказаць на пляне хутарызацыі, якую так упарта праводзіў Прышчэпаў. Гэтыя разважаньні ня толькі грунтуюцца на прышчэпаўскім пляне, але і самі ўгрунтоўваюць гэты плян.

На старонцы 8-й яны нават дагаварваюцца да колектывізацыі сельскай гаспадаркі, адзначаюць, што колектывізацыя павінна ісьці больш „шырока" і нават паказваюць шляхі, па якіх яна павінна ісьці „шырока". Выходзіць, што такім шляхам зьяўляецца коопэрацыя. Праз капіталістычную коопэрацыю (а што гутарка ідзе выключна пра капіталістычную коопэрацыю—мы ўбачым ніжэй) проста ў соцыялізм. Разьвівай і ўзмацняй капіталістычныя коопэратывы, а рэшта ўсё будзе ў парадку. Адным словам без барацьбы, без хваляваньня, нечакана для сябе ўрасьцеш у соцыялізм. Тэорыя зусім ня новая і ўсім вядомая. Уся тая надзвычай жорсткая барацьба, якая адбываецца на вёсцы навокала соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, кулацкі тэрор—падпалы калгасаў, забойства актыўных колгасьнікаў і інш., для аўтараў артыкулу ня існуе. Яны ня хочуць яе бачыць. Сваёю балталогіяй аб колектывізацыі праз коопэрацыю яны нібы робяць шырму, пад прыкрыцьцём якое працягваюць свае контр-рэволюцыйныя пляны і імкненьні.

На падставе ўсіх сваіх папярэдніх разважаньняў аўтары прыходзяць да вываду, што практычныя задачы с.-г. коопэрацыі павінны зводзіцца да „Організацыі колектыўных форм гаспадараньня". Усё як быццам добра. Зразумела яно і было-б добра, каб аўтары сапраўды думалі аб разьвіцьці колектыўных форм, каб яны хацелі дапамагчы гэтаму разьвіцьцю і каб у іх ня было задняй думкі наконт капіталістычнай рэстаўрацыі.

У другім пункце ўжо гаворыцца пра папаўненьне асноўных капіталаў і разьвіцьці сыстэмы крэдытаваньня наогул у сельскай гаспадарцы (чытай кулака *Р. Р.*). У трэцім сказана яшчэ ясьней „Снабжэньне насельніцтва с.-г. арудзіямі, машынамі, насеньнем"... і нарэшце „прыладамі для абсталяваньня прадпрыемстваў" і г. д. Каму-небудзь можа прыйсьці ў голаву недарэчная думка, што даныя пункты падпарадкаваны першаму, як асноўнаму, а дзеля таго ад аўтараў мо' і ня трэба вымагаць выразных формулёвак. Няўпэўненасьць такога чытача адразу разьясьняецца, калі ён крыху ніжэй прачытае наступнае „откровение": „Колгасы ў далейшы час будуць організоўвацца за кошт непадзельнай сялянскай зямлі і асушваных мэліорацыйных фондаў. Кропка. Цяпер усё ясна. Сярод „сялян" (тут табе і кулак і бядняк і серадняк—усе разам) разьвівай коопэрацыю, а для колгасаў асушай балоты. Думка ня зусім новая. Літаральна яна так сформулявана і ў прышчэпаўскім пяцігадовым пляне.

Пасьля ўсяго гэтага паўстае пытаньне: „Навошта-ж гэта аўтарам патрэбна было гарод гарадзіць з колектыўнымі формамі? Адказ

на гэта запытаньне ўжо даны вышэй. Усе гэтыя размовы—толькі шырма.

Далей ідзе апісаньне 10 спэцыялізаваных таварыстваў і 4 саюзаў. Спыняцца на кожным з іх мы лічым непатрэбным. Усе яны маюць адну і тую-ж установку—дапамагаць капіталістычнай рэстаўрацыі. Угрунтаваньне кожнага з відаў сельска-гаспадарчай коопэрацыі яны і пачынаюць з высьвятленьня таго, наколькі ён зможа ўзмацніць „селяніна“ (у іх, як правіла, клясавага расслаеньня на вёсцы няма) і наколькі сваімі гандлёвымі опэрацыямі можа ўтрымаць коопэрацыйны апарат. Іншых мэт іхныя таварыствы ня ставяць.

Цяпер некалькі заўваг адносна некаторых таварыстваў. Пры разборы і ўгрунтаваньні існаваньня с./г. крэдытовых таварыстваў яны прышлі да вываду, што гэтыя таварыствы ня спрыяюць колектывізацыі, надаварот — узмацняюць „індывідуялістычныя і ўласныя імкненьні гспадараньня“. Лёгічны вывад з такого разважаньня павінен быў-бы зводзіцца да таго, каб угрунтаваць канечную патрэбу спыненьня іх дзейнасьці. Аднак, аўтары сталі на другі шлях. Лёгіка не для іх. Ім патрэбна давесьці патрэбу існаваньня гэтых таварыстваў. Ніжэй яны і пішуць: „Але пакуль існуюць паасобныя сялянскія гаспадаркі, пакуль нашай задачаю застаецца ўзмацненьне ўсёй гаспадаркі, да таго тэрміну павінны будуць існаваць і с./г. крэдытовыя таварыствы“. Калі-ж гэты час надыйдзе? Калі-ж гэта перастануць існаваць „паасобныя сялянскія гаспадаркі“? Адказ аўтарамі ўжо даны вышэй. Гэты час тады надыйдзе, калі ўсе „паасобныя гаспадаркі“ праз капіталістычную коопэрацыю проста ўрастуць у соцыялізм. А пакуль што, будуй хутары, узмацняй кулацкія гаспадаркі, організоўвай для іх с./г. крэдытовыя таварыствы. Вось лёгіка контр-рэволюцыянэраў.

Ня менш цікавая ўстаноўка даецца і пры організацыі малочна-жывёлаводчых таварыстваў: „колгасы і саўгасы збыт і перааапрацоўку свайго малака павінны праводзіць праз малочна-жывёлаводчыя таварыствы, удзельнічаючы ў іх у якасьці пайнікаў“. Проста і ясна. Колгас і саўгас ставіцца на адну дошку з кулаком. Як пайнікі аднаго таварыства, яны маюць і аднолькавыя правы, а паколькі таварыства дае напрамак у разьвіцьці жывёлагадоўлі, дык сапраўды выйдзе тое, што колгасамі і саўгасамі будуць кіраваць ні хто іншыя, як кулакі, бо іх будзе большасьць у раёне. Вось куды гнуць аўтары і вось чаго ім трэба дабіцца, прыкрываючыся размовамі аб колектывізацыі.

Літаральна такая-ж устаноўка даецца і пры організацыі садова-гародных таварыстваў.

Асабліва пахабныя ўстаноўкі даюцца пры організацыі насенна-водчых таварыстваў. Тут мы чытаем наступныя контр-рэволюцыйныя пэрлі: „Пярвічнае насеннаводнае т-ва павінна будзе організоўвацца ў складзе аднэй-двух-трох вёсак, але з абавязковым увaходам у склад таварыства *ўсіх* (падкрэсьлена намі *Р. Р.)* гаспадароў гэтых вёсак“. У другім месцы гэтае пытаньне ставіцца больш рашуча. „Раён дзейнасьці т-ва павінен быць спачатку вёска, пасёлак ці *рад заможных паасобных гаспадарак* (падкрэсьлена намі *Р. Р.)*. Так вось праз якую коопэрацыю контр-рэволюцыянэры, кіраўнікі катэдры коопэрацыі і колектывізацыі, хацелі папасьці ў соцыялізм. Можна сабе ўявіць якім душком аддаваў-бы гэты соцыялізм, прыпраўлены кулацкімі коопэратывамі.

Адным з асноўных мотываў за ўтварэньне спэцыяльных саюзаў аўтары падаюць наступнае: „1—Рознароднасьць вытворчых інтарэсаў і нужд розных груп коопэруемага насельніцтва...“ Зусім ясна і не-

двусэнсоўна сказана. Інтарэсы кулака ня могуць быць аднолькавымі з інтарэсамі бедняка, а дзеля таго—організоўвай для кулакоў спэцыяльны коопэратыў.

Аўтары ў надзвычайным захапленьні ад вузка спэцыялізаваных саюзаў таму, што яны (саюзы) пры вузкай спэцыялізацыі... „будуць мець мажлівасьць организацыйна і тэхнічна організаваць і спэцыялізаваць сваю нізавую сетку, паглыбіць сваю гаспадарчую працу, даць нагрузку сваім членам і ўдалейшым, пры пашырэньні звароту, зьнізіць свае выдаткі і зрабіцца ўпаўне моцнай і здольна-конкурэнтнай організацыяй“. Тут усё. Тлумачэньні залішнія. „Здольна-конкурэнтныя організацыі“, а ня колгасы патрэбны гэтым зубрам контр-рэволюцыі.

Вось толькі частка контр-рэволюцыйных пэрляў больш паказальных, якія характарызуюць контр-рэволюцыйную шкодніцкую работу нацдэмаў у катэдры коопэрацыі і колектывізацыі. Але паданага тут зусім досыць для поўнай характарыстыкі нацдэмаў, як шкоднікаў, рэстаўратараў і яўных контр-рэволюцыянэраў.

---

В. Самцэвіч.

# Як арганізаваць краязнаўчую працу на фабрыцы і заводзе.

## 1. Соцыялістычнае будаўніцтва і краязнаўства.

Ва ўсім Савецкім Саюзе надзвычайна шпаркімі тэмпамі ідзе соцыялістычнае будаўніцтва. Рабочыя, колгасьнікі, батракі, беднякі і сераднякі вёскі з вялікім творчым уздымам, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, будуюць магутныя электрастанцыі, волаты-заводы і фабрыкі, гіганты саўгасы і колгасы. Наша савецкая краіна з аграрна-індустрыяльнай краіны ператвараецца ў індустрыяльна-колгасную. Па ўсім фронце ў нас пасьпяхова вядзецца соцыялістычнае наступленьне на капіталістычныя элемэнты. На аснове суцэльнай колектывізацыі ліквідуецца кулацтва як кляса, — гэта апошняя апора сусьветнага капіталізму ў нашай краіне.

Наша соцыялістычная гаспадарка будуецца па пляну. Кожная фабрыка, кожны завод, саўгас, колгас, кожны раён, рэспубліка і ўвесь Савецкі Саюз маюць цесна ўвязаныя паміж сабой ня толькі гадавыя, але і пэрспэкцыйныя пляны. А для таго, каб скласьці добры плян якога-небудзь прадпрыемства, трэба добра ведаць яго жыцьцё і працу: яго вытворча-тэхнічныя магчымасьці, работу машын, організацыю працы, забясьпечаньне сыравінай, раёны збыту; трэба ведаць, які уплыў аказваюць бесьперапынка і сямігадзінны працоўны дзень на вытворчасьць (павялічэньне выпуску продукцыі, павялічэньне вытворчасьці працы, уцягненьне ў працу новых рабочых), у чым заключаецца соцыяльна-культурнае значэньне гэтых мерапрыемстваў, як яны ўплываюць на быт рабочых і г. д. Але мала ведаць толькі сваё прадпрыемства, трэба вывучаць і іншыя прадпрыемствы, каб іх вопыт і посьпехі перанесьці на сваю фабрыку (завод). Шырокі абмен соцыялістычным вопытам у розных галінах гаспадаркі — адзін з спосабаў садзейнічаньня павялічэньню тэмпаў нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Кожнае з нашых прадпрыемстваў зьяўляецца толькі асобнай соцыяльна-гаспадарчай ячэйкай у агульнай сыстэме соцыялістычнае народнае гаспадаркі, дзе нязьлічнымі ніцямі зьвязаны паміж сабой паасобныя соцыяльна-гаспадарчыя і культурныя адзінкі, дзе соцыялістычным плянам цьвёрда вызначана месца і роля кожнага прадпрыемства, кожнае ўстановы. Разьвіцьцё кожнага прадпрыемства ў значнай меры залежыць ад прыродных багацьцяў таго раёну, дзе прадпрыемства знаходзіцца (залежы руды, вугалю, торфу наяўнасьць сыравіны) і ў сваю чаргу робіць уплыў на стварэньне сыравіннай базы ў раёне сваёй дзейнасьці (цукровыя, крухмальныя заводы і інш.).

Пабудова фабрыкі ці заводу ў тым або іншым раёне аказвае вялікі ўплыў на жыцьцё наўкольнага насельніцтва, на яго культуру, быт, заняткі, тэхніку гаспадаркі і інш. Выходзіць, што нам трэба ўсебакова вывучаць ня толькі сваё прадпрыемства, але таксама і той экономічны раён, дзе фабрыка ці завод знаходзіцца. І ня толькі трэба вывучаць раён, але і ведаць месца свайго заводу (фабрыкі) ў саюзнай і нават сусьветнай гаспадарцы. Кожны рабочы на прадпрыемстве павінен добра ведаць, якую ролю адыгрывае данае прадпрыемства ў змаганьні за соцыялістычны лад ва ўсім сьвеце.

*Пляйавае, сыстэматычнае і ўсебаковае вывучэньне свайго раёну організаванымі сіламі працоўных мас патрэбна для больш пасьпяховага соцыялістычнага будаўніцтва,* для таго, каб рабочыя, колгасьнікі і бядняцка-серадняцкія сялянскія масы маглі ўпэўнена, на падставе навуковых даных будаваць фабрыкі, заводы, саўгасы і колгасы, больш пасьпяхова разгортваць культурнае будаўніцтва, праводзіць ліквідацыю няпісьменнасьці, будаваць школы, бібліотэкі, змагацца з рэлігіяй і г. д. *Вось такое плянамернае, ўсебаковае і навукова-організаванае вывучэньне свайго краю самімі рабочымі, колгасьнікамі і бядняцка-серадняцкімі масамі ў мэтах соцыялістычнай перабудовы краю і зьяўляецца савецкім краязнаўствам.*

## 2. Чаму наша краязнаўства называецца савецкім.

Краязнаўства ў нашай краіне існавала і раней, да Кастрычнікаўскай рэволюцыі. Але паміж нашым сучасным савецкім краязнаўствам і краязнаўствам дарэволюцыйных часоў маецца надзвычайна *вялікая розьніца.* У дарэволюцыйныя часы краязнаўствам займаліся паасобныя „аматары“ краязнаўства, буржуазныя вучоныя, паасобныя інтэлігенты. Вывучалася пераважна ўсё старое, мінулае, „цікавае“ і прыгожае, паколькі гэта цікавіла сытыя паразытычныя эксплёатуючыя працоўнае насельніцтва клясы. Вывучаліся старыя магнацкія гэрбы, могілкі, гарадзішчы, апісваліся ваенныя падзеі мінулых часоў, цэрквы, манастыры і г. д. Але разам з гэтым найбольш „перадавая“ частка буржуазіі і земляўласьнікаў, кроўна зацікаўленых у павялічэньні сваіх прыбыткаў і адшуканьні новых, больш „культурных“ спосабаў эксплёатацыі працоўных мас, займаецца і пытаньнямі павялічэньня вытворчасьці ў панскіх маёнтках і на фабрыках прамыслоўцаў. Земляўласьнікі (пераважна дробныя) у перадрэволюцыйныя гады заснавалі на Беларусі, напрыклад, цэлы шэраг спэцыяльных гурткоў і таварыстваў, якія ставілі мэтай вывучэньне ўмоў паляпшэньня сваіх гаспадарак, павялічэньня іх таварнасьці. Пры гэтым, бязумоўна, улічваліся і вывучаліся мясцовыя ўмовы. Гэтыя гурткі і таварыствы, краязнаўчыя па свайму характару, былі, бязумоўна, буржуазна-клясавымі па сваёй сутнасьці, організаванымі ў інтарэсах земляўласьнікаў.

У буржуазных краінах Заходняй Эўропы і Амэрыцы краязнаўства знаходзіцца *на службе ў эксплёатуючых клясаў.* У Германіі, Польшчы, Італіі і інш. краязнаўства мае выразна нацыяналістычны і шовіністычны характар,—яно ў гэтых краінах у значнай меры фашызавана. Краязнаўства ў гэтых фашыстоўска-буржуазных дзяржавах вельмі многа ўвагі аддае вывучэньню буржуазнай нацыянальнай культуры мінулага, старажытнага. У Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатах краязнаўства мае пераважна практычны напрамак, асабліва ў галіне сельскай гаспадаркі. Там, напр., організавана цэлая сетка сельскагаспадарчых фэрмэрскіх клюбаў моладзі, мэтай якіх зьяўляецца

„садзейнічаньне пашырэньню сярод іх членаў карысных ведаў, спрыяючых паляпшэньню ўмоў жыцьця і працы на фэрмах". Практыцызм краязнаўчых організацый у Амэрыцы, як і ў іншых буржуазных дзяржавах, выцякае з запатрабаваньняў капіталістычных прадпрыемцаў і земляўласьнікаў знайсьці сродкі і спосабы для разьвіцьця сваіх гаспадарак, выходзячы з мясцовых умоў, і павялічэньня іх таварнасьці, што зьвязана з *павялічэньнем эксплёатацыі* працоўнага насельніцтва, з разбурэньнем дробных індывідуальных гаспадарак.

Савецкае краязнаўства карэнным чынам адрозьніваецца ад краязнаўства ў буржуазных дзяржавах. У нас, у *СССР*, *краязнаўства падпарадкавана задачам дыктатуры пролетарыяту, задачам узмацненьня абароназдольнасьці нашай савецкай краіны, задачам пасьпяховага правядзеньня социялістычнай рэконструкцыі нашай народнай гаспадаркі*, пераможнаму пабудаваньню социялістычнага грамадзтва. Савецкае краязнаўства ставіць сваёй задачай *актыўна дапамагаць ажыцьцяўленьню генэральнай лініі партыі* ў пабудове социялізму. Яно павінна вырашаць баявыя гаспадарча-палітычныя задачы сёньнешняга дня.

Буржуазнае краязнаўства мае замкнуты характар. Шырокія працоўныя масы ў краязнаўчай працы ўдзелу ня прымаюць ды і ня могуць прымаць, паколькі задачы краязнаўства ў буржуазных дзяржавах не адпавядаюць інтарэсам працоўных мас, зьяўляюцца чужымі для рабочых і працоўнага сялянства. У нас, у СССР, краязнаўства зьяўляецца *масавым* грамадзкім рухам. У краязнаўчую працу ў нас уцягваюцца дзесяткі і сотні тысяч працоўных мас, непасрэдных будаўнікоў социялізму, бо савецкае краязнаўства зьяўляецца кроўнай справай саміх працоўных.

Краязнаўства ў буржуазных краінах носіць бясплянавы, бяссыстэмны характар, паколькі пры капіталістычным ладзе наогул ня можа быць плянавасьці як у вядзеньні гаспадаркі, так і ў навукова-дасьледчай працы, а тым больш у масавай дасьледчай працы. Савецкае-ж краязнаўства мае жыцьцёвую організацыйную структуру, якая забясьпечвае ўдзел ў краязнаўчай працы самых шырокіх працоўных мас, і пэўную плянавасьць у працы. Наша краязнаўчая праца цесна ўвязваецца з усёй нашай працай па рэконструкцыі гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, і таму яна павінна характарызавацца той-жа *плянавасьцю*, якою характарызуецца і ўсё наша социялістычнае будаўніцтва. Апрача ўсяго сказанага вышэй, у нашай краязнаўчай працы ўсё большае і большае месца набывае *колектывізм* у працы, распрацоўка паасобных проблем, тэм і заданьняў колектывамі, групамі, брыгадамі, што, зразумела, зусім не ўласьціва для буржуазнага краязнаўства.

### 3. Краязнаўства — сродак класавай барацьбы ў БССР.

Будаўніцтва социялізму ў нашай краіне адбываецца ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы. Супроць пасьпяховага разгорнутага социялістычнага наступленьня па ўсяму фронту актыўна змагаюцца нэпманскія элёмэнты ў горадзе, кулацтва на вёсцы, буржуазная інтэлігенцыя і ўсе контр-рэволюцыйныя сілы,—агенты замежных інтэрвэнтаў. Контр-рэволюцыйныя беларускія нацыянал-дэмократы, гэтыя лёкаі сусьветнага капіталізму (і агенты польскага фашызму перш за ўсё) вялі актыўную падрыўную работу супроць дыктатуры пролетарыяту, супроць савецкай улады; яны ставілі сваёй мэтай рэстаўрацыю (аднаў-

леньне) капіталізму ў нашай савецкай краіне праз крывавую інтэрвэнцыю і ў гэтых сваіх контр-рэволюцыйных мэтах шырока выкарыстоўвалі і краязнаўства. Краязнаўства ў БССР да апошняга году было падпарадкавана не задачам дыктатуры пролетарыяту, не задачам змаганьня за генэральную лінію партыі і не задачам пабудовы соцыялістычнага грамадзтва, а выкарыстоўвалася ў мэтах, варожых для пролетарыяту, у мэтах зрыву соцыялістычнага будаўніцтва і ліквідацыі савецкага ладу. Лідэры нацдэмаў, арганізаваўшы штаб для сваёй контр-рэволюцыйнай дзейнасьці ў Беларускай Акадэміі Навук, праз былое опортуністычнае кіраўніцтва Цэнтральнага Бюро Краязнаўства фактычна кіравалі і давалі напрамак усёй краязнаўчай працы ў БССР. У сваіх інструкцыях, програмах, мэтодычных артыкулах, у вуснай і пісьмовай консультацыі нацдэмы заўсёды давалі нізавым краязнаўчым арганізацыям пэўныя, часамі старанна завуаляваныя і прыбраныя ў савецкую вопратку, нацыянал-дэмократычныя ўстаноўкі. Краязнаўчая праца лічылася пераважна справай інтэлігенцыі якая, паводле думкі нацдэмаў, павінна была кіраваць усёй культурнай працай і весьці за сабой усё працоўнае насельніцтва. Рабочыя, колгасьнікі, батракі і бядняцка-серадняцкія масы ў краязнаўчыя арганізацыі зусім ня ўцягваліся. Краязнаўчых гурткоў на фабрыках, заводах, у колгасах і саўгасах ня было. Краязнаўчыя арганізацыі ня былі зьвязаны з партыйнымі, профсаюзнымі, савецкімі і гаспадарчымі арганізацыямі і ўстановамі. І зусім зразумела, чаму гэта так было: пры такой ізоляванасьці і „аўтономіі" краязнаўчых арганізацый нацдэмам лягчэй было аказваць на іх свой уплыў.

Праз краязнаўства нацдэмы праводзілі сваю шкодную тэорыю аб „самабытнасьці" беларускай нацыі і культуры, аб асаблівых шляхох разьвіцьця „адзінага" беларускага народу, што вяло да вузкай нацыянальнай абмежаванасьці, да адрыву беларускіх працоўных мас ад працоўных мас усяго Савецкага Саюзу. Беларускія нацыянал-дэмократы ідэалізавалі культуру фэўдальнага і буржуазнага мінулага, пэрыод так званай „залатой пары" (16-17 стагодзьдзі) і ўсімі сіламі імкнуліся да таго, каб культурнае будаўніцтва БССР накіраваць па шляху стварэньня буржуазнай культуры па сваім зьмесьце і нацыянальнай па форме. Нацыянал-дэмократы самі, а пад іх уплывам, па іх заданьнях і пад іх ідэёвым кіраўніцтвам і мясцовыя краязнаўчыя арганізацыі займаліся адшуканьнем і вывучэньнем старадаўняга, мінулага, розных перажыткаў і г. д., ідэалізуючы гэта фэўдальнае і буржуазнае мінулае. Пытаньні-ж сучаснасьці, пытаньні соцыялістычнага будаўніцтва зусім абміналіся. У краязнаўчых працах мінулага пэрыоду беларуская нацыя разглядалася, як адзіная бясклясавая нацыя. У краязнаўчых працах, як і ва ўсіх нацдэмаўскіх творах, нідзе няма клясавага падзелу беларускага народу. Клясавая барацьба, якая асабліва ўзмацнілася ў пэрыод разгорнутага соцыялістычнага наступленьня па ўсяму фронту, у пэрыод соцыялістычнай рэконструкцыі народнае гаспадаркі, зусім абміналася, замоўчвалася або падавалася ў няправільным нацдэмаўскім асьвятленьні. Клясавая барацьба ў нацдэмаўскіх краязнаўчых творах разглядалася як барацьба розных нацый.

Краязнаўства зьяўлялася сродкам клясавай барацьбы контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму таксама і ў гаспадарчым будаўніцтве БССР. Праз краязнаўства нацдэмы ўсімі сіламі змагаліся супроць соцыялістычнай перабудовы народнае гаспадаркі і імкнуліся накіраваць разьвіцьцё нашае гаспадаркі па капіталістычнаму шляху,

па шляху насаджэньня „прышчэпаўскіх“ хутароў і дробных пасёлкаў, а не па шляху організацыі саўгасаў і колгасаў. У краязнаўчых выданьнях апісваліся кулацкія гаспадаркі (напр., гаспадарка „Фатынь“ Язэпа Мароза і інш.) як прыкладныя, узорныя гаспадаркі. Дасягненьні-ж савецкіх і колектыўных гаспадарак замоўчваліся або нават паказваліся з адмоўнага боку.

Наогул *краязнаўства ў БССР у мінулы пэрыод зьяўлялася зброяй клясавых ворагаў пролетарыяту—нацыянал-дэмократаў;* яно не дапамагала пролетарыяту і яго партыі будаваць соцыялізм, а перашкаджала гэтаму будаўніцтву, было ў значнай меры варожым для пролетарыяту.

## Бліжэйшыя задачы савецкага краязнаўства.

Першачарговай задачай усіх краязнаўчых організацый і ўсёй савецкай грамадзкасьці ў галіне краязнаўства зьяўляецца рашучае *выкрыцьцё і барацьба з усёй шкодніцкай контр-рэволюцыйнай дзейнасьцю беларускіх нацдэмаў у краязнаўстве,* а таксама выкрыцьцё і *рашучае змаганьне з усякімі праявамі вялікарасійскага шовінізму,* як галоўнай небясьпекай у даны пэрыод, і *мясцовых шовінізмаў:* яўрэйскага, польскага і інш. шовінізмаў. Трэба ачысьціць усе краязнаўчыя організацыі ад варожых пролетарыяту элемэнтаў, ад усіх тых, хто ідзе супроць генэральнай лініі партыі ў соцыялістычным будаўніцтве. У краязнаўчых організацыях трэба неадкладна *ўзмацніць пролетарскае і партыйнае кіраўніцтва.* Праз організацыю краязнаўчых гурткоў на фабрыках і заводах, у колгасах і саўгасах трэба зрабіць краязнаўства сапраўды справай шырокіх працоўных мас, якія з вялікім творчым энтузыязмам, энэргіяй і настойлівасьцю будуюць соцыялізм пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі. *Краязнаўства ёсьць усебаковае вывучэньне краю ў мэтах яго соцыялістычнай перабудовы,* і таму мы павінны вывучаць: а) усе вытворчыя сілы краю, якія абумоўліваюць разьвіцьцё вытворчасьці; б) самую вытворчасьць; в) культуру і быт працоўных мас, як надбудову над вытворчымі ўзаемаадносінамі гэтых мас.

Краязнаўчыя організацыі для пасьпяховага соцыялістычнага будаўніцтва павінны заняцца вывучэньнем усіх *прыродных багацьцяў краю,* запасаў розных відаў мінэральнай сыравіны, вывучэньнем *прыродна-географічных умоў краю* (клімату, глебы, расьліннасьці і г. д.), *сродкаў вытворчасьці* і сілы чалавека, як галоўнай вытворчай сілы. Пры гэтым трэба асабліва падкрэсьліць, што вывучаць чалавека патрэбна ў шырокім соцыяльным значэньні гэтага слова, у яго організаваных колектыўных формах працы. Краязнаўчае вывучэньне вытворчых сіл, аднак, не павінна зводзіцца толькі да констатаваньня тых ці іншых вытворчых сіл, да іх статыстычнага апісаньня,—вытворчыя сілы павінны вывучацца ў іх *узаемадзеяньні,* у іх *разьвіцьці,* у матчымасьці іх *далейшага выкарыстаньня* пры разьвіцьці і шпаркіх тэмпах нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Пры вывучэньні вытворчасьці краязнаўчыя організацыі асаблівую ўвагу павінны зьвярнуць на дэталёвае вывучэньне *пераходу* організацыі вытворчасьці ў *соцыялістычныя* формы пры дыктатуры пролетарыяту, на вывучэньне перарастаньня першапачатковых форм соцыялістычнай вытворчасьці ў вышэйшыя, пры гэтым трэба вывучаць найбольш *спрыяючыя ўмовы* гэтага пераходу і перарастаньня, перашкоды, якія сустракаюцца на шляху плянавага пераводу першапачатковых форм організацыі вытворчасьці ў вышэйшыя і г. д.

У сувязі і ў залежнасьці ад карэннай перабудовы ўсей нашай гаспадаркі на новых социялістычных пачатках, у залежнасьці ад новых вытворчых узаемаадносін у социялістычнай вытворчасьці адбываюцца адпаведныя вялізарныя зьмены і ў быце. Пагэтаму неабходна ня толькі констатаваць, адзначаць нараджэньне новых соцыялістычных элемэнтаў быту, але трэба абавязкова вывучаць гэтыя элемэнты і тыя *ўмовы, якія дапамагаюць, паскараюць процэс перабудовы старога быту ў новы соцыялістычны.* Трэба вывучаць вынікі правядзеньня розных мерапрыемстваў партыі і савецкай улады па стварэньню новых форм быту ў мэтах паглыбленьня і пашырэньня гэтага ўзьдзейнічаньня на перабудову быту.

Вось круг пытаньняў, якія зараз, у пэрыод соцыялістычнай рэконструкцыі ўсяе народнае гаспадаркі, маюць самае актуальнае і практычнае значэньне. Пытаньні, што ня маюць непасрэднага значэньня для соцыялістычнага будаўніцтва, не павінны ўваходзіць у круг дасьледчае працы краязнаўчых організацый у даны пэрыод. Нам трэба ўсімі сіламі і сродкамі паскорыць заканчэньне пабудовы фундамэнту соцыялізму і прыняцца за справу канчатковай пабудовы соцыялізму, комунізму. Пытаньні далёкія, ня зьвязаныя непасрэдна з гэтай адзіна неабходнай і практычнай задачай, павінны быць адсунуты на другі плян у краязнаўчай працы.

Соцыялістычнае будаўніцтва ў нашай краіне адбываецца ва ўмовах абвостранай і жорсткай клясавай барацьбы ў выглядзе шкодніцтва, забойства з-за вугла савецкіх, партыйных і грамадзкіх працаўнікоў, падпалу колгасаў і прадпрыемстваў, у выглядзе змаганьня на ідэолёгічным фронце і актыўнага ўдзелу ў падрыхтоўцы крывавай інтэрвэнцыі супроць савецкай краіны ў мэтах зьнішчэньня дыктатуры пролетарыяту і аднаўленьня капіталістычнага ладу. Вось чаму вывучэньне розных пытаньняў нашага соцыялістычнага будаўніцтва мы абавязкова павінны праводзіць у сувязі з вывучэньнем *клясавай барацьбы*, форм і мэтодаў гэтай барацьбы. Трэба добра ведаць зброю і мэтоды ворага, каб канчаткова паразіць яго.

## Хто павінен займацца краязнаўствам.

Кожны краявед павінен быць адначасова і будаўнікам соцыялістычнае гаспадаркі і культуры. Ніякага адрыву краяведаў ад непасрэднага ўдзелу ў соцыялістычнай стройцы не павінна быць. Краявед не павінен стаяць убоку, ня прымаючы ўдзелу ў выкананьні вялікіх плянаў соцыялістычнага будаўніцтва, прыкрываючыся маскай толькі „садзейнічаньня“ гэтаму будаўніцтву. *Месца кожнага краяведа ў радох будаўнікоў соцыялізму.* Краязнаўчыя кадры павінны комлектавацца з рабочых, колгасьнікаў, батракоў, беднякоў і серараднякоў вёскі, агрономаў, настаўнікаў, дактароў і інш., з тых мільёнаў працоўных мас, якія будуюць соцыялізм, і з той працоўнай інтэлігенцыі, якая шчыра і аддана працуе над пабудовай соцыялістычнай гаспадаркі і культуры.

*Краязнаўства зьяўляецца сродкам узбраеньня працоўных мас новай магутнай прыладай вытворчасьці — навукай.* Краязнаўства дапамагае працоўным масам больш пасьпяхова, больш хуткімі тэмпамі будаваць соцыялізм, і таму кожны рабочы, колгасьнік, батрак, бядняк і серадняк вёскі павінен авалодаць новым мэтодам будаўніцтва соцыялізму — савецкім краязнаўствам.

Рабочыя і колгасьнікі, батракі, беднякі і серадзякі вёскі, партыйныя, савецкія і грамадзкія працаўнікі, доўгі час працуючы ў сваёй

галіне, у розных організацыях, бязумоўна, маюць вялікі вопыт і вялікія веды аб жыцьці і працы розных социяльных груп насельніцтва свайго заводу, свайго колгасу, вёскі, гораду, раёну. Старыя рабочыя на фабрыцы ці заводзе добра ведаюць гісторыю свайго прадпрыемства, умовы працы і жыцьця ў старыя дарэволюцыйныя часы, у часы окупацыі, у пэрыод аднаўленьня і рэконструкцыі прамысловасьці. Рабочыя розных прадпрыемстваў маюць багацейшы вопыт у правядзеньні рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў, у організацыі выкананьня промфінпляну і г. д. Увесь гэты вопыт і веды, калі-б іх сабраць і сыстэматызаваць, былі-б вельмі каштоўным матар'ялам ня толькі для вывучэньня гісторыі нашых прамысловых прадпрыемстваў, але і для непасрэднага соцыялістычнага будаўніцтва. Вывучыць усю грандыёзную стройку нашай соцыялістычнай прамысловасьці ў розных прамысловых раёнах, дасьледваць разгортваньне соцыялістычных мэтодаў працы, выявіць, як рабочая кляса пад кіраўніцтвам сваёй ленінскай партыі перамагла цяжкасьці і розныя перашкоды, дабіваючыся высокіх паказчыкаў вытворчасьці працы, назапасіць вопыт соцыялістычнага будаўніцтва, каб перадаць яго усяму сьвету—задача вельмі адказная і неабходная. Гэту вялікую задачу могуць выканаць толькі самі працоўныя масы, якія зьяўляюцца непасрэднымі будаўнікамі соцыялізму.

Але для таго, каб лепш паставіць краязнаўчую працу і каб яна дала пажаданыя вынікі, кожнаму рабочаму, колгасьніку, батраку, бедняку і серадняку неабходна мець некаторую падрыхтоўку ў краязнаучай працы, трэба мець пэўныя навыкі ў організацыі і пастаноўцы дасьледчае працы, у апрацоўцы матар'ялаў сваіх досьледаў і інш. Гэту падрыхтоўку можна атрымаць, працуючы ў гуртку, пад кіраўніцтвам і пры дапамозе больш вопытных таварышоў, а таксама і праз адпаведную літаратуру. Аднак, трэба помніць, што для аўладаньня мэтодамі краязнаўчай працы патрэбен актыўны ўдзел краяведа ў соцыялістычным будаўніцтве і практычная праца ў краязнаўстве, непарыўна зьвязанага з сучаснымі практычнымі задачамі соцыялістычнага будаўніцтва. Савецкае краязнаўства павінна прыняць характар масавага краязнаўчага руху, у якім працоўныя масы ўсіх нацыянальнасьцяй павінны прыняць самы актыўны ўдзел.

**Як організаваць краязнаўчую працу на фабрыцы і заводзе.**

Для організацыі краязнаўчае працы на фабрыцы ці заводзе перш за ўсё трэба шырока *популярызаваць* сярод рабочых задачы савецкага краязнаўства, высьветліць яго практычнае значэньне для соцыялістычнага будаўніцтва наогул і асабліва для разьвіцьця нашай прамысловасьці. У мэтах популярызацыі краязнаўчай працы сярод рабочых пажадана не абмяжоўвацца агульнымі тлумачэньнямі ці дакладамі, а лепш зрабіць які-небудзь даклад на краязнаўчую і блізкую для рабочых тэму (аб гісторыі данага прадпрыемства, аб рэволюцыйным руху рабочых на прадпрыемстве, аб разгортваньні соцспаборніцтва і ўдарніцтва на фабрыцы ці заводзе і інш.), наладзіць краязнаўчую выстаўку, вывесіць у чырвоным кутку адпавядаючыя лёзунгі, плякаты, дыяграмы і інш. Працу трэба праводзіць па цэхах і пазьменна, у залежнасьці ад мясцовых умоў у поўнай дагаворанасьці з адміністрацыяй, партыйным і профсаюзным кіраўніцтвам. Пры організацыі краязнаўчага гуртка на прадпрыемстве ў першую чаргу неабходна абаперціся на фабрычна-завадзкую ячэйку інжынэрна-тэхнічнага складу, на культасьветных працаўнікоў прадпрыемства і на актыўных

працаўнікоў вытворчых брыгад, рабкораў і інш. Усю організацыйную працу лепш праводзіць праз культсэктар фабзаўкому пры самым актыўным удзеле мясцовай краязнаўчай організацыі (гарадзкога, раённага бюро краязнаўства і інш.).

Калі ўся падрыхтоўча-популярызацыйная праца сярод рабочых будзе праведзена і будзе выяўлена зацікаўленасьць краязнаўчай працай, неабходна прыступіць да організацыі *краязнаўчага гуртка*. Для гэтага трэба правесьці організацыйны сход, абраць праўленьне гуртка (паводле палажэньня аб краязнаўчых гуртках), вызначыць і зацьвердзіць *плян* працы, прычым на першых парах плян гэты павінен быць невялікім, простым; тэмы для працы гуртка трэба браць найбольш блізкія для рабочых, актуальныя, напр.: „Быт рабочых нашага заводу (фабрыкі)“; „Соцспаборніцтва і ўдарніцтва на нашай фабрыцы (заводзе)“ і г. д. Можна ўзяць і некалькі тэм для адначасовай распрацоўкі, прычым паасобныя тэмы могуць распрацоўвацца асобнымі *брыгадамі*, на якія можа падзяляцца гурток, які ставіць сваёй задачай усебаковае вывучэньне свайго прадпрыемства. Праўленьне краязнаўчага гуртка на фабрыцы (заводзе) павінна паставіць сваёй задачай і імкнуцца да ўцягненьня ў краязнаўчую працу магчыма большага ліку рабочых і ў першую чаргу ўдарнікаў, рабкораў, працаўнікоў вытворчага і культурнага сэктароў, вынаходцаў, інжынэрна-тэхнічны склад. Пасьля організацыі гуртка на прадпрыемстве неабходна неадкладна-ж наладзіць самую цесную *сувязь* з гарадзкім ці раённым бюро краязнаўства, мясцовым краязнаўчым музэем і з усімі організацыямі свайго прадпрыемства.

## Што вывучаць у краязнаўчым гуртку на прадпрыемстве[1]).

У гэтым разьдзеле мы падаем пералік тэм, вывучэньнем і распрацоўкай якіх можа заняцца краязнаўчы гурток на прадпрыемстве. Калі дакладна распрацаваць усе тэмы, дык у выніку мы атрымаем монографічнае апісаньне тэй ці іншай фабрыкі або заводу. Але і распрацоўка кожнае тэмы паасобку будзе мець пэўнае навуковае і практычнае значэньне для соцыялістычнага будаўніцтва.

### I. Агульная характарыстыка прадпрыемства.

1. Назва фабрыкі (заводу) да рэволюцыі і цяпер; адрас (раён, горад, вуліца). Адлегласьць ад чыгуначнай станцыі ці прыстані.

У чым уладаньні знаходзілася прадпрыемства да рэволюцыі. У склад якога трэсту ўваходзіць цяпер.

2. Што выраблялася на прадпрыемстве раней і цяпер (пералічыць галоўнейшыя вырабы). На якія цэхі (асноўныя і дапаможныя) падзяляецца прадпрыемства.

Пабудова тае ці іншае фабрыкі (заводу) у значнай меры залежыць ад характару таго раёну, дзе знаходзіцца прадпрыемства, напр.: мэталюргічныя заводы знаходзяцца ў раёнах, багатых жалезнай рудой і каменным ругалем, дрэваапрацоўчыя — у лясных раёнах, цукровыя — у раёнах, дзе могуць добра расьці і дасьпяваць цукровыя буракі і г. д. Вось чаму трэба даць апісаньне і навакольнага раёну.

---

[1]) Пры напісаньні гэтага разьдзелу скарыстаны:
Монографіческое изучение фабрик и заводов. Выд. ЦБК, М., 1929.
Н. Крупская. Что надо знать культработніку о своем заводе? и др.

3. Прыродна-географічныя асаблівасьці раёну і яго прыродныя багацьці: наяўнасьць сыравіны, апалу. Шляхі зносін — чыгункі, рэкі, шосэйныя дарогі.

4. Чым займаецца ваколічнае насельніцтва, як і чым яно зьвязана з прадпрыемствам, што дае прадпрыемству і атрымоўвае ад яго.

Адносна самага прадпрыемства неабходна дасьледваць:

5. Наколькі ўдала выбрана месца для пабудовы прадпрыемства і наколькі ўдала расплянаваны асноўныя корпусы і будынкі прадпрыемства. Магчымасьці пашырэньня прадпрыемства ў далейшым.

## II. Організацыя вытворчасьці, забясьпечаньне сыравінай і збыт.

1. Вывучыць работу кожнага цэху і працэсы апрацоўкі сыравіны пасьлядоўна ў кожным цэху да вырабу гатовага фабрыкату.

2. Колькасьць рабочых у кожным цэху.

3. Якія адбыліся і адбываюцца зьмены ў організацыйнай схэме ў сувязі з рэконструкцыяй прадпрыемства і рацыяналізацыяй вытворчасьці, якія зьмены можна яшчэ правесьці.

4. Якое месца і экономічнае значэньне мае дасьледуемае прадпрыемства ў данай галіне прамысловасьці.

5. Абсталяваньне і пераабсталяваньне прадпрыемстваў і паасобных яго цэхаў у розныя часы яго існаваньня і як гэта адбілася на вытворчасьці.

6. Наяўнасьць якой сыравіны ў даным раёне выклікала пабудову данае фабрыкі (заводу); запасы гэтай сыравіны і яе выкарыстоўваньне.

Калі прадпрыемства працуе на прывознай сыравіне, дык дасьледваць, ядкуль яна дастаўляецца.

7. Якія ўстановы і організацыі забясьпечваюць прадпрыемства сыравінай; пляны забясьпечаньня і выкананьне іх. Ці ня бывае перабояў у працы прадпрыемства з прычыны несваечасовай дастаўкі сыравіны. Запасы сыравіны.

8. Запасы гатовых вырабаў. Куды збывае прадпрыемства свае гатовыя вырабы і ў якой колькасьці.

## III. Гісторыя прадпрыемства.

1. З якога часу існуе прадпрыемства; якія прычыны выклікалі заснаваньне прадпрыемства ў даным месцы.

2. Дынаміка разьвіцьця прадпрыемства: колькасьць цэхаў, выраб продукцыі, лік рабочых (мужчын, жанчын, падлеткаў), зарплата (па профэсіях), вытворчасьць працы, капіталы, разьмеры прыбытку, спажываньне сыравіны і г. д. (па гадох: 1913, 1916, 1919, 1920, 1925-26, 1928-29, 1930, 1931).

3. Найбольш характэрныя і важныя моманты ў жыцьці фабрыкі; моманты пад'ёму і заняпаду вытворчасьці і прычыны гэтых зьяў; устанаўленьне новых сувязяй забясьпечаньня і збыту вырабаў.

4. Організацыя працы і працэсы вытворчасьці ў дарэволюцыйныя гады. Склад рабочых на прадпрыемстве (па роду, узросту, профэсіі, нацыянальнасьці і інш.); сувязь рабочых з сельскай гаспадаркай. Працяжнасьць рабочага дня; зарплата; кватэрныя ўмовы.

5. Рэволюцыйны рух на прадпрыемстве: стачкі, забастоўкі да 1905 г., у 1905 г. і пасьля 1905 г. да 1917 г. Арышты перадавых рабочых, хто і за што быў засуджаны да турмы, катаргі, высланы ў ссылку і інш. (Сабраць адпаведныя матар'ялы).

Асабліва трэба застанавіцца на ўдзеле рабочых у рэволюцыі 1905 г.

6. Гісторыя прадпрыемства з 1917 г. Праца прадпрыемства і ўмовы жыцьця ў часы нямецкай і белапольскай окупацый. Рэпрэсіі да рабочых і ў чым яны выявіліся. Удзел прадпрыемства ў грамадзянскай вайне.

7. Як ідзе пашырэньне вытворчасьці на прадпрыемстве ў пасьлярэволюцыйныя часы — у часы васстанаўленьня і рэконструкцыі.

Вывучэньне гісторыі прадпрыемства мае надзвычайна вялікае значэньне ў мэтах выяўленьня найбольш характэрных момантаў і этапаў гаспадарчага жыцьця прадпрыемства ў розныя часы гісторыі і ў мэтах вызначэньня рэволюцыйнай энэргіі і творчасьці рабочае клясы, якая зьяўляецца асноўнай вытворчай сілай. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на гісторыю прадпрыемства ў часы імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайны і ў часы окупацый. Трэба дакладна высьветліць заняпад вытворчасьці і яго прычыны ў часы імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайны, дасягненьне прадпрыемствам даваеннага роўню вытворчасьці і асабліва дакладна высьветліць процэс далейшага разьвіцьця вытворчасьці прадпрыемства ў пэрыод соцыялістычнай рэконструкцыі. Для гэтай мэты неабходна належным чынам выкарыстаць усе архіўныя матар'ялы і ўспаміны старых рабочых на прадпрыемстве.

## IV. Характарыстыка вытворчага жыцьця прадпрыемства.

1. Асноўны капітал прадпрыемства (каштоўнасьць усяго заводу) з падзелам на каштоўнасьць будынкаў, сілавых установак, абсталяваньня і інш.

2. Віды энэргіі. Які выкарыстоўваецца апал, колькасьць (у год) і каштоўнасьць. Мерапрыемствы па экономіі апалу; вынікі.

3. Ахарактарызаваць абсталяваньне прадпрыемства з пункту гледжаньня яго сучаснасьці і мэтазгоднасьці ў распалажэньні (маючы на ўвазе пасьлядоўнасьць опэрацый).

4. Вузкія месцы ў вытворчасьці і чым яны тлумачацца (недахоп ці неадпаведнасьць абсталяваньня, недахоп кваліфікаванай рабочай сілы, недахопы ў плянаваньні і г. д.)

XVI зьезд УсеКП(б) прапанаваў „асаблівую ўвагу ў практычнай рабоце прамысловасьці ўдзяляць пытаньням соцыялістычнай рацыяналізацыі па лініі барацьбы за лепшую організацыю вытворчасьці, павялічэньня вытворчасьці працы, найбольш рацыянальнага скарыстаньня сыравіны, матар'ялаў, апалу і абсталяваньня, па лініі барацьбы з стратамі ў вытворчасьці і звароце, што павінна забясьпечыць выкананьне плянавых заданьняў па сабекаштоўнасьці пры абавязковым палепшаньні якасьці продукцыі". (З рэзол. зьезду па дакладу т. Куйбышава аб выкананьні пяцігадовага пляну прамысловасьці).

Гэта пастанова зьезду абавязвае дасьледчыка дакладна вывучыць, як на прадпрыемстве конкрэтна яна ажыцьцяўляецца.

5. Правядзеньне соцыялістычнай рацыяналізацыі. Дасягненьні прадпрыемства ў барацьбе за соцыялістычную рацыяналізацыю вытворчасьці; спосабы найлепшага выкарыстаньня старога і новага абсталяваньня, імпортных машын, конвэераў і варштатаў; перадача лішняга абсталяваньня іншым прадпрыемствам; стандартызацыя вырабаў, скарачэньне тэхнолёгічных процэсаў, дасягненьні ў плянаваньні. Змаганьне з стратамі ў вытворчасьці, мобілізацыя ўнутраных рэсурсаў, барацьба з бракам, скарыстаньне сыравінных адкідаў і г. д.

„Работа па рацыяналізацыі павінна быць самым цесным чынам увязана з соцспаборніцтвам і ўдарніцтвам; пры гэтым павінны быць шырока скарыстаны рабочыя прапановы і рабочае вынаходніцтва“ (З рэзол. XVI зьезду ЎсеКП(б).

6. Пераход на бесьперапынны тыдзень. У колькі зьмен працуе прадпрыемства. Пераход на сямігадзінны рабочы дзень. Вынікі гэтых мерапрыемстваў.

7. Найвышэйшыя паказчыкі колькасных і якасных дасягненьняў у выкананьні прамфінпляну (асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на выкананьне якасных паказчыкаў). Сустрэчныя прамфінпляны, зацьверджаныя на шырокіх рабочых конфэрэнцыях і выканьне іх (прамфінплянаў). Мэтоды сапраўднага і конкрэтнага давядзеньня прамфінплянаў да цэхаў і вытворчых заданьняў да рабочых варштатаў.

„Правядзеньне політыкі партыі ў справе ажыцьцяўленьня пяцігадовага пляну апіралася на вялізарнейшы працоўны пад'ём і творчы энтузыязм самых шырокіх мас рабочае клясы, які знайшоў сваё выяўленьне ў масавым пераходзе да новых социялістычных форм організацыі працы — *социялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва,* якія адкрываюць новую эпоху ў социялістычным будаўніцтве.

Тут партыя і надалей павінна шукаць асноўную крыніцу для перамогі цяжкасьцяй выкананьня пяцігадовага пляну і для паскарэньня тэмпаў социялізму“. (З рэзол. XVI зьезду ЎсеКП(б) па дакладу т. Куйбышава аб выкананьні пяцігадовага пляну прамысловасьці).

Выходзячы з гэтае пастановы, неабходна максымум увагі зьвярнуць на вывучэньне і разгортваньне социялістычных мэтодаў працы на прадпрыемстве.

8. Социялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва на прадпрыемстве: дасягненьні па ўцягненьню рабочых і спэцыялістаў у соцспаборніцтва; удзел усіх комуністаў і комсамольцаў у ўдарных брыгадах; кіраўніцтва соцспаборніцтвам і ўдарніцтвам з боку фабрычна-заводзкіх організацый; лепшыя мэтоды падліку вынікаў соцспаборніцтва. Організацыя і вынікі працы „грамадзкага буксіру“; дапамога адстаючым цэхам; скразныя брыгады.

9. Перабудова нізавой профсаюзнай работы ў адпаведнасьці з новымі задачамі профсаюзаў у рэконструкцыйны пэрыод. Роля фабрычна-завадзкога друку ў выкананьні прамфінпляну. Практычныя вынікі ад ўжываньня ўсіх вышэйпералічаных социялістычных мэтодаў працы.

10. Работа вытворчых нарад. Найлепшыя практычныя вынікі перабудовы вытворчых нарад у напрамку іх разбуйненьня. Удзел ударных брыгад, тэхпэрсоналу і шырокіх мас рабочых у рабоце нарад. Выявіць найлепшыя формы кіраўніцтва з боку вытворчых нарад соцспаборніцтвам, ударніцтвам, скразнымі брыгадамі вынаходцаў. Удзел вытворчых нарад у папярэджаньні прарываў у выкананьні прамфінпляну.

## V. Рабочая сіла.

1. Склад рабочых прадпрыемстваў: а) па роду (па цэхах); б) па ўзросту (па цэхах); в) па профэсіі (па цэхах); г) па вытворчаму стажу (па цэхах); д) па зарплаце; е) па нацыянальнасьці; ж) граматнасьці; з) па сямейнаму складу (па цэхах); і) па партыйнасьці.

Усе гэтыя весткі можна атрымаць на прадпрыемстве або шляхам распрацоўкі асабовых картак рабочых.

2. Лік рабочых, занятых на вытворчасьці, дапаможных рабочых і служачых.

3. З якіх раёнаў комплектуюцца рабочыя і з якіх социяльных груп насельніцтва (батракі, бядпякі, серадпякі колгасьнікі); іх сувязь з зямлёй. Рабочыя якіх груп і якіх цэхаў найбольш часта мяняюць работу.

4. Колькасьць чалавекадзён, прапрацаваных на прадпрыемстве (па зьменах і па катэгорыях рабочых). Павялічэньне рабочага часу (чалавекадзён) у сувязі з пераходам на бесьперапынны тыдзень і на трохзьменную працу.

5. Якія існавалі і існуюць сыстэмы аплаты працы рабочых розных катэгорый: падзённая, зьдзельная; індывідуальная, групавая. Ці ўжываецца прэміяльная сыстэма? Уплыў прэміяльнай сыстэмы на колькаснае і якаснае падвышэньне вытворчасьці працы. (Паказаць на конкрэтных і лічбовых даных).

6. Працоўная дысцыпліна на прадпрыемстве. Найлепшы вопыт і мэтоды падтрыманьня працоўнай дысцыпліны. Прагулы і прастоі, іх прычыны і барацьба з імі.

7. Колькасьць служачых і спэцыялістаў на прадпрыемстве іх становішча на прадпрыемстве; узаемаадносіны рабочых, служачых і спэцыялістаў.

Падрыхтоўка кадраў для нашай социялістычнай прамысловасьці мае надзвычайна вялікае значэньне. Гэта выразна адзначана ў рэзолюцыі XVI зьезду УсеКП(б) па дакладу т. Куйбышава аб выкананьні пяцігадовага пляну прамысловасьці: „Неабходнай прадпасылкай выкананьня пяцігадовага пляну зьяўляецца вырашэньне проблемы *кадраў*, што патрабуе рашучага і рэзкага пашырэньня і якаснага паляпшэньня практычнай работы ў галіне падрыхтоўкі і падвышэньня кваліфікацыі кадраў прамысловасьці“.

8. Дасьледваць, як організавана справа падрыхтоўкі рабочых праз школы фабрычна-заводзкага вучнёўства, як асноўнай формы падрыхтоўкі кваліфікаваных рабочых з падлеткаў. Кароткатэрміновыя формы падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі рабсілы: курсы, брыгаднае вучнёўства, гурткі „тэхмас“, лекцыі, даклады, завочнае навучаньне і інш.

## VI. Культурна-бытавыя ўмовы рабочых[1]).

1. Ахова працы на прадпрыемстве. Мерапрыемствы для стварэньня найлепшых санітарна-гігіенічных умоў працы. Разгортваньне на прадпрыемстве работы ячэек аховы здароўя. Своечасовасьць і разьмеры дапамогі рабочым наогул і ўдарнікам у першую чаргу ў рамонце здароўя: пасылка іх у дамы адпачынку, на курорты і інш.

2. Шкодныя цэхі і організацыя працы ў іх. Профэсійныя хваробы.

3. Кватэрныя ўмовы рабочых. Колькі рабочых сем'яў жыве ў рабочых дамох, у нанятых кватэрах, ва ўласных дамох; жылая і сьветлавая плошча; абстаноўка і ўпрыгожаньне кватэр. (Зьвярнуць увагу на кватэрныя ўмовы адзіночак і сямейных). Адлегласьць кватэр рабочых ад прадпрыемства (да 2-х, да 4-х клм і далей). Якімі шляхамі зносін карыстаюцца рабочыя, якія жывуць далёка.

4. Харчаваньне рабочых і іх сем'яў. Організацыя грамадзкага харчаваньня: грамадзкія сталоўкі, чайныя і як яны абслугоўваюць рабочых і членаў іх сем'яў. Якімі мерамі і сродкамі дасягаецца паляпшаньне харчаваньня рабочых. Праца закрытых разьмеркавальнікаў і ўплыў іх на павялічэньне вытворчасьці.

5. Ці ёсьць пры прадпрыемстве альбо ў рабочым гарадку лазьні, парыкмахерскія, грамадзкія пральні і як яны абслугоўваюць рабочых.

[1]) Для больш падрабязнага вывучэньня быту рабочых можна карыстацца „Программой по изучению быта рабочых“, выд. ЦБК РСФСР, Кастрама, 1929. Злажылі Л. Кіціцына і В. Сьмірноў.

6. Праца клюбаў, чырвоных куткоў, бібліотэкі, чытальні, лікпункту, школа для малапісьменных, тэхнічных гурткоў; праца кіно, пастаноўка спэктакляй і іншыя віды масавай і гурткавой працы. Паказаць, як культработа ўвязана з правядзеньнем гаспадарча-політычных кампаній і наколькі яна задавальняе рабочыя масы; наколькі шырока ўцягнуты рабочыя ў масавую культурную працу. Пастаноўка фізкультурнай працы; экскурсіі, прагулкі.

„На профсаюзы як на самыя шырокія масавыя пролетарскія організацыі ў першую чаргу ўскладаецца задачы мобілізаваць і організаваць масы навокал задач будаўніцтва соцыялістычнага грамадзтва, якое можа быць створана і замацована толькі высілкамі мільёнаў працоўных". (З рэзол. XVI зьезду ЎсеКП(б) аб задачах профсаюзаў).

7. Грамадзкія організацыі і іх праца (ячэйка Асоавіяхіму, Мопру, ваяўнічых бязбожнікаў, Прэч няпісьменнасьць і інш.). Адносіны рабочых да правадзімых гаспадарча-політычных кампаній. Шэфская работа.

Культурны ровень рабочых: лік пісьменных і няпісьменных мужчын і жанчын (па цэхах); колькі рабочых (мужын і жанчын) навучаецца ў школах для дарослых, на курсах, у рабочых унівэрсытэтах, на рабфаках і г. д.; колькі і якіх выпісваецца газэт і часопісаў; колькасьць членаў ячэйкі бязбожнікаў, іншых ячэек.

Які процант у бюджэце рабочых расходуецца на культурныя патрэбы, на піва, гарэлку, на царкву.

Сямейныя ўзаемаадносіны.

Дакладнае вывучэньне культурна-бытавога профілю рабочых мас вялікае значэньне для правільнай організацыі культурнай працы сярод рабочых.

### VII. Праца ў вёсцы.

1. Пастаянная сувязь і дапамога з боку прадпрыемства падшэфным колгасу ці саўгасу. Удзел рабочых (шэфскіх таварыстваў і камісій) у правядзеньні баявых кампаній у вёсцы. Перанясеньне практыкі соцспаборніцтва, ударніцтва і вытворчых нарад у падшэфны колгас (саўгас). Работа шэфаў па ўцягненьню бядняцка-серадняцкіх мас у колгасы і па замацаваньню апошніх.

2. Уплыў прадпрыемства на экономіку вакольнага раёну і на экономічны быт насельніцтва гэтага раёну, зьмена старых гаспадарчых звычаяў, профэсій і заняцьцяў і зьяўленьне новых. Уплыў прадпрыемства на перавыханьне вясковага насельніцтва, на зьмену соцыяльных узаемаадносін і быту вясковага насельніцтва вакольнага раёну (у сувязі з колектывізацыяй).

Вельмі важна і цікава прасачыць уплыў фабрычна-заводзкіх прадпрыемстваў на зьмены ў вясковым жыцьці, у раёнах новага прамысловага будаўніцтва, дзе гэтыя зьмены выяўляюцца асабліва яскрава.

### VIII. Пэрспэктывы разьвіцьця прадпрыемства.

Пэрспэкцыйны плян прадпрыемства; плян рэконструкцыі заводу (фабрыкі) і рэальныя магчымасьці гэтай рэконструкцыі.

### Як скарыстаць вынікі краязнаўчай працы на прадпрыемстве.

Калі краязнаўчы гурток закончыць усебаковае вывучэньне свайго прадпрыемства ці вывучэньне аднэй якой-небудзь найбольш актуальнай

тэмы, ён (гурток) павінен сумесна з фабрычна-заводзкімі організацыямі паставіць некалькі дакладаў па дасьледваных тэмах, на якіх рабочыя могуць даць дадатковыя весткі, зрабіць папраўкі, дадаткі і г. д. Асабліва трэба абгаварыць тыя практычныя вывады, якія павінны быць зроблены ў выніку дасьледваньня прадпрыемства. Гэтыя вынікі ў значнай меры могуць легчы ў аснову правядзеньня розных рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў, палепшаньня быту рабочых, лепшай пастаноўкі культурнай працы на прадпрыемстве і інш.

Пасьля дакладнага абгаварэньня вынікаў дасьледваньня на рабочых сходах, вытворчых нарадах і г. д. здабыты матар'ял трэба апрацаваць для друку ў мэтах больш шырокай популярызацыі жыцьця і працы дасьледванага прадпрыемства, абмену вопытам соцыялістычнага будаўніцтва ў прамысловасьці і высьвятленьня гісторыі нашых прамысловых прадпрыемстваў.

Лічбовыя даныя неабходна апрацаваць у выглядзе дыяграм і табліц, якія наглядна будуць паказваць дынаміку разьвіцьця прадпрыемства па асобных яго галінах. Вельмі важна на заводзе (фабрыцы) організаваць сцэцыяльную выстаўку па гісторыі прадпрыемства. На гэтай выстаўцы трэба паказаць узоры старой і новай продукцыі прадпрыемства, модэлі, чарцяжы або малюнкі старога і новага абсталяваньня, фотографіі найбольш выдатных організатараў, лепшых ударнікаў, вынаходцаў, рабкораў, дыяграмы росту культурнасьці рабочых на прадпрыемстве і г. д. Такая выстаўка павінна зьявіцца толькі першым зьвяном у організацыі фабрычна-заводзкага музэю.

## Організацыя краязнаўчага музэю.

Краязнаўчы музэй на прадпрыемстве павінен быць адным з агітацыйна-пропагандысцкіх сродкаў барацьбы за соцыялістычнае будаўніцтва і комуністычнае выхаваньне рабочых мас. Музэй павінен адбіваць усе дасягненьні прадпрыемства, яго рэконструкцыйны процэс, паказваць (і разам з тым навучаць), як рабочая кляса шляхам соцыялістычных мэтодаў працы дасягнула вялікіх посьпехаў у выкананьні высокіх паказчыкаў колькаснага і якаснага выкананьня плянавых заданьняў. Музэй павінен паказаць гледачом, як рабочыя прадпрыемствы змагаліся супроць капіталістычнага ладу ў дарэволюцыйныя часы, як яны (рабочыя) вялі героічную барацьбу за саветы, за дыктатуру пролетарыяту і з якім энтузыязмам, перамагаючы ўсе цяжкасьці, яны будавалі і будуюць нашу соцыялістычную гаспадарку і культуру, нацыянальную па форме і пролетарскую па зьместу.

Асноўнымі аддзеламі краязнаўчага (прамысловага) музэю на заводзе (фабрыцы) павінны быць: а) прыродна-вытворчыя сілы і эканоміка нашага раёну; б) вытворчасьць нашага прадпрыемства; в) быт рабочых[1]).

У першым аддзеле трэба даць карту раёну, які дае сыравіну для прадпрыемства. На карце павінны быць належным чынам адзначаны месцы дабываньня сыравіны (карысныя выкапні, тэхнічныя расьліны і г. д.) і апалу, плошча і запасы (багацьці) сыравіны і апалу. У гэтым-жа аддзеле павінны быць прадстаўлены ўзоры сыравіны і паказаны стадыі яе падрыхтоўкі; у табліцах і дыяграмах павінен быць паказаны рост (дынамікі) здабываньня і перапрацоўкі сыравіны; у малюнках і фотографіях трэба паказаць зьмену ў тэхніцы здабываньня сыравіны і апалу.

[1]) У хуткім часе ЦБК мае на ўвазе выдаць асобную брошуру аб організацы краязнаўчага музэю на фабрыцы (заводзе).

Вельмі важна адзначыць на карце больш буйныя саўгасы і колгасы, якія маюць пэўныя экономічныя сувязі з заводам ці фабрыкай (забесьпячэньне сыравінай і інш.).

У другім аддзеле неабходна паказаць сучаснае і ранейшае тэхнічнае абсталяваньне, процэс рэконструкцыі прадпрыемства і рацыяналізацыі вытворчасьці (модэлі, рысункі, чарцяжы). Паказаць дынаміку росту вытворчасьці, палепшаньне якасьці продукцыі ў залежнасьці ад тэхнічнага пераабсталяваньня прадпрыемства і ўжываньня соцыялістычных мэтодаў—соцспаборніцтва і ўдарніцтва (узоры вырабу, дыяграмы, табліцы). Плянавыя заданьні, іх выкананьне і перавыкананьне. Рост рабочай сілы і энэргаўзброенасьці рабочых (у сувязі з колькасным і якасным ростам вытворчасьці).

У трэцім разьдзеле трэба паказаць асноўныя моманты і этапы партыйна-профэсіянальнага жыцьця, дасягненьні ў палепшаньні аховы здароўя, рост пісьменнасьці і культурнасьці рабочых, рост і працу ячэйкі бязбожнікаў і г. д.).

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на выяўленьне ў музэі гісторыі рабочага руху: фотоздымкі дэмонстрацый, сходаў рабочых гурткоў, адозвы партыйных організацый, загады і распараджэньні адміністрацыі і царскай улады і г. д. (фотографіі, дыяграмы, малюнкі і г. д.).

Тут дана толькі агульная схэма організацыі пярвічнай стадыі організацыі краязнаўчага музэю на прадпрыемстве, які потым можа далей паступова разьвівацца ў сталы краязнаўчы музэй. Музэй павінен організаваць навакол сябе навукова-дасьледчую працу спачатку на прадпрыемстве, а потым і ў больш шырокім аб'ёме ў такім прыкладна напрамках: па вывучэньню гісторыі заводу (фабрыкі) і рэволюцыйнага руху, па вывучэньню разгортваньня соцспаборніцтва і ўдарніцтва, па дасьледваньню сыравіннай базы свайго прадпрыемства і інш. Побач з гэтым павінна ўвесь часісьці і популярызацыя работы. Асабліва актыўны ўдзел музэй павінен прымаць у часе правядзеньня розных кампаній сярод рабочых і колгасьнікаў падшэфнага колгасу, організуючы адпаведныя выстаўкі, даклады, лекцыі.

---

## Літаратура.

1. П. Г. Смидович і Г. М. Кржижановский. Социалистическое строительство и краеведение. Выд. Работн. Просвещ., М. 1930 г.
2. А. Ф. Вангенгейм. Краеведение и социалистическое строительство. Советское Краеведение, № 6, 1930.
3. Монографічнае вывучэньне фабрык і заводаў. Выд. ЦБК РСФСР (пераклад на беларуск. мову з 2-га выд.) ЦБК, Менск, 1931.
4. Программа по изучению быта рабочых (злажылі Кіціцына і В. Сьмірноў), выд. ЦБК, Кастрама, 1929 г.
5. В. Куйбышаў. Выкананьне пяцігадовага пляну прамысловасьці. Даклад на 16 зьезьдзе УсеКП(б).
6. Рэзолюцыі і пастановы XVI зьезду УсеКП(б)—па справаздачы ЦК і па дакладу т. Куйбышава аб выкананьні пяцігадовага пляну прамысловасьці.
7. Сталін І. Аб задачах гаспадарнікаў. (Прамова на першай Усесаюзнай конфэрэнцыі працаўнікоў соцыялістычнай прамысловасьці).
8. Бэнэк. Выкананьне пяцігадовага пляну разьвіцьця прамысловасьці. (Даклад на XIII зьезьдзе КП(б)Б.

---

**В. Серафімаў.**

# Вывучай колгас.

*(Програма монографічнага вывучэньня колгасу).*

## Што такое савецкае краязнаўства і якія мэты яно перад сабой ставіць?

Пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, пры вялізарнейшым энтузыязьме рабочае клясы і бядняцка-серадняціх мас сялянства мы будуем соцыялізм. З кожным днём растуць новыя фабрыкі, заводы, саўгасы, колгасы. Індустрыялізацыя краіны забясьпечыла найхутчэйшыя тэмпы соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі і на базе суцэльнай колектывізацыі ліквідацыю кулацтва як клясы—клясы „самых зьверскі, самых грубых, самых дзікіх эксплёататараў, якія ня раз аднаўлялі ў гісторыі краёў уладу памешчыкаў, цароў, папоў, капіталістаў. Гэтыя крывасмокі нажываліся на народнай пакуце, узбагачаючыся тым больш, чым больш галадаў рабочы ў гарадох і на фабрыках" (Ленін). Вынікі выкананьня плянаў соцыялістычнага будаўніцтва першых 2-х год пяцігодкі забясьпечваюць поўную рэальнасьць і пасьпяховае выкананьне лёзунгу рабочае клясы „пяцігодку ў чатыры гады". К канцу пяцігодкі мы ў асноўным павінны закончыць колектывізацыю сельскай гаспадаркі. „За ці супроць колгасу—так стаіць цяпер пытаньне перад усёй бядняцка-серадняцкай масай. У гэтым годзе пытаньне аб адносінах да колгасу рубам пастаўлена перад кожным бедняком і серадняком. Застаецца выбіраць. *Ужо гэта адно абазначае, што 1931 год зьяўляецца рашаючым годам для ўсёй справы колектывізацыі, для ўсяго нашага соцыялістычнага будаўніцтва*" (Молатаў, на VI зьезьдзе Саветаў). Ударныя тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва патрабуюць ударных тэмпаў у культурным будаўніцтве. Поўнае пераключэньне ўсіх галін культурнага будаўніцтва на выкананьне плянаў, мобілізацыя шырачэйшых колаў рабочых, колгасьніцкіх, бядняцкіх і серадняцкіх мас па карэнных пытаньнях культурнай рэволюцыі, на аўладаньне тэхнікай,—неадрыўная частка нашага наступленьня па ўсім фронце.

На сучасным этапе соцыялістычнага будаўніцтва з асобай астратой высоўваецца неабходнасьць вывучэньня і вучоту сіл краіны і ўмоў разьвіцьця культуры. Работа гэта ня можа быць выканана аднымі дзяржаўнымі навуковымі ўстановамі, калі да навукова-дасьледчай працы ня будуць прыцягнуты рабочыя, колгасьніцкія, бядняцка-серадняцкія масы і савецкая інтэлегенцыя. *Гэту навуковую працу ў даны час трэба цесна ўвязваць з краязнаўчым рухам—колектыў-*

*ным, усебаковым вывучэньнем свайго раёну, свайго колгасу, саўгасу, прадпрыемства.*

Засьмечаныя варожымі і контр-рэволюцыйнымі нацдэмаўскімі элемэнтамі, пачынаючы з Беларускай Акадэміі Навук і канчаючы краязнаўчымі гурткамі пры навучальных установах, — краязнаўчыя організацыі раней у большасьці праводзілі варожую пролетарыяту ідэолёгію і, бязумоўна, не зьяўляліся барацьбітамі за пролетарскую культуру па зьместу і нацыянальную па форме. Бязьлітасна выкрываючы контр-рэволюцыйны нацыянал-дэмократызм, мы павінны дабіцца рашучага пераломy ў краязнаўчай працы. Ад саматужніцкай, бясплянавай, а па зьместу адарванай ад сучаснасьці, шкодніцкай працы, краязнаўства павінна павярнуцца тварам да навукова-дасьледчай працы ў галіне прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, скарыстаньня мясцовых крыніц энэргіі, вырашэньня сырцовай і жывёлагадоўчай проблем, лесаскарыстаньня, новабудоўлі ў сувязі з барацьбой за новы быт і г. д.; да організацыі конкурсу па монографічнаму вывучэньню фабрык і заводаў, колгасаў і саўгасаў, па складаньню краязнаўчых падручнікаў, адшуканьню карысных выкапняў, выяўленьню новых прадметаў экспорту, зьбіраньне лекавых расьлін і г. д. Краязнаўчая праца—вывучэньне свайго раёну, свайго колгасу, сваёй фабрыкі, каб лепей будаваць соцыялістычную гаспадарку, каб хутчэй рухацца наперад, каб лепей плянаваць яе, каб вывучаць усе крыніцы, якія дадуць магчымасьць больш стала і бесьперабойна паляпшаць яе—справа саміх мас, актыўных іх удзельнікаў, энтузыястаў-ударнікаў, барацьбітоў за сустрэчны плян.

Мы маем ясныя дырэктывы з боку партыі як-мага хутчэй перабудаваць краязнаўчую працу, каб з аматарскіх, адарваных ад жыцьця краязнаўчых гурткоў ператварыць краязнаўчы рух у масавы рух за пролетарскую навуку. Але трэба адкрыта сказаць, што на сягоньня гэта дырэктыва партыі ня выканана. Бясспрэчна, што гэта дырэктыва будзе выканана з посьпехам тады, калі кожны член партыі, член профсаюзу, комсамолец, савецкі работнік, актывіст колгасьнік, у часе працы будзе вывучаць сваю вытворчасьць, будзе дасканала выяўляць усе пэрспэктывы яго разьвіцьця; калі справай навукі будуць займацца масы, калі справа дасьледваньня, справа вывучэньня стане неабходнай справай кожнага заводу, фабрыкі, колгасу і саўгасу. *Краязнаўчы гурток у колгасе, на заводзе—адна з масавых форм гэтай навуковай працы.* Ці ёсьць у нас сягоньня даныя па разгортваньню краязнаўчай працы на прадпрыемствах і ў колгасах? Так, ёсьць. Мы сягоньня ў Беларусі ня маем ніводнага заводу, фабрыкі, да якой ня была-б прымацавана школа, тэхнікум, ВУЗ; у нас няма раёну, у якім-бы ня было школы колгаснай моладзі; у шэрагу раёнаў ёсьць МТС—вялізарнейшы соцыялістычны фактар культурнай перабудовы сялянскіх гаспадарак, тысячы колгасьнікаў праходзяць курсы падрыхтоўкі ў цэнтры і ў раёнах. Мы маем дзесяткі тысяч рабочых ад варштату, колгасьнікаў, якія сягоньня вучацца ў нашых вышэйшых навучальных установах, тэхнікумах, профшколах, якія адбываюць вытворчую практыку на заводах, фабрыках, колгасах, якія органічна зьвязаны з заводам і колгасамі,—гэта грамаднейшыя краяведныя кадры, якія павінны быць масавымі організатарамі краязнаўчых гурткоў на фабрыках, заводах, МТС, колгасах.

Барацьба за політэхнічную школу — гэта неадрыўная частка барацьбы за разгортваньне масавай навукова-дасьледчай працы за разгортваньне савецкага краязнаўства. Нельга пасьпяхова праводзіць

політэхнізацыю школы, ня ведаючы раёну, фабрыкі, заводу, ня прымаючы актыўнага ўдзелу ў яго перабудове, у яго разгортваньні. Савецкае краязнаўства, як зазначана краяведнай камісіяй Комакадэміі, зьяўляецца „аднэй з форм актыўнага ўдзелу мас у соцыялістычным будаўніцтве СССР шляхам усебаковага навуковага вывучэньня данага раёну ў мэтах дапамогі пляную́чым опэрацыйным органам савецкай улады і шляхам выкарыстоўваньня вынікаў гэтага вывучэньня для соцыялістычнай перабудовы краю“.

Мы маем ясную дырэктыву па лініі ЦСПСБ аб разгортваньні краязнаўчай працы і актыўнейшым удзеле профорганізацый у гэтай рабоце. Профсаюзы павінны безадкладна ўключыцца ў штурм барацьбы за пролетарскую навуку, за мобілізацыю мас на навуковадасьледчую працу.

## Схэма вывучэньня колгасу.

Ленін гаворыць, што:

„Сыстэма дробнай гаспадаркі пры таварнай вытворчасьці ня здолее выратаваць чалавецтва ад галечы мас і прыгнечаньня іх“.

Ленін гаворыць, што:

„Дробным гаспадаркам з галечы ня выйсьці“.

Ленін гаворыць, што:

„Калі мы будзем сядзець пастарому ў дробных гаспадарках, хаця і вольныя грамадзяне на вольнай зямлі, нам усё роўна пагражае нямінучая пагібель“.

Ленін гаворыць, што:

„Толькі пры дапамозе супольнай, арцельнай, таварыскай працы можна выйсьці з тупіку, у які загнала нас імпэрыялістычная вайна“.

Ленін гаворыць, што:

„Неабходна перайсьці да супольнай апрацоўкі ў буйных узорных гаспадарках, бо бяз гэтага выйсьці з тэй разрухі, з таго проста такі здчайнага становішча, у якім знаходзіцца Расія,—нельга“.

Што ўсё гэта азначае?

Гэта азначае, што колгасы зьяўляюцца адзіным сродкам, які дае сялянам выхад з галечы і цемры.

Ленін гаворыць, што:

„Савецкая ўлада надае вялізарнае значэньне комунам, арцелям і ўсякім наогул організацыям, накіраваным да перабудовы, паступовай дапамогі гэтай перабудове дробнай, аднаасобнай гаспадаркі ў грамадзкую, таварыскую або арцельную“.

Ленін гаворыць, што:

„Савецкая ўлада дала значную перавагу комунам і таварыствам, паставіўшы іх на першае месца“.

Што гэта значыць?

Гэта значыць, што савецкая ўлада будзе аказваць колгасам ільготы і паравагі перад аднаасобнымі гаспадаркамі. Гэта значыць, што яна будзе даваць колгасам ільготы і ў сэнсе прадастаўленьня зямлі і ў сэнсе забесьпячэньня машынамі, трактарамі, насенным збожжам і г. д., і ў сэнсе палягчэньня падатковага абкладаньня, і ў сэнсе дачы крэдытаў.

Чаму савецкая ўлада аказвае ільготы і перавагі колгасам?
Таму, што колгас зьяўляецца адзіным сродкам вызбаўленьня сялян ад галечы.
Таму, што пераважная дапамога колгасам зьяўляецца найбольш сапраўднай формай дапамогі беднаце і серадняком". (Тав. Сталін—Адказы колгасьнікам).

## I Агульныя весткі.

Палажэньне колгасу. Назва яго. У склад якога колгаснага аб'яднаньня ўваходзіць колгас. На якой адлегласьці знаходзіцца колгас ад чыгуначнай станцыі ці прыстані. Агульная характарыстыка раёну (сельсавету). Тэрыторыя колгасу, яе плянавыя выгады. Прыродна-геаграфічныя асаблівасьці тэрыторыі колгасу.

## II Гісторыя.

Калі організаваўся колгас. Формы і мэтоды організацыі. Хто зьяўляўся ініцыятарам організацыі колгасу. Характар клясавай барацьбы ў даным паселішчы ў часе організацыі колгасу. Афармленьне колгасу. Экономічнае становішча колгасу ў першыя часы яго організацыі. Соцыяльны склад колгасу ў першыя часы яго організацыі. Першыя крокі організацыі працы ў колгасе.

## III Форма колгасу.

„Асноўнай формай колгасу на данай стадыі зьяўлядцца сельска-гаспадарчая арцель. Вымагаць, каб сяляне, уступаючы ў арцель, зараз-жа адмовіліся ад усякіх індывідуалістычных навыкаў і інтарэсаў, ад магчымасьці весьці дабавачную да аграмаджанай асабістую гаспадарку (карова, авечкі, птушка, прысялібны гарод), ад магчымасьці скарыстаньня для сябе заработку на старане і г. п.,—значыць забываць азбуку марксызму-ленінізму".

„Форма колгасу павінна адпавядаць гаспадарчым асаблівасьцям раёну і яго гаспадарчаму ўхілу. Побач з арцельлю ў некаторых раёнах незернавога характару, а таксама ў нацыянальных раёнах Усходу, можа палучыць на першы час масавае пашырэньне таварыстваў па сумеснай апрацоўцы зямлі, як пераходная форма да арцелі".

„Колгасны рух можа падымацца да вышэйшай формы — да комуны — у адпаведнасьці з павышэньнем тэхнічнай базы, ростам колгасных кадраў і культурнага роўню колгасьнікаў, пры канечнай умове прызнаньня самімі сялянамі адпаведных зьмен у статуце і іх ажыцьцяўленьня зьнізу". (З пастаноў XVI зьезду УсеКП(б).

Форма колгасу (ТАЗ, арцель, комуна). Дасканала дасьледваць этапы пераходу. Наколькі асьвядомлена колгасная маса з статутам колгасу і яго выкананьнем у практычнай працы. Ці былі дапушчаны зьмены ў прыкладным статуце, характар гэтых зьмен у адпаведнасьці з дырэктывамі партыі, савецкіх і кіруючых колгасных органаў.

## IV Пастаноўка вытворчай працы ў колгасе.

Гэты разьдзел патрабуе асаблівай увагі і ўсебаковага дасьледваньня па розных галінах плянаваньня і організацыі працы колгасу.
„Бяз пляну немагчыма правільнае вядзеньне гаспадаркі".

„Добра складзены, прадуманы вытворчы плян — адна з умоў, якія забясьпечваюць посьпех колгасу“.

„Каб правільна арганізаваць працу ў колгасах, неабходна, па-першае, увесьці брыгадны мэтод працы, арганізуючы брыгады па вытворчаму прынцыпу; па-другое, брыгадная работа павінна працякаць на аснове зьдзельшчыны, і па-трэцяе, зьдзельшчына павінна расцэньвацца не ў грашовай форме, а ў працаднёх“. (З дакладу тав. Юркіна на VI Усесаюзным зьезьдзе Саветаў).

Вытворчы плян колгасу і яго адпаведнасьць з спэцыялізацыяй колгасу. Колгас і яго сувязь з МТС. Роля МТС у жыцьці і працы колгасу. Удзел колгасу ў будаўніцтве МТС.

Рабочая програма колгасу. Брыгады і прынцып іх арганізацыі. Арганізацыя брыгад і рабочая програма. Зьдзельшчына і яе пашырэньне. Нормы выпрацоўкі. Працоўныя дні і зьдзельшчына. Арганізацыя бесьперапыннай уборкі (конвэйер). Сэзонная праца і брыгады.

Сувязь з саўгасам, роля саўгасу ў арганізацыі колгасу і яго працы.

„У арцелі не завяршаецца, а толькі пачынаецца справа наладжаньня новай грамадзкай дысцыпліны, справа абучэньня сялян социялістычнаму будаўніцтву“. (З пастаноў XVI зьезду ЎсеКП(б).

Працоўная дысцыпліна ў колгасе і каляндарныя тэрміны выкананьня работ. Дасьледваньне ўсіх мерапрыемстваў колгасу па падняцьцю вытворчасьці працы і працоўнай дысцыпліны ў колгасе. Бюро працы ў колгасе і яго функцыі ў арганізацыі працы. Кіраўніцтва працай брыгад.

*Вытворчыя нарады ў колгасе.* Сыстэма арганізацыі вытворчых нарад. Пытаньні, якія абгаварваюцца на вытворчых нарадах. Роля вытворчых нарад у барацьбе за палепшаньне колектыўнай гаспадаркі, падняцьце продукцыйнасьці працы, павялічэньне таварнасьці гаспадаркі. Барацьба за цьвёрдую працоўную дысцыпліну ў колгасе, прапрацоўка і нагляданьне за сваечасовым выкананьнем рабочых плянаў і г. д. Выкананьне пастаноў вытворчых нарад, контроль за выкананьнем.

*Соцыялістычныя мэтоды працы.* Разгортваньне соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва ў колгасе. Адносіны да ўдарнікаў астатняй масы колгасьнікаў. Сыстэма арганізацыі ўдарніцтва. Вынікі ўдарнай працы, праверка іх і популярызацыя сярод астатніх мас колгасьнікаў і аднаасобнікаў. Формы і мэтоды ўцягненьня ў соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас аднаасобнікаў (заўтрашніх колгасьнікаў).

Формы ўвязкі аднэй вытворчай кампаніі з другой (увязка веснавой сяўбы з падрыхтоўкай да ўборачнай кампаніі).

Жаночая праца ў колгасе і яе скарыстаньне. Як скарыстоўваецца праца дзяцей і падросткаў у колгасе.

Мерапрыемствы па выпраўленьню недахопаў рабочай сілы. Скарыстаньне лішку рабочай сілы ў колгасе. Парадак скарыстаньня лішкаў рабочай сілы. Адказная роля праўленьня колгасу ў разьмеркаваньні колгасьнікаў на работы.

Скарыстаньне цягавай сілы ў вольныя ад працы часы ў колгасе. Кіраўніцтва вытворчай працай з боку Колгассаюзу. Жывое інструктаваньне колгасу.

Вынаходніцтва і яго скарыстаньне.

*Жывёлагадоўчая гаспадарка колгасу.*

„Ухваляючы ініцыятыву колгасьнікаў, якія ўжо ў сучасны момант стварылі абагуленае малочнае стада колгасаў у 1,7 млн. шт. (у тым ліку 4.700 таварных малочных фэрм з 450 тыс. кароў і 4.600 таварных сьвінагадоўчых фэрмаў з 200 тыс. сьвінаматак), VI зьезд Саветаў прапануе ўраду ўсямерна пашыраць меры фінансавай і організацыйнай дапамогі такім колгасам. Зьезд разглядае стварэньне колгаснай жывёлагадоўлі побач з організацыяй саўгаснай жывёлагадоўлі, як асноўны шлях вырашэньня жывёлагадоўчай проблемы ў найкарацейшы тэрмін.

Наяўнасьць продукцыйнай жывёлы ў колгасе; дынаміка яе росту і пэрспэктывы далейшага росту. Унутраны распарадак на скотным дварэ. Выкарыстаньне машын і інвэнтару па абслугоўваньню жывёлы і скотнага двара. Рацыянальнае скарыстаньне вытворніка. Гадоўля маладняку. Кармленьне па нормах і якія нормы ўжываюцца ў колгасе. Кармы і ўдой. Выкарыстаньне натуральнай і штучнай пашы. Захаваньне кармоў грубых, сакавітых, концэнтраваных і спосаб падрыхтоўкі іх да скармліваньня. Сілос. Скарыстаньне адкідаў на корм. Будынкі для жывёлы (кароўнікі, цялятнікі, сьвінарнікі, ізолятары). Унутранае абсталяваньне і расстаноўка дарослай жывёлы і маладняку. Барацьба колгасу за пашырэньне кармавой базы.

*Ільнаводная гаспадарка колгасу.* Севазварот ільну ў пляне колгасу. Асноўныя этапы пераходу да данай спэцыялізацыі. Мэханізацыя ўборкі ільну. Мэханізацыя поліва, выдзяленьне насеннага ільну, спосабы сушкі ўраджаю на полі, абмалот насеньня, вынаходніцтва новых ільняных малатарняў. Нормы, тэрміны і формы ўгнаеньня. Патрэбнасьць глебы ў вапнаваньні. Торф, як угнаеньне і вынікі яго ўжываньня. Высьвятленьне найлепшых комбінацый сумеснага ўжываньня торфу і гною. Скарыстаньне зялёнага ўгнаеньня — лубіну, сэрадэлі і інш. Ахова ільну і канапель ад хвароб і шкоднікаў.

## V Аплата працы ў колгасе.

„Разьмеркаваньне колгасных прыбыткаў па прынцыпу — хто больш і лепш працуе, той больш атрымлівае; хто не працуе, той нічога не атрымлівае, павінна зрабіцца правілам для ўсіх колгасаў і колгасьнікаў. Адпаведна гэтаму ў асноўных с.-г. работах, ворыве, сяўбе, поліве, уборцы, малацьбе — масавае пашырэньне павінна атрымаць зьдзельная работа, якая ацэньваецца ў працаднёх. Толькі на гэтай падставе можа быць умацавана працоўная дысцыпліна і добра організавана работа ў колгасах“. (З пастаноў VI зьезду Саветаў СССР).

Ранейшая форма аплаты працы. Пераход на зьдзельную аплату працы. Зьдзельная аплата працы і як яна праводзіцца. Падлік працы ў колгасе ў працаднёх. Зьдзельная аплата працы і падняцьце якасьці і продукцыйнасьці колгаснай гаспадаркі. Організацыя і роля групавой зьдзельшчыны. Аплата працы колгасьнікаў, якія працуюць у органах кіраўніцтва колгасу. Спэцыялізацыя працы ў колгасе і аплата. Парадак разрахунку з колгасьнікамі.

Парадак забесьпячэньня непрацаздольных у колгасе.

## VI Матар'яльна-фінансавая база колгасу.

Сродкі вытворчасьці ў колгасе (машыны, інвэнтар, цягавая сіла, іх організацыя і рост). Забесьпячэньне машынамі ў адпаведнасьці

з вытворчымі плянамі колгасу. Мэханізацыя працы ў колгасе. Падсобныя майстэрні ў колгасе і іх абсталяваньне. Будынкі. Разгортваньне будаўніцтва ў колгасе і забесьпячэньне тэмпаў у выкананьні плянаў.

Фінансавы плян колгасу. Фінансавая дысцыпліна і барацьба за рэжым экономіі. Насенны фонд колгасу. Крэдыт. Контрактацыя. Выкананьне абавязкаў перад дзяржавай і коопэрацыйнымі органамі.

„Аднэй з асноўных форм гаспадарчых узаемаадносін колгасу з дзяржаўнымі і коопэрацыйнымі організацыямі зьяўляецца дагавор аб контрактацыі. Дагавор аб контрактацыі зьяўляецца двухбаковым абавязацельствам, г. зн. ня толькі абавязацельствам дзяржавы аб дапамозе колгасам, але і абавязацельствам колгасаў аб здачы імі іх таварнай продукцыі дзяржаве. Зьезд разглядае дагавор аб контрактацыі, як неадлучную частку выкананьня вытворчага пляну колгасаў і прапануе ўсім колгасьнікам і колгасам забясьпечыць сваечасовае і добрасумленнае выкананьне контрактацыйных дагавароў“. (З пастаноў VI зьезду Саветаў СССР).

## VII Склад колгасу.

Социяльны склад. Партыйны і комсамольскі склад. Склад колгасу па ўзросту і полу. Нацыянальны склад. Рабочая сіла колгасу. Выбарчыя органы колгасу. Агульны сход. Удзельнікі грамадзянскай вайны. Жанчына і яе роля ў кіруючых органах колгасу. Колькасьць і становішча служачых. Індывідуальная гаспадарка колгасьнікаў.

## VIII Колгас у барацьбе за колгасны прыліў. Клясавая барацьба.

„Політыка партыі і яе ЦК забясьпечыла пасьпяховы пераход адсталых і распыленых дробных сялянскіх гаспадарак на рэйкі крупнага социялістычнага земляробства, разгортваньне суцэльнай колектывізацыі і пераход да практычнага ажыцьцяўленьня лёзунгу ліквідацыі кулацтва, як клясы“.

„Кулак яшчэ не дабіт і будзе аказваць шалёнае супраціўленьне пераможнаму руху колектывізацыі“. (З пастаноў XVI зьезду ЎсеКП(б).

„Цяпер, калі многамільённыя масы сераднякоў і беднякоў, пераканаўшыся ў перавагах колгасу, уступілі на колгасны шлях, а кулацтва,—асноўны вораг колгасаў — ліквідуецца, як кляса— перад кожным бедняком і серадняком-аднаасобнікам, яшчэ ня ўступіўшымі ў колгас, паўстала асноўнае пытаньне—за ці супроць колгасу.

Бядняк і серадняк-аднаасобнік, які памагае кулаку змагацца з колгасамі і падрывае колгаснае будаўніцтва, ня можа быць саюзьнікам, а тым больш апорай рабочай клясы,—ён на справе саюзьнік кулака.

Толькі той бядняк і серадняк-аднаасобнік застаецца саюзьнікам рабочай клясы, хто разам з рабочай клясай памагае будаваць колгасы, хто падтрымлівае колгасны рух, хто памагае весьці рашучую барацьбу з кулаком.

Для таго, каб зрабіцца сапраўднай і моцнай апорай савецкай улады, перад бедняком і серадняком-аднаасобнікам адзін шлях—шлях дапамогі колгасам, а пасьля і ўступленьня ў колгасы. (З пастаноў VI зьезду Саветаў СССР).

*„Цэнтар цяжару барацьбы супроць колектывізацыі перанесены кулаком цяпер на разлажэньне існуючых колгасаў, на застрашваньне колгасьнікаў і аднаасобнікаў, на аўладаньне нізавымі ўстановамі, на паланеньне часткі мясцовых работнікаў, на спробу прабрацца ў колгас.*

Якія-ж мэтоды ўжывае кулак у барацьбе за разлажэньне колгасаў, за аслабленьне гаспадарчай моцы колгасаў? 1) шкодніцтва ўсякіх відаў (узрыў рухавікоў, падпал гаспадарчых будынкаў і хлеба, нават на палёх); 2) подкупы кіраўнікоў, спайваньне іх; 3) падрыў працоўнай дысцыпліны (у колгасах кулак выступае прыхільнікам паядоцкага прынцыпу разьмеркаваньня, падаграе рвацкія настроі); 4) спэкуляцыя на цяжкасьцях маладой колектыўнай гаспадаркі; 5) організацыя групавой барацьбы ўнутры колгасу (паміж беднатой і серадняком, паміж былымі чырвонымі партызанамі і „зялёнымі)"; 6) стварэньне варожых адносін паміж масамі колгасьнікаў і колгасным кіраўніцтвам" (Бальшавік, № 22, лістапад 1930 г. „Асноўныя пытаньні колгаснага будаўніцтва"— Нікуліхін).

Колгас у барацьбе за мерапрыемствы сельсавету. Сувязь з сельсаветам. Група беднаты ў колгасе і праца з ёй. Праца з батракамі і беднякамі-аднаасобнікамі. Роля батрацтва, „25 тысячнікаў" і беднаты ў вытворчым жыцьці колгасаў. Вылучэнства батрацтва і беднаты на кіруючую працу ў колгасе і Колгассаюзе. Адносіны паміж колгасам і аднаасобнікамі. Вытворчая дапамога аднаасобнікам. Формы і мэтоды організацыйна-масавай работы колгасаў у барацьбе за прыліў у колгасы. Сыстэматычная сувязь колгасу з аднаасобнікамі. Вярбовачная брыгада, яе работа і кіраўніцтва ёю. Адносіны паміж асобнымі групамі ў колгасе.

Клясавая барацьба. Формы і мэтоды супраціўленьня кулацтва, падкулачнікаў, варожага элемэнту разгортваньню колгаснага будаўніцтва. Апісаньне фактаў клясавай барацьбы. (Апісаньнем асобных фактаў характарызаваць клясавую барацьбу па паасобных этапах організацыі колгасу).

Як і кім выкрывалася кулацкая агітацыя і шкодніцтва. Як была організавана бедната, усе колгасьнікі на кулацкія выступленьні і кулацкі тэрор. Масавыя організацыі колгасу: хата-чытальня, чырвоны куток, насьценгазэта ў клясавай барацьбе. Чыстка колгасу ад кулацкіх і варожых элемэнтаў.

„VI зьезд Савететаў Саюзу ССР зварачаецца да ўсіх беднякоў і сераднякоў аднасобнікаў, якія яшчэ ня ўступілі ў колгас: кожны дзень адтэрмінаваньня вашага ўступленьня ў колгас тармазіць рост вашага дабрабыту, пазбаўляе вас магчымасьці неадкладна карыстацца ўсімі перавагамі буйнай арцельнай гаспадаркі". (З рэволюцыі VI зьезду Саветаў СССР).

## IX Культура і быт.

„Культурна-бытавое абслугоўваньне саўгасаў і колгасаў з кожным годам паляпшаецца; аднак, яно яшчэ адстае ад тэмпаў росту буйных соцыялістычных гаспадарак і ўзросшых запатрабаваньняў рабочых і колгасьнікаў. Зьезд Саветаў лічыць неабходным зьвярнуць больш увагі на культурна-бытавое абслугоўваньне рабочых саўгасаў і шырокіх мас колгасьнікаў, выходзячы з таго,

што бяз узьняцьця культурнага роўню немагчыма пасьпяхова ўзьняць і разгарнуць гаспадарку саўгасаў і колгасаў". (З пастаноў X зьезду Саветаў БССР).

Хата-чытальня, чырвоны куток, радыё і ўплыў іх на падняцьце культурнага роўню колгасьнікаў. Культурна-бытавая камісія і ўдзел колгасьнікаў у культурнай рабоце. Удзел колгасьнікаў у масавых організацыях (ячэйка МОПР, Прэч няпісьменнасьць, Озэт і інш.) і кампаніях. Месца рэволюцыйных сьвят у выхаваньні колгасьнікаў. Інтэрнацыянальнае выхаваньне колгасьнікаў. Ячэйка Асоавіяхіму і ваенізацыя колгасу. Сувязь колгасу з бліжэйшай школай колгаснай моладзі і ўплыў школы на культурны рост колгасу. Школа ў колгасе і ўдзел яе ў жыцьці і працы колгасу. Пісьменнасьць у колгасе. Адносіны колгасьнікаў да школы, лікпункту. Курсы і падрыхтоўка кадраў. Агропісьменнасьць колгасьнікаў. Барацьба за аўладаньне тэхнікай. Праца ячэйкі „Бязбожнік" і антырэлігійная праца ў колгасе. Дні адпачынку. Вопратка рабочая і сьвятошная. Грамадзкае харчаваньне. Ячэйка аховы здароўя. Лазьня. Мэдычнае абслугоўваньне колгасу. Ясьлі. Пляцоўка. Дзіцячы сад. Узаемаадносіны ўнутры сям'і. Вытворчы быт колгасьніка. Дасьледчая праца ў колгасе. Удзел колгасьнікаў у рабоце коопэрацыі. Спажывецкая коопэрацыя ў абслугоўваньні колгасьнікаў. Абслугоўваньне колгасьнікаў на роднай мове.

## Як трэба вывучаць колгас.

Вывучэньне колгасу можа быць усебаковае, па ўсіх галоўнейшых пытаньнях, закранутых у програме. Вывучаць можна таксама і якуюнебудзь адну галіну колгаснага будаўніцтва, напрыклад, організацыю працы ў колгасе, быт і г. д. Вывучэньне не павінна быць замкнутым. У дасьледваньні жыцьця і працы колгасу ўцягваецца маса саміх колгасьнікаў. Пры ўсебаковым вывучэньні колгасу ці шэрагу колгасаў, можна організаваць некалькі брыгад па розных галінах прыцы колгасу. Перш, чым прыступіць да вывучэньня, трэба на агульным сходзе шырока растлумачыць аб тых мэтах, якія перад сабой ставіць савецкае краязнаўства і якія мэты ставіць вывучэньне колгасу. Вельмі пажадана, каб на агульным сходзе колгасьнікі былі азнаёмлены з літаратурнымі матар'яламі па закранутых у програме пытаньнях аб тым ці іншым колгасе, каб былі шырока абмяркованы гэтыя пытаньні, каб колгасьнікі на конкрэтных фактах убачылі неабходнасьць вывучэньня лепшага вопыту другіх колгасаў і неабходнасьць абмену сваім вопытам, сваімі дасягненьнямі. На агульныя сходы неабходна запрасіць беднякоў і серанякоў аднаасобнікаў. Таксама пажадана ўцягненьне іх у брыгады. Падагуленыя матар'ялы па брыгадах абгаварваюцца на агульнай нарадзе ўсіх брыгад, пасьля чаго робіцца даклад аб выніках дасьледваньня на агульным сходзе колгасьнікаў і аднаасобнікаў. Ужо сама гэта організацыя вывучэньня павінна даць новы прыліў у колгас.

Вывучэньне колгасу павінна палажыць пачатак організацыі краязнаўчага гуртка ў колгасе з колгаснага актыву і саміх колгасьнікаў. Культурна-бытавая камісія колгасу павінна стаць на чале організацыі краязнаўчага гуртка і ўключыць яго ў сваю штодзённую працу.

Працу краязнаўчага гуртка трэба сконцэтраваць на галоўнейшых пытаньнях колгаснага будаўніцтва. Формы і мэтоды падрыхтоўчай працы да організацыі колгасу, як організаваўся колгас і ўдзел бядняцка-серадняцкіх мас у яго організацыі; клясавая барацьба пры орга

нізацыі колгасу і ачыстка колгасу ад кулацкіх элемэнтаў; першыя часы пастаноўкі працы ў колгасе і перамога цяжкасьцяй; якія этапы перажываў колгас у сваёй арганізацыі (таварыства, процэс пераходу ад арцелі да комуны); якія меры прымаюцца да разгортваньня працы па ўцягненьню бядняцка-серадняцкіх мас у колгас (формы і мэтоды гэтай працы). Вывучэньне рэволюцыйнага руху сялян, удзелу іх у барацьбе супроць памешчыкаў, вывучэньне грамадзянскай вайны, вывучэньне партызанскага руху, зьбіраньне матар'ялаў—успамінаў асобных удзельнікаў грамадзянскай вайны павінна ўвайсьці ў плян працы краязнаўчага гуртка.

Бясспрэчна, што гурток ні ў якай меры не павінен паслабляць вывучэньне пытаньняў, зьвязаных з ростам колгасу: разьмеркаваньне працы ў колгасе, рацыянальнае скарыстаньне машын, мэтоды барацьбы са шкоднікамі, паляпшэньне пароды жывёлы, скарыстаньне ўгнаеньня, работа ўдарных брыгад, правядзеньне сустрэчных плянаў і г. д. Для організаванай і сыстэматычнай работы па вывучэньню раёну і атрыманьня належнага кіраўніцтва краязнаўчы гурток павінен зьвязацца з раённым бюро краязнаўства і з цэнтральным бюро краязнаўства.

Для сыстэматычнага высьвятленьня працы краязнаўчага гуртка, а таксама для афармленьня і пасылкі матар'ялу патрэбна выбраць пастаянных корэспондэнтаў. Калі раённае бюро ня зможа друкаваць матар'ялаў гуртка, то іх трэба накіроўваць у рэдакцыю краязнаўчага часопісу „Савецкая Краіна“ орган Цэнтральнага Бюро Краязнаўства.

Добра організаваная дасьледчая праца краязнаўчага гуртка павінна наладзіць краязнаўчы куток (музэй) пры хаце-чытальні колгасу. Усё жыцьцё колгасу, яго рост, уся дасьледчая праца павінна знайсьці адбітак у краязнаўчым музэі пры колгасе. Тут павінны быць сабраны дыяграмы, якія-б, супастаўляючы колгас з аднаасобнай гаспадаркай і паказваючы яго перавагу, яскрава паказалі разгортваньне жыцьця колгасу па ўсіх напрамках яго вытворчай працы—росту продукцыі, росту культурных запатрабаваньняў колгасьнікаў і г. д. У краязнаўчым музэі павінны быць сабраны ўсе экспонаты, якія-б характарызавалі паляпшэньне тэхнічных культур, паляпшэньне якасьці збожжа, кармавых траў, караньплодаў і г. д. з апісаньнем, якім шляхам дасягнута гэта паляпшэньне. Бясспрэчна, калі маюцца фотографічныя здымкі процэсаў працы колгасаў, ударнікаў, удзельнікаў грамадзянскай вайны і г. д., то яны павінны быць сабраны ў краязнаўчым кутку. Матар'ялы для краязнаўчага кутка павінны зьбірацца з такім разрахункам, каб патрэбную частку іх можна было здаць раённаму краязнаўчаму музэю.

У працы краязнаўчага гуртка колгасу павінна прыняць актыўны ўдзел вясковая інтэлігенцыя (настаўнікі, агрономы, дактары і інш.). З асаблівым посьпехам павінна разгарнуцца краязнаўчая праца ў раёнах дзейнасьці МТС; гэта гіганцкая сіла нашай соцыялістычнай тэхнікі ў апошнім штурме ліквідацыі капіталізму павінна стаць актыўнейшым барацьбітом за мобілізацыю мас да ўдзелу ў масавай навукова-дасьледчай працы.

Організацыя і работа краязнаўчага гуртка ў колгасе ёсьць частка масавай культурна-асьветнай працы і павінна цесна пераплятацца з работай саветаў, профсаюзных і грамадзкіх організацый. Работа краязнаўчага гуртка павінна праводзіцца пры штодзённым і непасрэдным кіраўніцтве партыйнай ячэйкі колгасу, сельсавету. Толькі організаваны ўдзел гуртка ў штодзённым соцыялістычным будаўніцтве і ў барацьбе за генэральную лінію партыі забясьпечыць нам неабходныя вынікі.

## Літаратура.

1. Сталін — Адказы таварышом колгасьнікам.
2. Сталін — Да аграрнай політыкі ў СССР.
3. Якаўлеў — Даклад на XVI зьезьдзе ЎсеКП(б).
4. Пастанова XVI зьезду аб колгасным будаўніцтве.
5. Бальшакоў В. — Задачы колгаснага будаўніцтва ў незернавых раёнах.
6. Новікаў — Бедната і батрацтва ў колгасным будаўніцтве.
7. Шэвякоў — Клясавая барацьба ў сучаснай вёсцы.
8. Асноўныя пытаньні суцэльнай колектывізацыі (дыскусія ў Комакадэміі).
9. Нікуліхін — Асноўныя пытаньні колгаснага руху („Большавік“ за 1930 г., № 22 і 23).
10. Колгасцэнтар СССР—Новыя законы і пастановы аб колгасным будаўніцтве.
11. Пастановы X зьезду Саветаў БССР па дакладу аб колгасным будаўніцтве і даклады: т. Галадзеда, т. Рачыцкага і т. Міцькова.
12. Пастанова VI Ўсесаюзнага зьезду саветаў аб калгасным будаўніцтве і даклады: т. Якаўлева і т. Юркіна.
13. Пастанова Ўсесаюзнай нарады колгасьнікаў аб працы ў колгасе.
14. Прыкладны статут арцелі.
15. Сталін — Галавакружэньне ад посьпехаў.
16. Пастанова ЦК УсеКП(б) аб барацьбе з скрыўленьнямі партлініі ў колгасным руху.

---

В. С.

# Супроць буржуазнай блытаніны ў школьным краязнаўстве.

У сучасны пэрыод разгорнутага социялістычнага наступленьня па ўсяму фронту і абвостранай клясавай барацьбы нам патрэбны асабліва выразныя і дакладныя ўстаноўкі ў працах мэтодычнага характару. Такія працы павінны ўзбройваць нас для барацьбы з рознымі буржуазнымі, варожымі пролетарыяту, плынямі, павінны дапамагаць нам пасьпяхова будаваць социялізм, выхоўваць працоўныя масы і падрастаючае пакаленьне ў комуністычным напрамку. Асаблівыя запатрабаваньні правільных марксыцка-ленінскіх установак мы павінны прад'явіць да розных мэтодычных дапаможнікаў у галіне школьнага краязнаўства, дзе яшчэ вельмі мала ёсьць адпаведных марксыцка вытрыманых прац.

У данай заметцы мы коратка спынімся на выданай у 1930 г. працы М. Я. Феноменава „Изучение деревни в школе“, дапушчанай Навукова-пэдагогічнай сэкцыяй Дзярж. Вучонага Савету як дапаможнік для выкладчыкаў [1]). На памянёнай кнізе трэба тым больш спыніцца, што, паводле слоў самога аўтара, нізавыя краяведы і настаўнікі „вучыліся мэтодам краязнаўчай працы“ па кнігах аўтара [2]) і ў тым ліку, бязумоўна, па кнізе „Изучение деревни в школе“, якую аўтар палічыў патрэбным у 1930 г. выдаць пятым выданьнем, зрабіўшы ў ёй „значныя зьмены“. З непасрэднага знаёмства з некаторымі працамі аўтара („Современная деревня“ і інш.) і з крытыкай іх [3]) мы даведваемся, што аўтар быў заражаны кандрацьеўшчынай і сьцьвярджаў, што селянін наогул супроць колектывізацыі. Колгасны рух аўтар лічыў „надуманым“. Аднак, М. Феноменаў адзначае, што ў 1929 г. у яго поглядах на шляхі разьвіцьця вёскі адбыўся пераварот („В порядке самокритики“, Советск. краевед., № 11-12, 1930). Значыць, можна было-б спадзявацца, што праца, выданая ў 1930 г., выявіць гэты пераварот і дасьць у рукі настаўніка-краяведа сапраўды карысны для школьна-краязнаўчае працы дапаможнік, пакажа, як можна і трэба паставіць у школе дасьледваньне сучаснай савецкай вёскі. Гэтага, аднак, мы не

---

[1]) М. Я. Феноменов. Изучение деревни в школе. Методическое пособие с рисунками и приложением инструкций по обследов. деревни и колхоза. Допущено научн. педаг. секцией Госуд. Учен. Сов. как пособие для преподавателей. Пятое издание. Работн. Просв. Москва. 1930. Ц. 1 р. Тираж 5000—4$^1/_2$ л.

[2]) М. Феноменов. В порядке самокритики. Советское краеведение. № 11-12, 1930, М. Л.

[3]) Проф. А. М. Бальшакоў — Кандрацьеўшчына ў краязнаўстве. Савецкая Краіна, № 2 (4), 1931, Менск.

знаходзім. А тым часам, адзначаючы некаторыя свае памылкі ў канцы 1930 г. („В порядке самокритики“) і называючы такія працы, як „Изучение быта деревни“. „Современная деревня“, „Путешествие в Московию“, „Углицкая провинция“, М. Феноменаў, а ні слова не гаворыць аб працы мэтодычнага характару „Изучение деревни в школе“. Значыць, можна думаць, што аўтар гэту сваю працу не далучае да пералічаных вышэй, лічыць яе карыснай і патрэбнай. Што-ж прадстаўляе сабой гэтая кніга? Якая ў ёй даецца мэтавая ўстаноўка? Куды і на што накіроўваецца дасьледчая праца ў школе?

Перш за ўсё мы лічым сваім абавязкам рашуча протэставаць супроць тэндэнцыі аўтара ўвесь пэдагогічны процэс у школе будаваць на аснове дасьледчай працы. Гэта не асноўная ўстаноўка нашай савецкай школы. Савецкая політэхнічная школа пэдагогічны процэс будуе на актыўным удзеле ўсяго школьнага колектыву ў нашым соцыялістычным будаўніцтве, у той клясавай барацьбе, якая адбываецца ў сувязі з рашучым наступленьнем соцыялізму на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, на ўдзеле школы ў будаўніцтве соцыялістычнае культуры і комуністычнага быту. Гэта асноўнае ў організацыі пэдагогічнага процэсу ў нашай савецкай школе. Але пра гэта М. Феноменаў не гаворыць. Ён застаецца на позіцыях разуменьня пэдагогічнага процэсу перадавых буржуазных пэдагогаў, якія ў большасьці далей прызнаньня актыўных мэтодаў працы ў школе ня ідуць. Нічога пролетарскага, клясавага ў разуменьні пэдагогічнага процэсу М. Феноменавым няма. Дасьледчая праца ў нашай школе мае вялікае значэньне і ў пэўнай меры ляжыць у аснове пэдагогічнага процэсу, але-ж яна сама (дасьледчая праца) зьяўляецца сродкам для найлепшай організацыі ўдзелу школьнага колектыву разам з партыйнымі, савецкімі і профэсіянальнымі організацыямі ў будаўніцтве соцыялізму. Зусім іншую ўстаноўку дае М. Феноменаў. Ён лічыць, што „необходимым условием для того, чтобы школа вела действительную ценную общественно-полезную краеведческую работу является *полная педагогическая автономія школы*“ (курсіў мой — *В. С.*). І далей:. . . „учитель наилучшим образом ведет краеведную работу не тогда, когда он выполняет извне данные, зачастую навязанные краеведные задания, а тогда, когда, стремясь возможно лучше выполнять свои прямые функции, т. е. стремясь возможно лучше учить ребят, он, во-первых, изучает самих ребят, а затем неизбежно выходит за пределы классной комнаты, начинает изучать жизнь и перестраивать жизнь“ (стар. 8). Такім чынам, аўтар за „поўную пэдагогічную аўтономію школы“, супроць „навязваньня“ ей краяведных (а напэўна і іншых грамадзкіх) заданьняў у імя „органічнага“ разьвіцьця і заканчэньня пэдагогічнага процэсу. Зразумела, з такімі ўстаноўкамі буржуазнага толку, якія ў корані супярэчаць устаноўкам савецкай школы, мы згадзіцца ніякім чынам ня можам. Гаварыць пра „поўную аўтономію“ школы цяпер, у пэрыод вялікіх клясавых боек у капіталістычных краінах, у пэрыод мобілізацыі ўсіх сіл савецкай грамадзкасьці на соцыялістычнае будаўніцтва ў нашым СССР і на змаганьне з клясавым ворагам у нашай савецкай краіне, — значыць, вылушчваць увесь рэволюцыйны зьмест у працы школы, нэўтралізаваць школу, адцягваць яе ад вырашэньня агульных задач, якія ставіць перад сабой (і перад школай) пролетарыят. Школа павінна выконваць у кожны даны час тыя задачы і тыя практычныя заданьні, якія ставіць перад ёй дыктатура пролетарыяту. І наша савецкая школа наўпрэкі М. Феноменаву выконвала і выконвае „извне данные“ краяведныя і грамадзкія заданьні: дасьледуе

культурнае становішча свайго школьнага раёну па заданьню органаў Нарасьветы для практычных задач культурнага будаўніцтва (адчыненьня новых комплектаў школ, дашкольных устаноў, лікпунктаў), прымае актыўны ўдзел у ліквідацыі прарываў у саўгасах, колгасах і інш.

Паглядзім далей, як-жа разумее М. Феноменаў краязнаўства, на якім ён думае будаваць пэдагогічны процэс у школе. Даўшы некалькі азначэньняў краязнаўства, М. Феноменаў прымае азначэньне краязнаўства, як краябудаўніцтва. „Краеведение не только познание края, но и работа над поднятием хозяйственного и культурного уровня края". Лёгка заўважыць, што такое разуменьне краязнаўства пазбаўлена ўсякага соцыялістычнага зьместу. Такое азначэньне краязнаўства можа быць прынята ў кожнай буржуазнай краіне. Амэрыканскае „ўтылітарнае" краязнаўства, пасьлядоўцам якога зьяўляецца М. Феноменаў, таксама ставіць сваёй задачай падняцьце гаспадарчага і культурнага роўню краю. Савецкае-ж краязнаўства ёсьць форма *актыўнага ўдзелу шырокіх працоўных мас у соцыялістычным будаўніцтве* краю шляхам усебаковага вывучэньня яго ў мэтах выкарыстаньня вынікаў дасьледчае працы для *соцыялістычнай перабудовы* краю. Розьніца паміж першым і другім азначэньнем краязнаўства ёсьць—і не маленькая.

Характарызуючы краязнаўства ў буржуазных дзяржавах, М. Феноменаў зусім ня спыняецца і не выкрывае клясавай прыроды і сутнасьці краязнаўства ў Германіі, Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатах і інш. Мала таго, аўтар знаходзіцца ў палоне амэрыканскага „ўтылітарнага" краязнаўства і ўтоесамляе наша савецкае і амэрыканскае краязнаўства. М. Феномэнаў знаходзіць, што програмы ГУС'у толькі выканалі „задачу приближения к американскай школе". Далей аўтар піша: „Краеведение же американского типа и наше советское трезво и практично; оно всецело приковывает внимание детей к делу творчества жизни в настоящий момент, связывая тем самым школу с современностью" (стар. 23). Розьніцы паміж „трезвостью и практичностью" амэрыканскага і савецкага краязнаўства М. Феноменаў ня бачыць, ці, больш правільна, ня хоча бачыць. Для яго важна „ўвага дзяцей да справы творчасьці жыцьця ў сучасны момант", а куды і на чыю карысьць накіравана гэта творчасьць—на гэтым аўтар ня спыняецца, не крытыкуе наскрозь буржуазнае амэрыканскае ўтылітарнае і практычнае краязнаўства. М. Феноменаў цалкам і поўнасьцю пераносіць яго на нашу савецкую глебу, гаворачы, напр., што „американизированное сельско-хозяйственное образование будет итти лучами от сравнительно немногих педагогических центров. Такими центрами понемногу становятся нашы ШКМ" (стар. 55). Нельга дапусьціць, каб аўтар нават у 1930 г. ня бачыў розьніцы ў пастаноўцы задач і ў самой сыстэме сельскагаспадарчай асьветы ў нашых ШКМ і ў амэрыканскіх школах і ў сельска-гаспадарчых фэрмэрскіх клюбах моладзі, мэтай якіх зьяўляецца „дапамога пашырэньню паміж іх членамі карысных ведаў, якія адпавядаюць палепшаньню ўмоў жыцьця і працы на фэрмах". Розьніцу гэту аўтар, бязумоўна, добра бачыў, але і ў 1930 пераломным годзе, калі асноўныя масы сялянства пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі рашуча пайшлі па шляху колектывізацыі сельскай гаспадаркі і ліквідацыі кулацтва як клясы на аснове суцэльнай колектывізацыі, ён адкрыта праз школу імкнецца працягнуць кандрацьеўшчыну, ажыцьцявіць буржуазна-кулацкія тэндэнцыі. Не задачу колектывізацыі бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак, а задачу „рацыяналізацыі" індывідуальных сялянскіх гаспадарак ставіць перад сабой

і пропагандуе ў сваёй кніжцы М. Феноменаў. Ён з захапленьнем апісвае працу цэлага шэрагу сельска-гаспадарчых краязнаўчых гурткоў, клюбаў і школ у СССР, якія выконваюць „заветы Леніна"—„паднімаць і паляпшаць сваю гаспадарку", індывідуальную гаспадарку членаў гурткоў, клюбаў і бацькоў вучняў школ. (гл. разьдзел „Савецкае краязнаўства", стар. 53—60). М. Феноменаў нідзе ў сваёй кніжцы ня ставіць пытаньня аб перабудове вёскі на колектыўных асновах, ён упарта і настойліва пропагандуе дасьледваньне індывідуальных сялянскіх гаспадарак у мэтах узмацненьня іх як аднаасобных гаспадарак. Пропагандуючы буржуазна-капіталістычны шлях разьвіцьця сельскае гаспадаркі, шлях разьвіцьця і ўзмацненьня індывідуальных сялянскіх гаспадарак (чытай кулацкіх), аўтар, як і трэба было чакаць, нідзе ніводным словам не гаворыць аб політыцы партыі, аб яе рашэньнях адносна соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі (і гэта пасьля пастаноў XV зьезду, XVI партконфэрэнцыі і лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б).

Монографічнае дасьледваньне вёскі М. Феноменавым праводзіцца не пад пунктам погляду соцыялістычнай перабудовы яе, ня ў мэтах высьвятленьня магчымасьцяй хутчэйшай яе колектывізацыі, але ў мэтах выяўленьня яе мінулага. Монографічнае абсьледваньне вёскі сіламі школы павышанага тыпу, паводле М. Феноменава, мае тое галоўнае значэньне, што „оно создает прочную базу дальнейшего продвижения вглубь веков"; вывучэньне бытавых рысаў—мае „колоссальное значение для понимания прошлого". Устаноўка М. Феноменава—на старое, „устойлівае", на замацаваньне старога ўкладу вёскі. Вясковы быт, экономіка, с.-г. тэхніка і г. д. павінны вывучацца (паводле аўтара) толькі ў мэтах палепшаньня, а ня ў мэтах соцыялістычнай перабудовы іх. У выданьні 1930 г. аўтар вельмі старанна і ўважліва фіксуе ўвагу чытача на ўсіх старых, аджыўшых с.-гаспадарчых прыладах (сохі, смыкі, дапаможныя „ралы" і г. д.), запаўняе некалькі старонак малюнкамі іх і нідзе не гаворыць аб укараненьні новай сучаснай тэхнікі. І гэта не выпадкова: новай, савецкай, колгаснай вёскі аўтар ня бачыць і ня хоча бачыць; ён зусім ня ставіць пытаньня аб вывучэньні найлепшых шляхоў колектывізацыі вёскі, правядзеньня культурнай рэволюцыі, стварэньня комуністычнага быту. Але затое мы знаходзім пастаноўку для дасьледваньня такіх „актуальных" пытаньняў: „не является ли более выгодным меньше запахивать, зато больше унаваживать? Какое соотношение между доходностью хуторского и общинного надела" і г. д. Нам здаецца, што кожнаму ясна, куды накіравана пастаноўка такіх „чисто практических вопросов".

Пры ацэнцы Кастрычнікаўскай рэволюцыі з боку вырашэньня зямельнага пытаньня М. Феноменаў знаходзіць, што рэволюцыя ў нечорназемнай паласе „только уничтожила те арендные платежи, которые платил крестьянин землевладельцам", у Ноўгародзкай вобласьці—„лишь закрепила те социально-хозяйственные завоевания, которые были сделаны крестьянами в течение последнего полувека". Выходзіць, што Кастрычнікаўская рэволюцыя ў гэтых вобласьцях нічога істотна новага не дала. Аўтар зусім ня спыняецца на высьвятленьні ролі ў устанаўленьні новых соцыялістычных форм сельскай гаспадаркі (саўгасы, колгасы), такіх вялізарнейшых і абавязковых умой, як ліквідацыя прыватнай уласнасьці і ўстанаўленьне нацыяналізацыі зямлі.

Клясавае расплastаваньне вёскі змазваецца, затушоўваецца, ня гледзячы на заяву аўтара, што „вопрос о расслоении стоит в центре нашего внимания". Вёску аўтар падзяляе на бядняцкія, сярэднія і за

можныя гаспадаркі (тэрмін „кулак“ ужыты, здаецца, толькі ў адным месцы), прычым М. Феноменаў тыя ці іншыя гаспадаркі залічае да пэўнага тыпу ў залежнасьці ад маемаснага стану гаспадаркі (колькасьць коняй, кароў, велічыня прыбыткаў), а не ў залежнасьці ад сыстэмы гаспадараньня (наём і продаж рабочае сілы)[1]). Такія азбучныя ісьціны ў 1930 г. чамусь застаюцца невядомымі для аўтара.

Трэба толькі дадаць, што аўтар ні слова нідзе не гаворыць пра клясавую барацьбу на вёсцы. Чым гэта тлумачыцца—няхай адкажа сам Феноменаў: ці тут меркаваньні палітычнага, ці пэдагогічнага парадку.

Нашы агульныя вывады:

1. Устаноўка М. Феноменава на організацыю пэдагогічнага процэсу ў савецкай політэхнічнай школе на аснове толькі дасьледчай працы зьяўляецца няправільнай; пэдагогічны процэс у нашай сучаснай школе павінен будавацца на аснове актыўнага ўдзелу школьнага колектыву ў соцыялістычнай вытворчасьці, у барацьбе пролетарыяту супроць яго клясавых ворагаў, у будаўніцтве соцыялістычнай гаспадаркі і культуры.

2. Краязнаўства наогул (і школьнае таксама) у разуменьні М. Феноменава ня мае соцыялістычнага зьместу і соцыялістычнай мэтаімкненнасьці; аўтар цалкам і поўнасьцю прымае для нашай савецкай школы амэрыканскае „ўтылітарнае“ краязнаўства, накіроўваючы дасьледчую працу школы (розных тыпаў) на падняцьце і разьвіцьцё выключна індывідуальных гаспадарак.

3. Праца М. Феноменава „Изучение деревни в школе“ зусім не орыентуе настаўніка-краяведа на дасьледваньне вёскі ў мэтах яе соцыялістычнай перабудовы, наадварот, яна мае сваёй мэтай замацаваньне позіцый індывідуальных гаспадарак у новых савецкіх умовах. (Невялічкі програмны дадатак у канцы кнігі па апісаньні колгасу (стар. 129—132) справы не мяняе).

4. У кніжцы даецца няправільны, немарксыцкі „клясавы“ аналіз вёскі, замоўчваецца клясавая барацьба на вёсцы і, зразумела, не адзначаецца роля партыі ў соцыялістычнай перабудове вёскі, якой аўтар не заўважае і ў 1930 г.

5. З прычыны наяўнасьці ў кнізе вялікіх ідэолёгічных і мэтодолёгічных хібаў і орыентацыі ўсёй дасьледчай працы настаўніка-краяведа і школы на мінулае, аджываючае, з чым мы павінны змагацца, памянёную вышэй кнігу „Изучение деревни в школе“ трэба лічыць шкоднай для карыстаньня ў працы, ня гледзячы на яе нядаўні выхад і апробацыю навукова-пэдагогічнай сэкцыі ГУС'у.

---

[1]) Стар. 109.

Кудэльскі.

# Копыскі раён актыўна рыхтуецца да другой бальшавіцкай.

У раёне 85 колгасаў, у якіх 1.870 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, што складае 34,8% ад агульнай колькасьці бядняцка-серадняцкіх гаспадарак раёну. Прыліў за апошнюю дэкаду 190 гаспадарак. Пахаці ў колгасах, прыгараднай фэрме і ў нетрасьціраваным саўгасе 39% да ўсёй пахаці ў раёне.

Для далейшага разгортваньня колектывізацыі ў раёне складзена 10 вярбовачных брыгад і 3 ініцыятыўныя групы. Меўшыяся раней ініцыятыўныя групы ўжо аформіліся ў колгасы.

Растлумачэньне пастаноў VI-га зьезду Саветаў Саюзу і 3-га Ўсебеларускага колгаснага праведзена на шырокіх пленумах с./с., на якіх прысутнічала каля 850—900 чалавек, па 85 колгасах і ў большасьці вёсак сярод бядняцка-серадняцкага насельніцтва. Была завострана ўвага на шкоднасьці кулацкай агітацыі супроць колгаснага будаўніцтва. У выніку прапрацоўкі пастаноў 21 колгас перайшлі на зьдзельшчыну, падвысіўся тэмп контрактацыі і прыліў у існуючыя колгасы. Выяўлены выпадкі опортуністычнай бязьдзейнасьці і спадзей на „самацёк“ у справе падрыхтоўкі да вясеньняй сяўбы з боку асобных партыйцаў (Гараўцоў—старшыня колгасу „Чырвоны Кастрычнік“ Маслакоўскага с./с.). Па Зубаўскаму с./с. выяўлена, што пры правядзеньні контрактацыі малака мелі месца левыя загібы—давядзеньне пляну бядняцка-серадняцкім гаспадаркам у парадку цьвёрдага заданьня, што было рашуча асуджана кіраўнічымі раённымі організацыямі.

У час перавыбарчай кампаніі і чысткі колгасаў па 17 колгасах вычышчана 36 сямей.

Адбыўся пробны выезд у поле колгасу „Комінтэрн“, вычышчаны буйны кулак-афіцэр царскай арміі Груздоў (Маслакоўскі с/с.).

Кулак шалёна супраціўляецца колектывізацыі. Улюбёнымі мэтодамі падрыву ён выбірае ўсё:

а) падпал маемасьці колгасаў (вёска Чарное Якаўлевіцкага с/с.);

б) зьнішчэньне ўласнай маемасьці праз падпал (Зубаўскі с/с.);

в) подкуп колгасьнікаў кулаком, які пралез у колгас, для таго, каб яго ня вычысьцілі і заставілі ў колгасе;

г) запугваньне жанчын бяднячак і серадняччак: „вас цяпер маняць, а потым запрагуць“, асабліва гэта агітацыя праводзіцца сярод адсталай часткі вёскі.

д) запугваньне прыходам палякаў, якія з колгасьнікаў будуць драць скуру.

е) ізврашчэньне пастаноў VI-га зьезду Саветаў і 3-га колгаснага, што пад прымусам будуць заганяць у колгас.

Плян пасеўнай даведзены да бядняцка-серадняцкіх гаспадарак на 100%. Кулацка-заможным гаспадаркам цьвёрдае заданьне даведзена на 100%.

Вытворчыя праграмы складзены ў 60 колгасах.

Па 25 колгасах не праведзена землеўказаньне і ня складзены вытворчыя праграмы з-за адсутнасьці каморнікаў. Прыняты меры папаўненьня агроземлямернай сілай. Праца разьмеркавана сярод спэцыялістаў з такім разьлікам, каб да 20/IV г. г. гэта мерапрыемства было скончана.

Плян пасеўплошчы колгасамі і бядняцка-серадняцкімі гаспадаркамі прыняты ў межах контрольных лічбаў без зьмяншэньня.

Плян контрактацыі па раёну выкананы на 73,7%—па лёну 74,9%, па канаплі—98,6%, па бульбе 72,4%. Выкананьне пляну контрактацыі колгасамі па лёну 893 га альбо 86,6%, па канаплі 68,5 га альбо 63%, па бульбе 212 га—85%, па гароху 13,5 га—138%, па вікі 23,2 га—51%, па канюшыне 45 га—51% і звыш пляну законтрактавана 268 га зернавых.

Аднаасобныя гаспадаркі законтрактавалі 62,8% пляну—па лёну 1202 га альбо 67%, па канаплі 23 га (пляну па канаплі ня было), па бульбе 650 га альбо 67%, па канюшыне 114 га—53%, вікі 41 га—29%.

Як відаць з контрактацыяй ня важна, маецца недавыкананьне. Гэта тлумачыцца тым, што з боку паасобных с/саветаў мела месца бязьдзейнасьць і праяўленьне правага опортунізму на практыцы, а таксама яўная недаацэнка палітычнага значэньня контрактацыі з боку Коопсаюзу, у выніку чаго контрактацыя ў Старасельскім с/с стаіць і зараз яшчэ пад пагрозай зрыву. Зараз адпавядаючымі організацыямі раёну прыняты ўсе меры і даны ўстаноўкі аб выкананьні пляну контрактацыі да 20/IV г. г.

Засыпка насенных фондаў па колгасах выканана на 89,5% ад патрэбнага (па зернавых)—па лёну засыпана 558 цэнтнэраў альбо 54,1%, па каноплях 33%, па бульбе 138.63 цэнт. альбо 55%, па віцы 212 цэнт. альбо 30,2%, па канюшыне 13 цэнт.

На складах Коопсаюзу маецца 140 тон лёну, што здаволіць патрэбнасьць у насеньні лёну. Маецца пагроза зрыву пасеву кармавых траў, з-за адсутнасьці завозу насеньня гэтых траў. Страхфонд засыпан па зернавых у колгасах 378 цэнт. альбо выкананьне пляну 105%. Па аднаасобнаму сэктару страхфонд ня складзены.

Засыпка насеннага фонду Камітэтам ўзаемадапамогі—77%. Страхавых няма.

Як бачна з сказанага з складаньнем насенных фондаў перад раёнам стаіць задача шмат падцягнуцца, каб выканаць заданьні партыі і ўлады.

Цягавая сіла раёну знаходзіцца ў нездавальняючым становішчы: у колгасах налічваецца каля 1.724 коняй, забясьпечанасьць на 80%. Трактараў няма. Шклоўская МТС заключыла ўмовы з 11-ю колгасамі раёну, што недастаткова.

Рамонт інвэнтару праходзіць здавальняюча. Адрамантавана ў колгасах: хамутоў ралейных і вазавых 1.586 альбо 90%, калёс 673 альбо 80%, плугоў—764 альбо 95%, барон 1.311—65%.

Зернаачыстка выканана па раёну на 64,6%—у колгасах на 88% і ў аднаасобным сэктары на 49,2%. Гэта трэба лічыць ненормальным і да пачатку сяўбы плян патрэбна выканаць абавязкова.

Індывідуальны сэктар у раёне ў асноўным да вясеньняй сельскагаспадарчай кампаніі падрыхтаваны, забясьпечаны цягавай сілай, насеньнем і с/г. інвэнтаром. Бядняцкія аднаасобныя гаспадаркі будуць забясьпечаны насеньнем КСТУ, а бясконныя гаспадаркі будуць абслугоўвацца колгасамі.

Абмену вопытам колгасаў, як сысэмы, у раёне няма. Ёсьць абмен вопытам у конкрэтнай дапамозе колгасаў адзін аднаму: абмалот, адшуканьне кармоў і інш.

У раёне праведзены курсы рахункаводаў колгасу. Падрыхтавана 35 кіраўнікоў колгасу. Праводзяцца курсы ільнаводаў. Будуць праведзены курсы старшынь колгасаў. У час перавыбарчай кампаніі высунуты на кіруючую работу ў колгасах перадавыя колгасьнікі.

Абмен насеньня выкананы толькі на 24,4% пляну. Корм забраняваны па 36 колгасах: сена 676 цэнт., аўсу 548 цэнт.

На зьдзельшчыну перайшлі поўнасьцю 3 колгасы і часткова 21. У астатніх колгасах прынята рашэньне аб пераходзе з 15/IV-г. г. на зьдзельшчыну.

У соцспаборніцтве ўдзельнічаюць 12 колгасаў. Копыскі Райколгассаюз заключыў умову на соцспаборніцтва з Шклоўскім Райколгассаюзам і выклікаў Аршанскі.

Пробныя выезды адбыліся па 74 колгасах. Выезды паказалі, што ў сваёй пераважнай большасьці колгасы падрыхтаваны да вясеньняй сяўбы. Галоўныя недахопы падрыхтоўкі да сяўбы наступныя: 8 колгасаў не падрыхтаваліся выехаць у поле, у тым ліку 2 старых колгасы. Колгас „Комінтэрн“ Маслакоўскага с/савету ня поўнасьцю абагуліў інвэнтар, зусім не ачысьціў насеньне. Колгас „Чырвоны Кастрычнік“ нават не абмалаціў 50 цэнт. збожжа. Колгас „Зара“ Старасельскага с/савету не ачысьціў 5 цэнтн. насеньня, конныя граблі валяюцца пад сьнегам, не пачынены мяшкі. „Працаўнік“, „Чырвоная Зорка“ Якаўлевіцкага с/с. ня скончылі ачысткі насеньня. Колгас „Ляўкі“ Зубаўскага с/с. не забраняваў корм для вясеньняга севу. Колгас „Пролетары“ Зубаўскага с/савету не адрамантаваў 4 плугі 4 ралейных і 3 вазавых хамуты, ня поўнасьцю абагуліў калёсы, такое-ж становішча і ў колгасе „10-га зьезду Саветаў“—Зубаўскі с/с. Колгас „Пролетары“ Зубаўскага с/с. вынес пастанову ў адказ інтэрвэнтам засеяць звыш пляну 1,5 га аўсу, 1,5 га лёну і 0,5 канапель і на праданую продукцыю, атрыманую з гэтае плошчы, набыць акцыі Трактарацэнтру. Гэта неабходна адзначыць, як становучае зьявішча, як элемэнт павышэньня палітычнага роўню сялянства, уступіўшага ў колгасы.

Для правядзеньня выезду ў раёне з мобілізаванага актыву ў ліку 250 чал. былі ўтвораны брыгады, якія накіраваны ў с/саветы. На скліканых пашыраных пленумах с/саветаў з удзелам колгасьнікаў і настаўніцтва старшыя брыгадзіры прапрацоўвалі пытаньне VI-га Ўсесаюзнага зьезду і 3-га колгаснага і ў выніку прапрацоўкі прымаліся практычныя пастановы аб складаньні брыгад для пасылкі ў колгасы. Работа ў колгасах праводзілася брыгадамі па выпрацоўцы програмы выездаў у поле. 4/IV—праведзена нарада старшынь колгасаў па пытаньню веснавой сяўбы, колектывізацыі і пробнага выезду колгасу ў поле. У часе выезду організавана 3 колгасы ў ліку 48 гаспадарак. У Дуброўскім с/с. 17 гаспадарак уступілі ў існуючыя колгасы, у Аляксандраўскім с/с. 12 гаспадарак.

Брыгадамі выяўлена па Зубаскаму с/с. укрыцьцё сябрам с/с. Баразновым ад об‘ектаў абкладаньня 6 га зямлі (службовы надзел). Сам Баразноў зьяўляецца кулаком, які сваёй малатаркай закабаляў

беднату і як сябра с/савету патураў заможнікам, браў у сваю пуню сена заможніка, каб укрыць ад нарыхтовак.

Наогул работа брыгад і пробных выездаў значна падштурхнула ліквідацыю прарываў у падрыхтоўцы да сяўбы, у мобілізацыі сродкаў, у нарыхтоўках і г. д.

Вылучаныя брыгады і надалей застаюцца ў с/с. для правядзеньня падрыхтоўкі да вясеньняй сяўбы. І дана цьвёрдая ўстаноўка аб правядзеньні пробных выездаў да 20/IV па тых колгасах, у якіх яшчэ не праведзена, а таксама і па тых, якія паказалі слабую падрыхтоўку.

Колгасамі набыта за ўвесь час трактарных акцый на суму 10.006 руб.

Як вынікае з усяго сказанага, у раёне праходзяць агромнейшыя процэсы соцыялістычнай перабудовы, праходзіць агромнейшая праца і змаганьне шырокіх сялянскіх мас раёну, цьвёрда павярнуўшых і стаўшых на шлях колектывізацыі, за новае колектыўнае соцыялістычнае жыцьцё, супроць руціны, старынкі, супроць галечы. У гэтай вялікай творчай рабоце сустракаюцца пэўныя цяжкасьці, выліваючыся ў конкрэтныя недахопы работы па соцыялістычнай пераробцы сельскай гаспадаркі раёну. Трэба вывучыць дасканала гэтыя процэсы, трэба дасканала вывучыць прычыны і характар цяжкасьцяй барацьбы за соцыялістычную рэконструкцыю вёскі, трэба ў штодзённай працы па колектывізацыі і змаганьні з кулаком вывучаць прыёмы барацьбы кулака супроць соцыялістычнае рэконструкцыі вёскі, каб лепш і лягчэй было яго перамагчы. Гэтым павінны заняцца ў сваёй штодзённай працы шырокія масы колгасьнікаў, батрацтва, бедната і серадняцтва, організаваўшы ў сябе на мясцох—у колгасах, саўгасах, пры хатахчытальнях, пры школах краязнаўчыя гурткі. Маючыяся ў раёне краязнаўцы павінны актыўна ўключыцца ў падрыхтоўку да другой бальшавіцкай вясны і да вывучэньня ўсіх адбываючыхся пры падрыхтоўцы процэсаў. Такія агромныя соцыяльна-экономічныя зьдзьвігі, якія зараз адбываюцца ў вёсцы павінны быць у цэнтры ўвагі і працы па вывучэньню краязнаўчымі гурткамі.

**Д. Анэт і В. Бунтар.**

# На штурм... за новае!..

*(Нарыс)*

Раней была вёска Каранец...

Звычайная, невялікая. Было ў ёй 73 двары.

Мелася ў ёй вуліца—і вузкая і брудная...

Адны хаты старыя, пакрыўленыя і ўрасьліся ў зямлю, другія трохі лепш і прыемней.

Жыў Каранец, як і ўсе—звычайным жыцьцём...

Прайшла магутная рэволюцыя, прайшла і зьмяла гэту брыдоту, якая вякамі капілася. Шмат каму гэта было не па нутру — не па іх. Яны ціха, ня спыняючыся, шыпелі... і чуліся праклёны, хоць і моцныя, але зусім ня страшныя.

...Тады прайшло землеўпарадкаваньне і ўтварылася 4 пасёлкі. Зноў паплыло жыцьцё, крыху ляпей, але-ж падобнае на старое. Беднаце крыху стала вальней. Вось тады вораг пачаў ляскаць зубамі і надумаўся нешта зрабіць. Гэта нешта вельмі зразумелае з пункту гледжаньня клясавай барацьбы.

* * *

— Вечарэла... Нудна шэрая брудзь змрокаў расплялa па завугольлю свае косы. Вецер скаголіў... І ад гэтай цемнаты і жудасьці ўсё сьціхла. Усіх ахапіла ціхая, млявая нярухомасьць...

Раптам крык і злосныя языкі полымя ўзбудзілі і паставілі на ногі ўсю вёску.

— „Га-ары-ы-ым!“ „а-а-а-й-й-й! Вецер зьнянацку суха шархнуўшыся, падкраўся, падхапіў і панёс у цемень, у нябыцьцё! А-а-а-й-й-й... А ў гэтых словах чулася найвялікшая ў жыцьці крыўда і боль... і самі сабой уліваліся яны глыбока ў грудзі і поўнілі іх жалем бурным...

У думках дзіка пранеслося—„Ну хто? За што?“ і чамусьці жадалася—каб гэта была ня яў, а змрочная шэрая здань... Жудаснай хваляй агарнуліся думкі і абярнуліся ў найвялікшую страшэнную трывогу, якая расла, расла ў грудзёх, білася ў сэрцы ліхаманкавым балючым боем...

— Гэта было ўвосень, 10 год назад...

* * *

Табунамі разьбегліся дні ў раздум'і... хлынула вада ў пратокі і схілы, напаўняючы ліхаманкавым магутным валам ручаі і рэчкі. Іrвецца яна ў бязьмежную шыр лагчын, разьлілася яна шырокай празрыстай гладзьдзю, затапіла вялікія блакітныя прасторы і кусты вярбы і лясныя прыбярэжныя лагчыны. І напоўніўся вялікі магутны прастор сьвежым водарам вясны, яснымі праменьнямі вясноўскага сонейка...

Гэта прышла новая першая бальшавіцкая вясна, а з ёй разам расквітнелі чырвонай ружай і даўночаканыя, і прыгожыя, і слаўныя... Яны ціхай радасьцью шапталіся: „Трэба, жыць інакш, па-новаму, палепшаму.

Трэба жыць разам! Спачатку гэта было неяк дзіўна, нова... Але рабіць трэба. Доўга думалі, шукалі сваёй „сялянскай праўды“ і пераканаўшыся сказалі — „Будзе!“ „Мы цьвёрда ідзем у колгас!“



**Ініцыятыўная група колгасу „Чырвоны Партызан“.**

Пяць гаспадароў пасёлку „Чырвоны Прамень“ уступілі ў колгас. Назаўсёды парваўшы з прывычкамі гаспадара адзінаасобніка—палажылі яны цагліну ў вялікія муры колектыўнага будаўніцтва, уступілі ў колёну змагароў за колектывізацыю.

Другога верасьня 1929 году зьяўляецца датай нараджэньня сучаснага колгасу „Чырвоны Партызан“. З гэтага дня пяць ініцыятараў узяліся штурмаваць старую вёску і змагацца за новае, лепшае.

Шпаркімі і ўпэўненымі ў посьпехі крокамі пайшлі змагары ўперад па шляху Леніна.

Прайшоў месяц і „Чырвоны Партызан“ вырас у 37 гаспадарак. Ішлі і тыя, хто хацеў пазбавіцца ад кулацкай кабалы, ішлі і тыя, хто жадаў пад адзеньнем колгасьніка схаваць скуру клясавага ворага.

Але вораг быў адбіты. Мацнелі шэрагі колгасьнікаў, мацнела і гаспадарчае становішча.

* * *

Прайшоў год, усяго адзін з невялічкім год, і сёньня, пад'яжджаючы да вёскі Каранец, вы маеце магчымасьць бачыць па правы бок шосэ сілосную вежу, разьлічаную на 360 тон зялёных кармоў, новыя будынкі і шмат іншага. Стройна і прыгожа стаіць вежа, а побач з ёю сьвінарнік.

Колгасьнікі сапраўды, не на словах, а на справе, павярнуліся тварам да сьвінагадоўлі.

Сьвіное стада ў 180 галоў добра адчувае сябе ў сьветлым і цёплым сьвінарніку.

— Вось пародзістыя кнур „Біксьлер". Ён нядаўні жыхар сьвінарніку—усяго 2-3 месяцы.

— „Апэтыт ў яго вельмі добры" — кажа маладая вясёлая дзяўчына, адна з лепшых ударніц колгасу—Ягоранкава Ганна.

„Бабёр" ангельскай пароды кнур. Здаровы бяляк, вядзе сябе прыемна. Недалечка ад яго „Рыхман".

Тут-жа кухня, у якой колгасьніцы вараць страву для сваіх „белых любімцаў".

Кормяць добра, сытна — малым даюць тры разы ў дзень. Ня дарма яны сытыя, чыстыя, гладкія напоўняюць сьвінарнік здаволеным хруканьнем.



Сілосная вежа колгасу на 360 тон

* * *

Маленькая хатка каля канюшні зьяўляецца памяшканьнем для начных вартаўнікоў і майстэрняй рамонту збруі.

На стале вэтэрынарная аптэчка, побач рэзка кідаецца ў вочы „Асновы Вэтэрынарыі". Колгас мае 59 коняй з іх 52 рабочых — „яны ў нас да 5 гадзін раніцы накормлены і напоены", кажа конюх т. Карнееў.

Толькі за адзін год калгас „Чырвоны Партызан" акрамя пабудовы сілоснай вежы і сьвінарніку, даў задатак на трактар 1.300 рублёў. Колгасу патрэбен грузавы аўтомобіль, далі 2.800 руб. Набылі складаную малатарку, якая каштуе 3.100 руб., купілі 2 сячкарні, 3 жнейкі, 2 сявалкі ды інш...

Але як-жа выконваюць колгасьнікі „Чырвонага Партызану" лёзунг змычкі рабочае клясы з сялянствам?

Высунуўшы сустрэчны плян па нарыхтоўках, колгасьнікі здалі дзяржаве 45 цэнтн. жыта, замест вызначаных па пляну 28 цэнтн. Па ільно-насеньню заданьне — 23 цэнтн., здана 37 цэнтн. Заданьне па ільно-валакну — 6 цэнтн., здано 12 цэнтн.

Колгасьнікі „Чырвонага Партызану“ добра ведаюць, што, перавыканаўшы плян па ільно-валакну, яны і яшчэ сотні і тысячы іншых колгасьнікаў дадуць сыравіну тэкстыльнай прамысловасьці.

Перавыканалі колгасьнікі і плян па рэалізацыі пазыкі „Пяцігодка ў 4 гады“—было заданьне на 200 рублёў, а падпісаліся на 1.070 рублёў. Колгас абвясьціў сябе ўдарным для правядзеньня другога бальшавіцкага севу.

У гэтым годзе да колгасу „Чырвоны Партызан“ далучаецца суседні колгас „імя Молатава“.

Ад вакольнага сялянства паступае шмат заяў аб прыёме — значыць колгас расьце.

* * *

Мітусяцца дні — вясновыя... шчырыя...

Разьбегліся табунамі ў прастор. Прышла прыгожая, апетая птушкамі і ядраным храраствам, пявучая другая бальшавіцкая вясна.

...Здаецца зусім няпрыкметна, нават ня ўгледзелі, калі прыляцела яна.



Колгасьнікі ў чырвоным кутку чытаюць газэту.

Мы стаім ў полі з кіпуча бурным сэрцам, а яно рвецца ў прастор, у бязьмежнасьць юнацкіх падзей і бачым, як вясна, што далей, то больш апавіваецца вянком сьвежага, новага, прыемнага...

Стаім і ўспамінаем...

— Раней тут была нудная шэрая вёска... А цяпер тут колгас, цяпер тут мора жыцьцёвай радасьці... Тут крынічыць жыцьцё.

* * *

Вясноўская раніца брызнула сонечным крыкам: праходзіць другая магутная бальшавіцкая вясна.

Вузорным хлебным дыванам заквітнеюць палі...

Социялістычныя будні ствараюць жывыя легенды і клічуць усіх.

— На штурм за новае...

# ХРОНІКА.

## Настаўнікі павіны дапамагчы вучням організаваць краязнаўчую працу.

Краязнаўства, як сродак актыўнага ўдзелу шырокіх працоўных мас нашага Савецкага Саюзу ў соцыялістычнай перабудове свайго краю праз масавае організаванае вывучэньне свайго прадпрыемства, колгасу, саўгасу і раёну, пачынае рабіцца зараз кроўнай, блізкай справай рабочых, колгасьніцкіх і бядняцка-серадняцкіх мас. Савецкае краязнаўства ўсё больш і больш пачынае захапляць і вучняў нашай савецкай школы асабліва ў сувязі з політэхнізацыяй апошняй. І гэта зусім зразумела, бо політэхнізацыя школы вельмі цесна зьвязана з краязнаўствам. Краязнаўчыя экскурсіі, вывучэньне прамысловых прадпрыемстваў, колгасаў і саўгасаў, вывучэньне вытворчасьці на прадпрыемствах і ў гаспадарках соцыялістычнага тыпу, дасьледваньне вытворчых сіл краю і г. д.—усё гэта ў значнай меры дапамагае політэхнічнай адукацыі моладзі. Вось чаму ў цэлым шэрагу школ мы бачым імкненьне вучняў наладзіць краязнаўчую працу, але, на вялікі жаль, часта ні настаўніцтва, ні мясцовыя раённыя бюро краязнаўства не скарыстоўваюць ініцыятывы дзяцей, не дапамагаюць ім організаваць і належным чынам паставіць краязнаўчую працу ў гуртку, з прычыны чаго самі вучні непасрэдна зьвяртаюцца ў ЦБК за рознага роду парадамі, дапамогай. Так, напр., адзін вучань піша: „жадаючы дапамагчы вам у зборы рознага вясковага матар'ялу... прашу даць мне напрамак у гэтай працы, указаўшы, які матар'ял патрэбен для вас, у якой форме трэба яго даслаць і г. д. (в. Бахань, Журавіцк. р.) Вучні з Суражу (ФЗС), Слуцку, Рудзенску, Бабра і г. д. просяць кіраўніцтва ў працы, прысылкі заданьняў, програм і інструкцый. Зусім зразумела, што ажыцьцявіць непасрэднае кіраўніцтва і даць конкрэтныя заданьні школьнаму краязнаўчаму гуртку ЦБК ня мае магчымасьці. Тут патрэбна дапамога і кіраўніцтва з боку настаўнікаў, пэдсавету і мясцовага бюро краязнаўства.

Старшыня краязнаўчай організацыі пры обрскай ШКМ піша: „Наша краязнаўчая бэкцыя хоча мець з вамі сталую сувязь, сякую нельга было-б нічым прарваць... Заданьні будзем выконваць з захапленьнем, в мся гэтай працай“ (краязнаўчай). о захапленьне краязнаўчай працай маецца ня толькі ў вучняў бобрскай ШКМ, але і ў вучняў іншых школ. Трэба толькі накіраваць належным чынам гэта захапленьне ў бок карыснай краязнаўчай працы, організаваць гэту працу і забясьпечыць вучнёўскую краязнаўчую організацыю адпаведнай мэтодычнай дапамогай. Гэта—абавязак школьных саветаў.

Краязнаўчая праца ў школе мае надзвычайна вялікае выхаваўчае значэньне, крязнаўства зьяўляецца магутным сродкам політэхнізацыі школы, і на пастаноўку яго ў школе настаўніцтва павінна зьвярнуць вялікую і сур'ёзную ўвагу.

*В. С. іч.*

## Узмацнім абароназдольнасьць нашай Савецкай краіны

Дарагія таварышы!

У сувязі з сыстэматычнай падрыхтоўкай вайны супроць СССР, якая вядзецца ва ўсіх капіталістычных дзяржавах, узмацненьне абароназдольнасьці нашага Саюзу ў сучасны момант набывае выключнае значэньне. Ваенная гатоўнасьць СССР зьяўляецца самай сапраўднай гарантыяй міру, які патрэбен нам для пасьпяховага ажыцьцяўленьня пяцігадовага пляну соцыялістычнай рэконструкцыі нашай краіны. Краязнаўчыя організацыі СССР ня могуць застацца ў баку ад вялікай работы, якая праводзіцца шырокімі масамі рабочых, колгасьнікаў і ўсіх працоўных над узмацненьнем большай магутнасьці СССР. Усе краязнаўчыя організацыі, узмацняючы работу па вывучэньню абароназдольнасьці краіны, павінны прыняць самы актыўны ўдзел у непасрэднай дапамозе ўзмацненьню баявой магутнасьці нашай чырвонай арміі і організаваць сярод краяведных мас збор сродкаў на пабудову самалёту „Краявед“, які павінен ўвайсьці ў рады пролетарскага паветранага флёту. Збор сродкаў павінен быць закончаны да 1 ліпеня.

Сабраныя сродкі штомесячна павінны пераводзіцца па бягучы рахунак № 86/101602 ЦэнтральнагаБюро Краязнаўства ў Дзяржбанку (у Менску) з паведамленьнем ЦБК аб пераведзенай суме.

Пэрсональная адказнасьць за пасьпяховасьць правядзеньня збораў), на аснове соцспаборніцтва, выклікаў ускладаецца на старшынь раённых бюро краязнаўства.

Нам. Старшыні ЦБК Ф. Садоўскі.

Навуковы Сакратар В. Самцэвіч.

## Дапаможам падрыхтаваць кадры па шаўкоўніцтву.

Спэцыяльныя досьледы ў розных месцах БССР паказалі, што ў нас з поўным посьпехам можна займацца шаўкоўніцтвам — вырашчваньнем тутавага дрэва і разьвядзеньнем шаўкоўнай чарвы для атрыманьня коканаў. Шаўкоўніцтва ў БССР асабліва можа быць пашырана ў сувязі з колектывізацыяй бядняцка-серадняцкіх гаспадарак; у колгасах яно можа зьявіцца адным з прыбыткоўных відаў заняткаў. Для правільнай організацыі шаўкоўніцтва ў кожным колгасе неабходна мець падрыхтаванага інструктара па шаўкоўнай справе. Адпаведную падрыхтоўку можна атрымаць завочным спосабам, для чаго трэба запісацца на *завочныя курсы па шаўкоўніцтву*, якія організаваны Цэнтральнай Шаўкаводнай станцыяй (Масква 22, Зьвянігародзкае шосэ, 11, курсы завочнага навучаньня шаўкоўніцтву) і разьлічаны на 6 месяцаў (усярэднім). На курсы можа запісацца кожны колгасьнік, які мае падрыхтоўку ў аб'єме масавай савецкай школы. Плата — 5 руб. (можна ў растэрміноўку).

Падрабязныя весткі аб паступленьні на шаўкаводныя курсы можна атрымаць ад Праўленьня курсаў і ЦБК.

Прымаючы пад увагу гаспадарчае значэньне падрыхтоўкі кадраў па шаўкоўніцтву ў БССР, усе краязнаўчыя організацыі павінны шырока популярызаваць значэньне разьвіцьця шаўкоўніцтва ў колгасах БССР і падрыхтоўкі кадраў. Краязнаўчыя організацыі БССР павінны дапамагчы організаваць справу шаўкоўніцтва ў колгасах свайго раёну і зацікавіцца справай падрыхтоўкі кадраў па шаўкоўніцтву завочным шляхам.

В. С.

## Адказы і парады пачынаючым краяведам.

1. Тав. Піскуну (в. Роўнапольле). Краязнаўчую працу найлепш організаваць у краязнаўчым гуртку. Такі гурток можна організаваць у кожным колгасе, саўгасе і вёсцы. У сваёй працы гурток павінен цесна зьвязацца з мясцовымі савецкімі і партыйнамі організацыямі і раённым бюро краязнаўства. Гурток можа выпісаць патрэбную літаратуру па розных пытаньнях (можна праз ЦБК), абгаварыць розныя пытаньні адносна найлепшай організацыі працы, выбару тэм для працы і інш.; у гуртку можна праводзіць працу колектыўна. У гуртку можна ў першую чаргу заняцца вывучэньнем організацыі працы ў сваім колгасе, быту колгасьнікаў, вывучэньнем колгаснага руху ў сваім сельсавеце (рост колгасаў, колгасны прыліў) і інш. Програма па вывучэньні колгасаў у хуткім час будзе надрукована ЦБК і разаслана краязнаўчым організацыям.

2. Тав. Хаўкіну (в. Бахань, Журавіцк. р.). У сучасны момант нам неабходна вывучаць усё тое, што можна выкарыстаць для нашага соцыялістычнага будаўніцтва (соцыялістычнае гаспадаркі і культуры), для павялічэньня тэмпаў гэтага будаўніцтва. Нам неабходна дакладна вывучыць усе нашы прыродныя багацьці: залежы гліны (для будаўніцтва цагляных і чарапічных заводаў), торфу (для апалу, угнаеньня, хэмнічнай апрацоўкі), вапнякоў (для ўгнаеньня глебы) і г. д.; неабходна вывучыць і падзяліцца вопытам найлепшай організацыі колгасаў, найлепшага вырашэньня пытаньня жывёлагадоўлі, кармавога пытаньня і інш.

Займацца зьбіраньнем розных старых прыказак, прыпевак і г. д. ня раім; запішыце лепш сучасныя *савецкія* песьні, прыпеўкі, прыказкі, якія нарадзіліся ў пэрыод Кастрычнікавай рэволюцыі і соцыялістычнага будаўніцтва і якія адбіваюць посьпехі пролетарыяту ў будаўніцтве соцыялістычнай гаспадаркі і культуры ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, напр.: песьні і прыпеўкі аб колгасным будаўніцтве, аб фабрычным жыцьці і працы, аб адміраньні рэлігіі аб працы комсамольскай організацыі, аб новым быце і г. д. Запіс павінен быць дакладны (як чуецца), з паказаньнем ад каго запісана тая ці іншая песьня (прозьвішча, імя, соцыяльнае становішча), дзе запісана (колгас, вёска і раён), калі і кім запісана, сярод каго больш пашырана (колгасьнікаў, беднякоў, серадняком і г. д. і, калі вядома, кім і дзе зложана.

ЦБК у хуткім часе будзе апрацована спэцыяльная інструкцыя адносна запісу савецкага фольклёру і разаслана па краязнаўчых організацыях.

3. Краязнаўчаму гуртку пры Сураскай ФЗС. Высылаем Вам брошуру аб монографічным вывучэньні фабрык і заводаў. Організуйце дасьледваньне таго прамысловага прадпрыемства, да якога прымацавана Ваша школа. Магчыма распрацаваць ня ўсё, а толькі адно якое-небудзь з пытаньняў вызначаных у брошуры.

Выдавец—Беларуская Акадэмія Навук.



Друкаия БАН. Заказ № 656. Галоўлітбел № 847. Тыраж 1300 экз. 5 арк. і 10 стар.

# Зьмест

*Стар.*

**Ф. П. Садоўскі.**—За актыўнае змаганьне з вялікадзяржаўным шовінізмам . . . . . . . . . . 3

**С. Баркоўскі.**—Першае мая на Беларусі. . . . . . 12

**Мацьвяёнак.**—Рэволюцыя 1905 г. на Магілеўшчыне . . . 21 ✓

**І. Гершэнбаўм.**—Мястэчка Шчадрын у рэконструкцыйным пэрыодзе 31

**Р. Р.**—Контр-рэволюцыйная работа нацдэмаў і кандрацьеўцаў у катэдры коопэрацыі і колектывізацыі БАН . . . 42

**В. Самцэвіч.**—Як організаваць краязнаўчую працу на фабрыцы і заводзе . . . . . . . . . . 48

**В. Серафімаў.**—Вывучай колгас . . . . . . 63

**В. С.**—Супроць буржуазнай блытаніны ў школьным краязнаўстве 74

**Кудэльскі.**—Копыскі раён актыўна рыхтуецца да другой бальшавіцкай . . . . . . . . . . 79

**Д. Анэт і В. Бунтар.**—На штурм... за новае!.. . . . . . 83

**ХРОНІКА:**

Настаўнікі павінны дапамагчы вучням організаваць краязн. працу 87

Узмоцнім абароназдольнасьць нашай савецкай краіны . . 87

Дапаможам падрыхтаваць кадры па шаўкоўніцтву . . . 88

Адказы і парады пачынаючым краяведам . . . . . 88

Цана 50 кап.

# Працягваецца прыём падпіскі на 1931 год

— НА —

ШТОМЕСЯЧНЫ ОРГАН
ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА
пры Беларускай Акадэміі Навук

# „САВЕЦКАЯ КРАІНА"

„Савецкая Краіна"—навукова-дасьледчы, навукова-папулярны марксыцка-ленінскі краязнаўчы часопіс—зьмяшчае артыкулы навукова-дасьледчага, навукова-папулярнага, палітычна-масавага, публіцыстычнага, апісальнага характару, а таксама краязнаўчыя нарысы, марксыцка-ленінскую крытыку, рэцэнзіі і бібліографію.

„Савецкая Краіна"—магутны барацьбіт за марксыцка-ленінскую ідэолёгію, за дыялектычны мэтод Маркса-Леніна ў краязнаўстве і навуцы, магутны барацьбіт за генэральную лінію комуністычнае партыі.

„Савецкая Краіна"—ваяўнічы змагар з варожымі марксызму-ленінізму плынямі ў краязнаўстве і навуцы, які ставіць задачу ваяўніча змагацца з контр-рэволюцыйным беларускім нацыянал-дэмократызмам за пролетарскую навуку і культуру, за савецкае краязнаўства.

„Савецкая Краіна"—ставіць задачай мобілізацыю шырокіх мас на дасканалае навуковае дасьледваньне вытворчых сіл БССР у інтарэсах соцыялістычнага будаўніцтва і на непасрэдны ўдзел у гэтым будаўніцтве

„Савецкая Краіна"—за савецкае краязнаўства.

„Савецкая Краіна"—за перабудову ўсёй краязнаўчай працы на новых вытворчых асновах. Кожны завод, кожная фабрыка, кожны саўгас, колгас,—даёш краязнаўчыя ячэйкі для вывучэньня вытворчых сіл у інтарэсах пасьпяховага соцыялістычнага будаўніцтва.

„Савецкая Краіна"—орыентуецца на масавага краязнаўцу. Партыйцы і комсамольцы, беспартыйныя рабочыя, колгасьнікі, батракі, бедната і лепшая частка серадннякоў, студэнцтва, вучнёўская моладзь, вясковая і гарадзкая інтэлігенцыя, адданая справе соцыялістычнага будаўніцтва, актыўна пішэце ў часопіс вашы краязнаўчыя допісы.

**Часопіс „САВЕЦКАЯ КРАІНА" выходзіць раз у месяц.**

**Кожны завод, кожная фабрыка, кожны колгас, саўгас, вёска, школа, тэхнікум, ВНУ, хата-чытальня, клюб, нардом, чырвоны куток, кожны фабком, заўком, мясцком, кожны профсаюз, кожны настаўнік, навуковы працаўнік, кожны рабочы, батрак, бядняк-актывісты, кожны экономісты, культасьветны, коопэрацыйны працаўнік—усе падпішэцеся на 1931 год на часопіс „САВЕЦКАЯ КРАІНА".**

## Умовы падпіскі:

| | |
|---|---|
| На год . . 4 р.—к. | На 3 м-цы 1 р. 25 к. |
| На 9 мес. . 3 р. 25 к. | На 1 месяц — 50 к. |
| На паўгода 2 р. 25 к. | **Падпіска з кожнага месяца** |

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: У Бюро падпіскі БДВ (Менск, Савецкая, 79, рог Ленінскай), у рэдакцыі часопісу „Савецкая Краіна" (Менск, рог Ленінскай і Унівэрсытэцкай, 29/35, ЦБ Краязнаўства), ва ўсіх паштовых аддзяленьнях, у раённых краязнаўчых організацыях і ва ўсіх кнігарнях Бел. Дзярж. Выдав. і інш.**